## Байцы нябачнага фронту

*Гэта быў час, калі наш гулец у чужой камандзе (ці наадварот?) Сева Наўгародцаў лашчыў з далёкага Лондана слых адданай аўдыторыі згубнай для сацыялізму музыкай хард-рокераў з «Grand Funk Railroad». Звыкла пасмоктваючы праз саломінку «кока-колу», хіба што па чутках вядомую мірным грамадзянам Саюза, папулярны вядучы нібыта музычных праграм «Бі-Бі-Сі», а для хлопцаў з Лубянкі — подлы адшчапенец, здраднік радзімы і патэнцыйны кліент даваў жыхарам зоны-дзяржавы магчымасць спазнаць забаронены смак альтэрнатыўнай культуры.*

*А па другі бок жалезнай заслоны, на ўсход ад Лондана, некаторыя з Севавых удзячных слухачоў, завочных выхаванцаў і былых землякоў, не самыя, магчыма, геніяльныя, але, безумоўна, самыя дасціпныя, актыўныя і пры тым гатовыя — калі гэтак карта ляжа-пакажа — рызыкнуць многім, у тым ліку і ўласным здароўем, ужо не толькі саграваллі душу забароненымі мелодыямі, але і спрабавалі змяніць свае, здавалася, навекі прадвызначаныя лёсы.*

### I

Спыняць — не спыняць? Паклікаюць — не паклікаюць? Дваццаць метраў да ляска-выратавальніка, пятнаццаць, дзесяць. Ах, як хочацца рвануць з усёй сілы... Ах, як... Я табе рвану, трус няшчасны! Я т-табе! Нават шпарчэйшага кроку не зрабі! Ідзі



спакойна, упэўнена, без паскарэння! Чаго затрымцеў? Ад дрыжыкаў сэрца злева направа пераскочыла? Шарыкі за ролікі закаціліся? Не напінайся! Нацягні лейцы! Ты ж у Султанавай куртцы. Эксклюзіўнай, з белае скуры, з башлыком. Значыць, са спіны ты і ёсць Султан. Замежны студэнт. А за гэтымі хлопцамі гэбісты не надта наўздагон пусцяцца, не надта.

Вось і лясок-выратавальнік! Родны ты мой, ненаглядны... Пяць метраў да свабоды, два... Сціснуў кулакі і, апошнім намаганнем волі скінуўшы скаванасць (а яна, хай усярэдзіне, глыбока на дне душы, усё ж была, гэта я цяпер, праз гады, казыраюся), утаймаваў у сабе жаданне пусціцца бегма, зайшоў пад сасновыя кроны спакойна. Зрабіў непаслухмянымі нагамі яшчэ некалькі крокаў і схаваўся за дрэвамі. Толькі пасля гэтага рашыўся — і даў волю нагам, паімчаў без аглядкі, нібы ад смерці ўцякаў. І гэта, магчыма, не было перабольшаннем. Пільныя хлопцы ў цывільным: гэбэшнікі, абэхээснікі, іхнія шасцёркі — камсамольскія актывісты і звышактыўныя (лічу, такімі не робяцца, а родзяцца) народныя дружыннікі, накінуўшыся разам, каго хочаш маглі адправіць на той свет. Такое здаралася...

Я імчаўся, але гнаў мяне не страх. Падганяла і прымушала рызыкаваць жаданне вырвацца з галечы. Вырвацца з нуднага будзённага жыцця маленькага савецкага чалавека-чалавечка, будаўніка светлай будучыні (ды ўжо ж, з цёмнага мінулага!). Гнала і падганяла: вынось ногі, браток, уцякай, ад жытухі, што не абяцае нічога, апроч рабства. Другога варыянта скінуць яго ланцугі ў цябе няма і не будзе. Не заяўляцца ж з паклонам у ненавісныя органы, каб падпісаць пэўную паперку і стаць даносчыкам, якіх

па службе першымі ў людзі прасоўваюць. А без гэтага не чакай павышэння, будзе адно таптанне на месцы. Значыць, зноў табе давядзецца быць такім, як усе, зведваць толькі дазволеныя радасці: цешыцца, што няма вайны, што нейкім цудам на васьмітомнік Артура Конан-Дойла падпісаўся, што жывеш у самай чытэльнай краіне. А галоўнае, ты будзеш чакаць, як манны нябеснай, мізэрнага авансу, каб дацягнуць да зарплаты. Усё жыццё чакаць авансу! Усё! А вяршкі за цябе будуць здымаць іншыя. Іншыя будуць плаваць у «капустачцы», а заадно і ў цёплых морах і акіянах, цешыцца шчаслівым жыццём і дыхаць на поўныя грудзі. Табе ж яны кінуць толькі адну костку-надзею — чакаць!

Я не выношу чакаць! Нікчэмны гэта занятак і, галоўнае, як правіла, марны. Хоць і малады, а пакуты чакання ўжо зведаў на сваім вопыце і на ўласнай скуры. Колькі разоў даводзілася чакаць! Чакаць і праклінаць усё на свеце, вар’яцець ад думкі, што ты бяссільны нешта змяніць, нешта зрушыць з месца, скараціць час чакання. Я не хацеў чакаць з мора пагоды і таму імчаў, правальваючыся ў закіданыя снегам ямкі, чапляючыся за нябачныя ў лясным змроку патырчакі, іншы раз ледзь не падаючы, баючыся не так за сябе, колькі за дарагую мне ношу. Не мог я спыніцца, зламацца, здацца, каб потым, узятым з доказам злачынства і дзіка запалоханым, падпісацца на сексоцтва. Не меў на гэта права. Старэйшыя ў маім родзе хоць і пацярпелі ад тых жа гэбэшнікаў, але не здаліся. І ў цёмных сутарэннях энкавэдысты іх да паўсмерці збівалі, і ў лагерах сібірскіх на марозе студзілі, а ў здраднікаў перавярнуць не змаглі. Не сталі продкі сексотамі. Не заплямілі роду стукацтвам. Не маю права



запляміць і я. А калі так, дык павінен бегчы па гэтай рызыкоўнай, небяспечнай дарожцы, выносіць ногі. У мяне ж ёсць толькі два варыянты: або гуляць па *іх* правілах, танцаваць пад *іх* дудку, або ісці супраць *іх* правілаў і законаў.

Я выбраў — ісці супраць. Таму і сігаў без перадышкі, несучы на плечуку толькі што набытыя «Тры сямёркі». Тлумачыць маім аднагодкам, што гэта за дзіва дзіўнае, пэўна, не трэба. А для цяперашніх акселератаў скажу: так у народзе называўся манаблочны пераносны стэрэакомплекс «Sharp-777». Яго выпускала аднайменная японская карпарацыя ў пачатку — сярэдзіне 80-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя і тысячагоддзя. Гэта была адна з найлепшых і папулярных у той час мадэляў, мара і вяршыня жаданняў многіх і многіх, перш за ўсё — цэкоўскіх і дырэктарскіх дзетак. І не толькі мара. Словы «мы рождены, чтоб сказку сделать былью» іхнія «вялікія бацькі», здаецца, для сябе і прыдумалі. Я ж, хоць і адчуваў у тыя хвіліны вагу «шарпа» на ўласным плячы, нават не асмельваўся і думаць, каб пакінуць яго сабе: каштаваў музцэнтрык надта кругленькую суму. Гэта значыць, на плячы ў мяне, уласна кажучы, зусім не магнітола была, а цяжкаваты пачак маміных грошыкаў.

Цяпер вы разумееце, чаму я не мог, ды і не меў права спыніцца? Або, што яшчэ горш, кінуць «шарп», прыхаваць дзе-небудзь у снезе. І тое, і другое азначала б: памінай як звалі! Спыніўся б я — і «777»-ы быў бы адабраны з ахапкам сур'ёзных непрыемнасцяў. Схаваць жа дарагі набытак у снег — гэта нуль імавернасці знайсці яго нават праз славутыя пяць хвілін. А без «шарпа» мне хутка, як было задумана, у людзі не выбіцца. У нармальныя, маю

на ўвазе, людзі, не жабракі. Бо наконт цаны магнітолкі, павінен сказаць, я ні кроплі не перабольшыў. Яе кошт сапраўды быў важкі і цягнуў на дзве гадавыя маміны зарплаты. Не чые-небудзь, а менавіта маміны: яна ж ад самага пачатку яе фінансавала. Канечне ж, не адразу. Мудра я тады ўсё прыдумаў і арганізаваў, ух мудра...

Для набыцця «шарпа» патрэбны былі грошы, і немалыя. А дзе іх узяць — шмат і адразу — хлопцу з хрушчоўкі? А вось дзе! За дарагі і прэстыжны па тым часе (а цяпер, як аказалася, тым больш) прэзент — французскія духі «Klima» — мне пакінулі на складзе аднаго не ўсім смертным людзям вядомага магазінчыка без шыльды дарагую, але звышдэфіцытную (з тых, што можна хутка прадаць) рэч — амаль не нашую, прыбалтыйскую, стацыянарную стэрэафанічную сістэму «Radiotehnika». Гэта была як бы прамежкавая аперацыя.

Само сабою, каб купіць такі круты музычны цэнтр, ды яшчэ ў крэдыт, трэба было не толькі на першы ўзнос капеечку сабраць (што я зрабіў, эканомячы паўгода на абедах), але і прыкласці ў якасці прэзента армянскі каньяк з маскоўскім шакаладам. Між іншым, гэта ўжо былі дробязі, якія згадваць — адно яшчэ далей заганяць сябе ў беспрасветную галечу. Гэта толькі ў шкодных для жыццёвай практыкі антырэалістычных саўковых раманах можна было дасягнуць фінансавых поспехаў падсумоўваннем дробных зберажэнняў. У жыцці было іншае. Зрэшты, вернемся да жыцця. Ужо згаданы крэдыт павесіў на маму: хто ж даверыць такую важкую суму маладому інжынерыку са стажам даўжынёю з заечы хвост?

Не стану стамляць чытача дэталямі маёй фінан-



савай аперацыі. Скажу толькі, што прыдбаўшы стэрэафанічны камплект, я тут жа збыў яго людзям заможным, якія не звыклі марнаваць сябе ў чэргах, сціскаючы ў мокрай ад поту жменьцы запаветны талончык ці баючыся незнарок сцерці з далонькі напісаныя шарыкаваю ручкай, а часцей забытым цяпер «хімічным» алоўкам тры няроўныя лічбінкі. Адным словам, скінуў дэфіцыщік з маміных натруджаных плячэй і набыў, як запэўнівала нас у інстытуце ўедлівая палітэканаміца, першапачатковы капітал для абароту і самастойнай работы. Далей — болей…

І вось цяпер, калі знайшоў, дзе, як і чым загружацца, калі, здавалася, усё выстройваецца па вызначаным бізнес-плане — цягай з аднаго месца ў другое тыя запаветныя «шарпікі», багацей — болей не хачу! — цяпер спыніцца і даць сябе злавіць? Недарэчна гэта, несалідна, няправільна, не па-людску. Мама ж дасюль увесь крэдыт не выплаціла. Дасюль! А я мушу апусціць рукі і ратаваць сваю труслівую шкуру? Напляваць на маміну двухгадовую працу? Не, даражэнькія, такі нумар не пройдзе! Маму ў крыўду я не дам. Яна ў мяне — адна. І я ў яе адзіны-адненькі і ненаглядны. Так яна любіла мяне называць, калі са школы прыносіў пяцёркі па матэматыцы. А як уменне хутка і правільна купюркі лічыць хлопцу ў жыцці прыдалося! Вучыце, дзеткі, матэматыку — самую патрэбную з навук! Нам, мамка, трэба берагчы адно аднаго, трымацца разам. Толькі так мы можам вырвацца з галечы — толькі на сябе спадзявацца. Ты дапамагла ўзняцца на першую прыступку. Далей — мой клопат! А я цябе ні разу не падводзіў і не падвяду. І з магнітолай за здорава жывеш не разлучуся. Не здамся за проста

так! Ніколі! Фігу з макам!

Але лыткі мае, трэба сказаць, задрыжалі. Бо каб спынілі ды праверылі, то ўжо далі б па шапцы. Ох, далі б! Ды што па шапцы! Лёс маглі павярнуць у іншы, не лепшы бок. За нікчэмны анекдот жыццё людзям ламалі. Гэта не выдумка, а ява вялікай краіны Саветаў. Такое вось двухрадкоўе ўелася ў памяць: «Два сябры адзін другому расказалі анекдот — і на Ціхім акіяне свой закончылі паход». Прышылі б што-небудзь і горшае, чым перапродаж. Сувязь з іншаземцамі яшчэ і ў васьмідзесятыя лічылася страшным грахом.

Цвяроза ўсё ўзважыўшы, я не стаў пазбаўляцца ад рэчдока і закопваць магнітолу ў снег, а паправіў бясцэнную ношу на плячы, аддыхаўся і зноў наддаў ходу. Наперад, дзе наша не прападала!

Снегу ў лесе было па калені, і белы холад тут жа пралез у лёгкія, не для нашай зімы, італьянскія боты-факстроты. А з выгляду вунь якія хвацкія! Серабрыстыя, з чорнаю аблямоўкаю. Толькі футра ў іх з гэтага — з пілавіння, ці што? Бр-р, чао, ціфозі! Нездарма справядлівыя англічане пры выпадку не абмінаюць павыхоўваць гэтых халяўных майстроў. Зрэшты, у абутку, не разлічаным на нашы снягі-маразы, быў, як тое ні дзіўна, і свой плюс: у іх мерзлі ногі. А гэта прымушала варушыцца — хоць бы для таго, каб яны зусім не акалелі.

Бегчы ўсё ж было цяжка. Але і альтэрнатывы — ніякай. «Час — грошы!» — правільнае выслоўе, аднак не галоўнае. Час — яшчэ і жыццё! А яно ў нас усіх адно-адзінае. Мудрая прымаўка «двойчы не ўвайсці ў адну раку» мела для мяне не абстрактны, а вельмі канкрэтны сэнс. Рэдка каго з фарцоў



гэбэшнікі лавілі двойчы. Хапала і аднаго — першага разу. Як гаворыцца, першы і апошні. Можна і па-іншаму сказаць: фарц памыляецца толькі аднойчы.

Дыханне збівалася, але хваляванне пакрысе ўлеглося, і галава запрацавала спакойна. Галоўнае цяпер — хутчэй мінуць лясок. Дзякаваць Богу, ён быў невялікі — кіламетр-паўтара.

Я імчаўся, як вецер, але і цяпер, бегучы, усё роўна павінен быў рабіць самае для мяне невыноснае — чакаць. Чакаць адказу на пытанне: чым гэтыя ўцёкі, ды і ўвогуле ўся гэтая небяспечная авантура скончыцца? Але скончыўся пакуль толькі лес — яго разрэзала дарога. Я адразу перайшоў на хаду, агледзеўся. Адзначыў з палёгкаю, што не збіўся: за дарогай пачыналіся могілкі. Вымучана ўсміхнуўся сам сабе: нібы ўзрадаваўся могілкам! Можа, так яно калі і будзе… Жартую, вядома, нервы супакойваю. Галоўнае — дарога. Бо дарога — гэта тое ж жыццё. Акурат на яе, дарогу, я цяпер і спадзяваўся — папраўдзе, на таго, хто павінен быў на ёй мяне чакаць.

Таксіст — малайчына, не падвёў, не з'ехаў, а то каюк мог быць хлапчыну залётнаму (гэта я, калі хвалююся, пра сябе ў трэцяй асобе, як вы, відаць, заўважылі, праходжваюся). Калі б я, выскачыўшы з лесу, рынуўся да аўтобуснага прыпынку, то пільныя сябры-таварышы ў момант замялі б уцекача з «шарпікам». Хоць і са спазненнем, але раскусілі строгія хлопцы фокус з дзіва-куртачкай і па асфальтавай дарожцы хутчэй за мяне ад інтэрната да аўтобуснага прыпынку дапялі. Вось бы з рэчдокам і замялі. І якім — японскім магам! Дзве тысячы манетак! Вунь яны, галубочкі, перашэптваюцца, планы складаюць, як бы фарцу хітрэнную ў нетутэй-

шым маскхалаце і з дарагою японскай штуковінай пад пахай за адно месца ўхапіць. Правільна гэбісты разлічылі: з такою бандураю далёка не ўцячэш!

Разлічылі, ды не ўсё! Фігу вам з макам, разумнікі, з'ешце! І мы не лыкам шытыя. Як гэта мой сябра і канкурэнт па бізнесе Генка, калі ў добрым гуморы, выпендрываецца пры развітанні: «Бай-бай, жыві — не прападай!» Правільна, *by-by*, аўфідэрзэен, таварышы — ды не нашы! Да няхуткай сустрэчы!

Я закінуў скрынку на задняе сядзенне, плюхнуўся побач і, скасавурыўшыся (як там сітуацыя на прыпынку? «Тра-та-та, тра-та-та, мы вязем з сабой ката!» — гэта ў мяне зноў нервы разгуляліся), прамовіў шафёру:

— Паехалі! І газу не шкадуй, шаноўны!

«Позна, хлопчыкі, ачухаліся, — радаваўся, аддаляючыся ад сваіх мысліўцаў. Бачыў у задняй шыбе, як тыя кінуліся былі даганяць, ды куды там! — Адпачніце, сёння мадам удача не ў ваш бок вочкамі падміргвае. Цягнічок ужо цю-цю... пайшоў. Вырвалася з гэбэшнай пасткі ахвяра безабаронная».

Але калі на душы і стала лягчэй, дык не надта. «Трэба нешта рабіць. Мо паспрабаваць змяніць тактыку. Мянты з гэбістамі зноў аблаву наладзілі. Няўжо на штодзённае паляванне перайшлі? Учора праскочыў, пашэнціла, сёння таксама — загадзя з таксі парупіўся. А заўтра? Што будзе з хлопцам заўтра? Ці не апынуся ў тым шэрым аўтобусіку з карычневымі фіранкамі, які таварышы ў цывільным перад паляваннем на асабліва шустрых хлопцаў у двор інтэрната падганяюць? Ой як не хочацца ў кабінеце з закратаванымі вокнамі адказваць на каверзныя пытанні. Ой як не хочацца! А тут, чаго добрага, хутка давядзецца. Дальбог, давядзецца... Што-што?



Ну і ляпнуў! Як лапцем па вадзе. Ціпун мне на язык! Ох, накаркаю, ох… Трэба, відаць, перадышачку арганізаваць, тэмпы збавіць. Як гэта ў маракоў (ды ўжо ж, у іх!) гаворыцца: «Малы наперад!» Вось і мне трэба наперад — малым ходам. Інакш і напраўду замятуць. А тады ўжо мала не падасца...

II

На наступны дзень, як і планаваў, рашыў у бой не ісці, тайм-аут зрабіць. Ды фарц плануе-мудруе, а лёс з ім у свае гульні гуляе! Як снег на галаву, заявіўся аднапалчанін з Алтая. Тыдзень назад пазваніў, прасіў памагчы прыадзецца па-чалавечы. І я на сваю галаву паабяцаў знайсці ягоную мару — джынсы «Lee», ды яшчэ амерыканскай маркі. І вось ён, сябра алтайскі, дарагі, родны, любімы, у госці зазірнуў. І дастань яму хоць з-пад зямлі, раз абяцаў, тыя самыя каўбойскія порткі — памры, але дастань, калі слова даў!

Даў дык даў! І значыць, трэба выконваць.

Страшэнна рызыкуючы нарвацца на хлопцаў з невясёлымі тварамі, ператрос плойму інтэрнатаў з неграмі, арабамі, палякамі — пуста, няма на дадзены момант дэфіцытнага тавару! Ужо амаль у адчаі, выпадкова ўбачыў у нягодніка Генкі тое, што «доктар прапісаў». Гэты шустрык умеў нейкім чынам эксклюзіўныя рэчы даставаць. Талент на гэты конт у хлопца быў выключнейшы. Давялося, не таргуючыся, раскашэліцца за портачкі на топавы прайс — 190 вельмі моцных савецкіх рублікаў. Што зробіш? Галоўнае — слова стрымаць. Слова гонару для фарцбрата мо нават больш важкае, чым для партыйца, што за народ стаіць гарою, а на практыцы з яго кроў высмоктвае. Слова гонару для фарца больш,

чым проста слова. Сказаў — значыць, любой цаною павінен выканаць. А як жа інакш? Дамоваў жа мы не заключаем і вэксаляў не падпісваем — на даверы ўсё трымаецца, на знакамітым чэсным слове. Нават, удакладніў бы, на чэсным шляхетным слове, як у тых дваранаў, амаль дабітых бальшавікамі. Так сказаць, няпісаны закон. Не кажучы ўжо пра тое, што і чыста па-чалавечы гэта прыносіць асалоду. Вунь як сардэчна ўсміхаўся-развітваўся са мною ашчаслíўлены аднапалчанін, як імпэтна з акна купэ ручкай махаў!

Але, але, колісь фарцы слоў на вецер не кідалі. Не разыходзіліся слова і справа і ў тых, хто на іх паляваў — у гэбэшнікаў і бандытаў. Пра першых ужо колькі слоў закінуў і, па ходзе апавядання, спадзяюся, дадам яшчэ трохі. Пра апошніх жа павучальны выпадак, пакуль з галавы не выскачыў, раскажу. Відаць, і ўспомніўся ён невыпадкова.

Трапіў я неяк на імяніны сяброўкі і сааўтаркі шырока папулярнага — у вузкіх колах — кампазітара Васілька Равунчыка (рэдка, адзначу, каму з нас гэтак пашанцавала: каб апісаць аб'ект, дастаткова вымавіць ягонае імя і прозвішча). Дзень нараджэння пасіі музыканта адзначаўся ў самым лепшым рэстаране герой-горада. Адпаведна і госці былі не з класа гегемонаў-пралетараў. Сярод запрошаных мне амаль адразу кінуўся ў вочы ціхі сімпатычны хлапчына, які нават на агульным не слабым бамонднам фоне вылучаўся звышмодным прыкідам. Не яркасцю вопраткі, а яе вытанчанасцю і строгасцю, што, як ведаюць знаўцы, грошай каштуе. (Чулі, да прыкладу, пра касцюмы без швоў?) І паводзіў сябе хлапчына звышветліва і звышдалікатна. Ну проста хлапец-маладзец!



Спачатку падумалася, што ён — наш, фарц, толькі надта ўжо круты, заляцеў на вялікіх «манях» у завоблачныя вышыні. Але нешта ў харашунчыку, відаць, было чужое, бо турбавала мяне, і пры зручным выпадку я пацікавіўся ў знаёмых, што за субчык. Ніхто пра вытанчанага госця нічога толкам не сказаў, акрамя аднаго: на свой дзень нараджэння запрасіла яго сама імянінніца. Нядаўна з ім пазнаёмілася. Сама здзіўлялася: «А сустрэліся мы ўпершыню на вуліцы. Уяўляеце, я — і ў такім месцы знаёмлюся! Як вам падабаецца? Няёмка нават гаварыць пра такое. Хоць, можа, гэта сам лёс Вадзіка да мяне падаслаў, калі два хуліганы ля пад'езда прысталі».

Ох ужо гэтыя вулічныя знаёмствы! І ох гэтыя вулічныя заступнікі! Папалася, галубка, як неразумнае дзіцятка. Вадзік адшыў не хуліганаў, а сваіх жа падстаўных себрукоў. Камедыю, так сказаць, хлопцы разыгралі. Смяльчак аказаўся не заступнікам слабага полу, а грабежнікам, бандытам, праўда, яшчэ маладым, нявопытным, пачаткоўцам. Пачаткоўцам? Так, але — як пачаў!

Атрымаўшы ад наводчыка адрас загружанай пад завязку апаратурай і іншымі карыснымі рэчамі кватэры, ён дачакаўся, калі гаспадары пойдуць на работу, і зрабіў праверачны званок. Не пачуўшы адказу, пазваніў яшчэ раз. На ўсялякі выпадак. Зноў — цішыня. Далей ужо не стаў чакаць — выбіў нагою дзверы. (Во быў час — за фанеркамі спакойна спаць клаліся!)

Хоць на званкі ніхто не адказваў, кватэра бязлюднай не была. Нямоглая бабулька, маці перакладчыка гандлёвага прадстаўніцтва, які перыядычна шастаў за мяжу, сядзела ў інвалідным крэсле і чы-

тала. Тая кніга сталася апошняй, якую яна бачыла ў сваім жыцці.

Схапіўшы бабульку за валасы, сабраныя на макушцы шырокім грэбенем, Вадзік прыціснуў сівую галаву да спінкі крэсла і ткнуў растапыранымі пальцамі ў падслепаватыя вочы. Як потым расказваў братанам, пашкадаваў напаўжывую каргу, таму і не прыкончыў. Пашкадаваў…

Вадзік выхоўваўся ў інтэлігентнай сям'і і ўмеў паводзіць сябе нармальна. От імянінніца яго адразу і не раскусіла. Раскусіла, калі ўжо было позна.

Неяк красунчык пазваніў «кампазітарцы». Пачуўшы, што тая праз дзве гадзіны ад'язджае на гастролі, абрадаваў: паспее падвезці ёй свежанькі альбом так любімага ёю Кліфа Рычарда. А якая гэта мадам адмовіцца ад Кліфа, ды яшчэ і Рычарда? Правільна, такую трэба пашукаць. Не адмовілася і яна. Тым болей не дапусціла й думкі пра што-небудзь дрэннае. Ды і не ведала, што не трэба было ёй успамінаць пра гастролі. Нешта зусім іншае разумеў яе дабрадзей-красунчык пад гэтым словам.

З халодным спакоем «заступнік» упакаваў і склаў ля выхаду ўсё каштоўнае, што было ў яе кватэры. А гаспадыню, у адрозненне ад згаданай каргі, не пашкадаваў — здзекаваўся з даверлівай нябогі як хацеў. Навошта? Ды так, для ўласнай асалоды — кайф лавіў. А заадно і правучыў добра, каб не грашыла з чужымі мужамі. Заклеіў і без таго анямелай ад страху ахвяры шырокаю стужкаю скотча рот і, сарваўшы з яе астаткі бялізны, прывязаў бедную за рукі да батарэі. (Магчыма, Вадзік быў першы, з лёгкай рукі якога іншыя нелюдзі сталі сваіх ахвяр да абагравальнікаў прыкоўваць.) Abліў яе вадою, каб вярнуць да памяці, і стаў хвастаць па далікатным



целе моцнаю папружкай з якаснай скуры ад добрай старой фірмы «Super Rifle». А ў добрай фірмы і спражка належная — бронзавая.

Нездарма, аказваецца, усмешлівы Вадзік апранаўся з асабліваю вытанчанасцю і строгасцю, у сэнсе — дорага. Дорага гэта каштавала і імянінніцы — яна заплаціла жыццём.

Гадоў праз пяць пасля расказаных падзей збілі да смерці і самога Вадзіка (к таму часу ўжо вядомага, прычым не толькі ў бандыцкім асяроддзі, аўтарытэта па мянушцы Япім), каб не лез бязмежнік куды не трэба (на бензакалонкі, у супермаркеты і інш.). Рот яму не заклейвалі, і лямант стаяў на выспачцы, якая згубілася ў амаль не кранутых цывілізацыяй балотах недзе паміж Гомелем і Бранскам, — нечалавечы, што, трэба сказаць, адпавядала рэчаіснасці: калі Вадзік чалавекам і быў, то толькі часткова.

На тых імянінах, дарэчы (ты глядзі, такога чалавека ледзь не забыў!), і па-сапраўднаму круты фарц прысутнічаў. Для яснасці тут хацелася б адзначыць: фарцы бываюць розныя. Сцішаныя, такія, да прыкладу, як Генка з вядомым дэвізам — курачка па зярнятку. Перастрахоўшчыкі — сто разоў (не сем!) адмерай — адзін раз адрэж! Рызыкоўныя, як Міколка-паравоз, — была не была. І адчайныя, што не думаюць пра вынікі — а пайшлі б вы ўсе! — як Міхальчук, якога, наколькі памятаю, Сашкам звалі. Варта было хлопцу разок удала гітару дванаццаціструнную прадаць лідэру «Песняроў» Уладзіміру Мулявіну (калі такія людзі адыходзяць, пачынаеш і сам трывожна ноч сустракаць — а ці будзе за ёю світанне? — і руку брыльком да вачэй прыкладаць: дзе там, за небакраем, старая карга бадзяецца і ці

не ў мой бок зайчыкі касою пускае?), а музыканту пару разоў адказаць на зайздрослівыя пытанні калегаў-сяброў, дзе надыбаў «Хендрыкаўскі фендэрчык», — «Месца трэба ведаць!» — як умомант перад Сашкам вырасла чарга кліентаў, і хлопца панесла! Капітал пачаў расці з касмічнаю хуткасцю: «дванаццаць негрыцянят» часам не спраўляліся з дастаўкай заморскіх гітар, «ударных», іншых «ямах», «маршђлаў» і «тамаў», тады мала вядомых. Аднак з той жа хуткасцю да яго набліжаліся — з розных, вядома, бакоў — бандыты і мянты. Першымі дабраліся да Сашкі служкі закона, што, відаць, выратавала яму на той момант жыццё, але не пазбавіла турмы. Два гады папраўча-працоўных лагераў — фінал не самы лепшы, улічваючы Кірылкаў вопыт (аб чым трохі ніжэй), а калі іх далі пяць і з прыстаўкай «строгага рэжыму»? Праўда, адчайнага Сашку і лагер не спыніў. Пратрымацца сярод зэкаў дапамагла ўпакоўка «зялёных», непрыкметна выкінутая ў кухоннае акно яго жонкаю ў часе ператрусу. Не разгубілася, малайчына, ад нечаканага начнога візіту няпрошаных гасцей. Рызыка страціць грошыкі ў кустах нядаўна пасаджанага ёю агрэсту (як чула яе сэрца) была, але значна меншая, чым і далей трымаць іх дома.

Спынілі ж неўгамоннага Сашку (ужо пасля адседкі) бандыты, што не дасталі яго раней. І спынілі назаўсёды. Рызыка — справа ганаровая, але калі страчана развага, арыентацыя ў прасторы, няма тармазоў, а вектар жаданняў мкне ў бязмежжа і няма адчування рэальнасці…

Цікава, ці сустрэў Аляксандр Міхальчук Уладзіміра Мулявіна *там*? І хто цяпер іграе на асірацелым «Хендрыкавым фендэрчыку»?



### III

Я, здаецца, трохі адхіліўся ад свайго аповеду. А, між тым, хацелася б зазначыць, што нашы культпаходы па тэхніку і па іншыя прывабныя нетутэйшыя рэчы залічаліся рэжымам да злачынстваў, рангам не ніжэй за бандыцкія, і караліся з няменшаю строгасцю. Хоць ніхто з нас не быў хлопцам з вялікай дарогі, але залятаў, калі трапляў ім у рукі, не слабей за любога бандзюгана. А таму лёсы многіх фарцоў былі, як правіла, непрадказальныя і трагічныя. Асноўны кантынгент мітуслівага народу складалі студэнты інстытутаў і тэхнікумаў, пры гэтым далёка не горшыя. Былі ў ліку фарцоў аспіранты і маладыя спецыялісты. Даволі перспектыўны кантынгент, што стаяў на парозе шматабяцанага — у вуснах старэйшых таварышаў — жыцця. Правалы-праколы маглі проста яго перакрэсліць. Адзін няўдалы культпаход, адзін-адзіны залёт — і здольны аспірант, нядаўні чырвонадыпломнік ці перспектыўны малады інжынер нярэдка і досыць хутка апыналіся ў цягніку з закратаванымі вокнамі, што вёз іх задарам у краі далёкія.

І няма тут ніякага згушчэння фарбаў ці ачарнення сацыялістычнай явы. Ды Божа мой! Якое ачарненне? Ніколі, колькі жыць буду, не забуду Кірылку, аднакласніка, яго дзіка запалоханых вачэй і безупынку дрыготкіх рук. Такім ён вярнуўся дадому праз год адседкі. Зламалі хлопца! А якім быў да зняволення?! Разумнік, талент, старонку з аднаго прачытання слова ў слова запамінаў. І сябрам быў сумленным. А ўжо дзяўчаткі, дык тыя проста, не саромеючыся, нават у святая святых — бібліятэцы імя Леніна прыставалі са знаёмствамі. Пасадзілі талент на два гады за перапродаж джынсаў. Наш жа

аднакашнік (не хочацца называць яго імя) упрасіў Кірылку саступіць яму модныя штонікі. І накінуў для стымулу дваццаць рублёў: ты ж, маўляў, патраціўся, у Вільнюс па іх ездзіў, білеты туды і назад купляў. Маці грошы выдзеліла. А бацька, даведаўшыся пра пакупку, абурыўся: пераплацілі! Ён быў мянтом, і не простым — маёрам, закруцілі справу як трэба — пішыце пісьмы. І Кірылку прышылі два гады. Толькі вось пісьмы яму ўжо былі непатрэбныя. Вярнуўся хворым на галаву: у лагеры зэкавая погань апусціла нашага разумніка. Не тое што старонку з лёту запомніць — двух слоў на ёй прачытаць не мог!

Ці разумелі мы тады небяспеку нашага бізнесу? Напэўна. Але брала сваё маладосць. Жыццё, хай сабе і застойнае (не для ўсіх, само сабою), клікала наперад, вабіла ў туманную далячынь. І ехалі хлопчыкі і дзяўчаткі «*за туманом и за запахом тайги*», як у той песні пяецца, а на самай справе — па рублі, што ў руках прыемна шалясцяць, бо даўно ўжо рамантычныя ўсесаюзныя і камсамольскія будоўліператварыліся ў звычайныя, ледзь прыкрытыя ідэалагічным флёрам, шабашкі. А тыя, каго не захаплялі туманы ды пахі таежныя, мітусіліся-круціліся дома і фірмовую апаратуру туды-сюды цягалі. Бо даставаць яе было даволі проста: вучыцца ў Саюзе было ў некалькі разоў танней, чым у прагных капіталістаў, і негры з афрыканскіх краін, што «выбралі незалежны сацыялістычны шлях развіцця», сталі ўсё часцей паказвацца з вокнаў студэнцкіх і тэхнікумаўскіх інтэрнатаў. Гэтыя «шакаладкі», як іх абзывалі некаторыя жартаўнікі, асабліва ахвотна ішлі на кантакт. Стваралася ўражанне, што яны ехалі ў Саюз не вучыцца, а «ка-



пустачку секчы» і таўчы нашых наіўных і падкіх да ўсяго заморскага дзяўчатак.

Зрэшты, за іх, гасцей чарнаскурых, гаварыць не буду. Скажу за сябе. Вось некаторыя павучаюць: не курыце, не піце, не гуляйце без меры з дзеўкамі, беражыце сваё каштоўнае здароўе. А як яго берагчы? Як не расслабіцца пры звышактыўным працоўным жыцці? Як не зняць стрэс непамерны?

Пасля турбот-хваляванняў з «777»-м, пэўна ж, трэба было расслабіцца духам і целам. Тым больш што ўдалося выслізнуць з рук учэпістых і доўгіх, ды яшчэ з дарагою і «пад'ёмнаю» рэччу. Вось з радасці і заваліўся тым жа шчаслівым вечарком з сябрамі ў рэстаран. Да гадзіны ночы вытанцоўвалі, потым яшчэ весяліліся за закрытымі дзвярыма, і дадому я трапіў толькі на світанні. Спаў-пахропваў, як сурок, да абеду, потым ад Наташкі прачуханца атрымліваў, і ля інтэрната паявіўся толькі па абедзе. І ў гэты самы абед, дакладней, у 13.25, іх, пабрацімаў маіх, калег па небяспечным бізнесе, і хапалі.

А падзеі, пакуль я песціўся ў пасцельцы, развіваліся так. Спачатку хлопцы ў цывільным, але са зразумелымі фэйсамі, інтэрнат, частку кантынгенту якога складалі афрыканцы, ачапілі па перыметры, затым узялі пад кантроль паверхі. І давай чакаць — не з мора пагоды, вядома, а хлопчыкаў нашых, што зажадалі-асмеліліся, нахабнікі, жыць сённяшнім днём, а не байкамі пра шчаслівае заўтра.

І вось выходзіць хлопчык сарамяжлівы з пакоя, а яго — хап за каршэнь! І не тузайся. «Ведаеце хлапчыну? — пытаюць у мясцовых шасцёрак. — Свой? Тады праходзь, не затрымлівай людей, важнай справаю занятых. А гэты знаёмы? Не? Відаць, не адсюль? Пройдзем-ка тады, дыверсанцік, з намі,

пройдзем, даражэнькі, па-добраму, не ўпірайся. І што там у цябе ў сумачцы замежнай схавана? Чаго так моцна за яе ўчапіўся? А-а? Маўчым-с-с? Ясненька».

Такім макарам усю фарцу і вывудзілі.

Заганялі згорбленых маіх пабрацімцаў палонных у «рафік» са знаёмымі фіранкамі, празваны між намі «катафалкам», з рэчамі і па адным.

— І чым жа вы тут, у студэнцкім інтэрнаце, займаліся, дазвольце спытаць? — цікавіліся.

— Па якім такім праве да замежных грамадзян прыстаяце? — абураліся, павышаючы голас.

— Не ведалі, што законам забаронена? А няведанне не вызваляе ад адказнасці! — задаволена ўсміхаліся. — Не вызваляе!

Вельмі, скажу вам, непрыемныя пытанні. Сам іх — хай і далей будзе літасцівым Усявышні — я не чуў. Чулі іншыя. Як тлумачыў адзін мудры чэкіст майму шустраму сябру Генку, справа, маўляў, не ў тым, што вы на *гэтым* зарабляеце. Справа ў іншым. Па-першае, вы падаяце дрэнны прыклад для пераймання. Маўляў, не абавязкова надрывацца-ішачыць на карысць айчыны. Па-другое, калі чалавек не працуе, у яго з'яўляецца вольны час. У гультайстве і бяздзейнасці ён можа пачаць задумвацца, шкодныя песенькі нашэптваць: як ды што, чаму не хапае нам усяго? А гэта… Насамрэч, такія песенькі невядома да чаго могуць давесці. Напрыклад, да такога небяспечнага вываду: працаваў, не працаваў — грошай усё роўна не сабраў. Дык на ліха яна, такая работа! І трэцяе, галоўнае. Распаўсюджваючы заходнюю электратэхніку, вопратку, музычныя пласцінкі, касеты і іншыя *іхнія* каштоўнасці, вы несяце ў масы чужую нам заходнюю культуру і

ідэалогію. Больш за тое, ствараеце ім рэкламу. А значыць, прапагандуеце капіталістычны лад жыцця — сістэму, варожую нашай, сацыялістычнай. І таму — не пабаюся гучных слоў — вы з'яўляецеся ворагамі айчыны. А з ворагамі што робяць? Правільна, знішчаюць!

Многія пасля такой «сакрэтнай размовы» кідалі даволі небяспечную работу, не пазначаную ні ў адным савецкім даведніку. Кінуў яе і Генка. Бедачыну, трэба сказаць, ніколі лёс, акрамя як у дробязях, не песціў. Успомню тут, як доказ, яшчэ адзін сумны эпізод з Генкавай няпростай біяграфіі. Якраз гэты эпізод яго і дабіў. Вядомая прымаўка: знаў бы, дзе ўпадзеш, саломкі падаслаў бы. Але каб ды калі б…

Неяк Генка надумаў двойчы адну і тую ж капейчыну пракруціць. Двух зайцоў хапануць адным махам. Забыўся, што Бог за прагнасць можа і па руках даць. Выцыганіў у знаёмага негра вядомы ўжо нам «шарпік» і панёс пад чэкавую «Бярозку». Была такая сетка спецыялізаваных крамаў, у якіх імпартную апаратуру, бытавую тэхніку, а таксама вопратку прыгожую за спецыяльныя грашовыя знакі — чэкі (тадышнія сертыфікаты) — прадавалі. Чэкамі тымі справядлівая савецкая дзяржава расплачвалася са сваімі вельмі каштоўнымі замежнымі спецыялістамі (сабе забіраючы, само сабой, заробленыя імі долары). Вось і прапанаваў дабрадзей Генка «будаўніку з Індыі» (так спешчаны заграніцамі весяльчак назваў сябе) крутую магнітолку за тысячу дзвесце пяцьдзесят тых самых чэкаў — на сотку танней, чым яна каштавала ў краме. Сам жа чэк у рублях цаніўся ўдвая даражэй. Вось і выходзіла, што «шарпец» ішоў не за «двушку» з нечым рублёў, як звы-

чайна, а за дзве з паловай тысячы. Вынік, што называецца, відавочны.

Шчодрая прапанова была прынята «будаўніком» адразу ж і з радасцю, што ў прынцыпе Генку не насцярожыла. Ужо ж надта паглядны быў новы знаёмы: скураны плашч, абутак, што адбіваў сонечныя прамяні не горш за люстэрка, гальштук, зноў жа, не з фабрыкі «Камінтэрн», а заціскачка на ім — з гэтак любімага героямі Джэка Лондана жоўтага металу.

Па прапанове «індыйца» адышліся яны ад людной «Бярозкі», каб не свяціцца перад падазронымі хлопцамі з квадратнымі непрыветлівымі тварамі і круглымі цікаўнымі вачыма, трохі ўбок, да Генкавай «пяцёркі». Пералічыў хлопец уголас чэкі, а тых — на табе! — на сотку больш.

— Ах, так! — лёгка стукнуў сабе па лбе «індыец». — Мы ж танней, чым у краме, дамовіліся. Выдатна, яшчэ і кававарку «Bosch» на халяўку прыдбаю.

Пасля прыблатнёнага «на халяўку» штосьці зварухнулася ў Генкі ў грудзях, але прыемная думка пра дадатковыя ажно дваццаць «чацвяртных» казначэйскіх білетаў прытушыла ўзніклыя было падазрэнне і неспакой.

«Індыец» яшчэ раз пералічыў купюры і, сцвердзіўшы: «І праўда, адна лішняя», — вярнуў пачак Генадзю. На тым і развіталіся.

Не ведаў тады Генка, што пры пераліку расстаўся ён не толькі з новым сябрам, але і са сваёю дарагой валюткай, аддадзенай негрытосіку за японскі «шарпец». Хацеў адным заходам двойчы падняцца. Атрымалася, што ўраз усё страціў. Апусціўся, дакладней сказаць — апусцілі. На дзве штукі скупец



пагарэў. Гаварыў жа хлопцу: «Гена, не гняві Бога». Не паслухаў. Як любіў казаць сам Генадзь: «Атрымай, фашыст, гранату, атрымай!»

І яшчэ адну ісціну задарам аддаю дарагому чытачу: быць злоўленым з таварам — не самы горшы варыянт. З валютай — нашмат горшы. Для доказу раскажу яшчэ адзін, лічу, варты ўвагі эпізод з неспакойнага жыцця спадароў фарцоўшчыкаў.

Трапіў неяк у аблаву — ужо пасля Генкавых правалаў — і Мішка Бязяеў, таксама мой стары калега па рызыкоўным бізнесе. Цяпер, кажуць, хлопец асеў ці то ў мафіёзным Чыкага, ці то ў неспакойным Тэль-Авіве, зусім іншыя праблемы рашае і, думаю, не будзе пярэчыць, калі чытач даведаецца пра кавалачак з яго багатай біяграфіі. Папаўся Мішка не з таварам: не паспеў яшчэ наведаць свайго чорнага кампаньёна. Валюта была пры ім, а за няшчасныя пару купюр, знойдзеных у вашай кішэні, у тыя ліхія часы давалі тэрмін ад трох да пяці гадоў і болей. Ведаючы, якім можа быць фінал непажаданай сустрэчы, Мішка даваў дзёру, як мог, але ў няроўным па колькасці асоб з абодвух бакоў забегу быў прыціснуты да туалета. Добра, што хоць паспеў шмыгнуць за дзверы і зашчапіцца на выгнуты з цвіка кручок. Мянты пастукалі ў дзверы без ручкі (нейкі хітрун-шкуматун яе своечасова скруціў), пастукалі і зразумелі: без спадручных сродкаў не абысціся. Тут жа паслалі ганца ўніз, да каменданта, па слясарны інструмент. Стоены за дзвярыма Мішка яшчэ цешыў сябе надзеяй, спадзяваўся на яго вялікасць выпадак: а можа, не стануць абшукваць, а калі і стануць, то, можа, у сподняе не палезуць? Але, успомніўшы сёе-тое з уражанняў хлопцаў, якія пабылі ў падобных пераплётах, зразумеў,

што *гэтыя* ўсё пасмеюць, і рашыўся. І паляцела ненаглядная валютка ва унітаз. На секунду Мішка глянуў на яе — нібы развітаўся, цяжка ўздыхнуў і рэзка-сярдзіта тузануў за вяровачку. Ды з такой злосцю, што тая парвалася. У жахлівым цэйтноце Мішка не разгубіўся, чаго можна было чакаць, а наадварот, да яго прыйшлі рашучасць і смеласць. Забыўшы пра гідлівасць, сунуў руку ў бура-жоўтую жыжу. Ад ускалыхнутага смуроду ажно галаву на патыліцу скруціла. Таму, не гледзячы ва унітаз, гаротнік Бязяеў ухапіў свае каштоўныя паперы і перакінуў іх у суседнюю кабіну. Ужо асцярожна, нібы на той вяроўцы сам вісеў, узяўся за яе мокраю рукою і паволі пацягнуў уніз. Унітаз быў старэнькі, няйначай нейкім цудам да развітога сацыялізму дажыў, але працаваў спраўна, і праз момант бясцэнныя купюркі прапалі ў яго ненасытным чэраве. Толькі паспеў Мішка выцерці аб штаны памытыя пад адзіным жывым кранам рукі, як мянты ўзламалі дзверы, выхапілі яго з прыбіральні і прыставілі да сцяны.

— Рукі па швах, фарца гробаная!

Далей ясна — пачаўся асабісты дагляд (вывaрочванне кішэняў, прашчупванне падшэўкі і вобыск самога туалета — заглядванне ў змывачныя бачкі і за іх).

— Дзе долары? — абураліся неўзабаве, так нічога і не знайшоўшы. — Няўжо, падла, праглынуў?

Не маглі мянты паверыць, што чалавек здольны на такое — амерыканскія бясцэнныя грошыкі ва унітазе ўтапіць.

Калі Мішку Бязяева вялі да «катафалка», ён не вытрываў і заплакаў — зламаўся. Старшы з каманды заўважыў гэта і нечакана пашкадаваў фарца:

 

— Не дрэйф, не ты першы, не ты апошні.

Не разумеў ён, што плакаў дружбак Мішка не таму, што папаўся (ён, у прынцыпе, не зусім каб папаўся, заляцеў яшчэ не па поўнай праграме), а ад усведамлення таго, што разам з пачкам зялёных марна прапалі гады поўнай рызыкі страціць здароўе, працы без выхадных і прахадных, гады яго жыцця. Бессэнсоўнага, як атрымлівалася, жыцця. Бессэнсоўнай, як цяпер выходзіла, траты здароўя.

Але не іначай старасць паціхеньку падкрадаецца да мяне: на безгустоўную шматзначнасць цягне. А між тым даўно пара б вярнуцца да таго моманту, калі, адляжаўшыся пасля начной весялосці, я падышоў да знаёмага інтэрната і ўбачыў, як хлопцаў, што дазволілі сабе расслабіцца, оптам бралі. Я, вядома, паспеў ацаніць сітуацыю і на ражон — прахадную інтэрната — не палез. Завярнуў направа, да назіральнага пункта — абшарпанай, з вечным пахам хлоркі і чамусьці пральні — студэнцкай сталовай. Адтуль, з туалета на другім паверсе, добра глядзелася поле бітвы — пляцоўка перад інтэрнатам і яго парадныя дзверы, праз якія і выводзілі цяпер маіх себрукоў па бізнесе і адначасна — канкурэнтаў (хутка сяго-таго з іх можна будзе назваць — былых).

Здавалася б, радуйся: пашыраецца поле для дзейнасці. Але душа не схілялася да весялосці. Было маркотна і сумна, як на магіле сябра. Нікому не пажадаю зведаць гэтае страшэнна прыкрае пачуццё, якое ледзяніла сэрца: нібы ты сам закапаны ў сырую зямлю.

Глядзеў я, не высоўваючыся асабліва на свет божы, і неадступныя думкі свідравалі маю маладую галаву. А калі б *я* пад канвоем апынуўся? А калі б *мяне* двое плячыстых хлопцаў з суровымі тварамі

пад рукі ў катафалк валаклі? А калі б набытыя *мною* прадметы не першай неабходнасці чэпкія мянтоўскія рукі вось так нядбайна перакідвалі і пералічвалі?

За паўгадзіны строгія хлопцы ў цывільным сваю адказную справу завяршылі, і ў суправаджэнні «Волгі» са спіцай-антэнай шэры непрыкметны аўтобусік, набіты ахвотнікамі зарабіць у абход роднай дзяржавы, рушыў у дарогу, магчыма, для кагонебудзь і сапраўды ракавую — у кірунку да раённага аддзела ўнутраных спраў.

«Трымайцеся!» — хацелася падтрымаць хлопцаў, што выправіліся ў «нязведаную даль», не толькі паглядам. Але — стрымаў сябе, не ляпнуў уголас глупства бессэнсоўнае. І правільна зрабіў. Чыйсьці грубы голас наехаў на мяне ззаду:

— Ты з якога пакоя будзеш, красунчык? Нешта я цябе не прыпамінаю!

Я павярнуўся і зразумеў: хлусіць не мае сэнсу. Перада мною стаяла, магчыма, тут і не галоўная, але актыўная гэбэшная пазаштатніца — камендантка інтэрната: моцна, па-мужчынску складзеная, злосная істота няпэўнага ўзросту, з паўмятровай завіўкаю на галаве. (Як такая шпакоўня на макаўцы трымалася, цяжка сказаць.)

Зіркнуўшы калючымі вочкамі і не даючы мне апамятацца, яна прадоўжыла атаку:

— Чаго маўчыш? Лыжку ў час абеду праглынуў?

У такіх жахлівых мадамаў з памяццю, як я паспеў не раз пераканацца, заўсёды ўсё ў парадку. У дадатак натрэніраваны яны ўмомант павярнуць тваю хітрасць супраць цябе ж. Таму адказаў як мага прасцей, мо з лішнімі падрабязнасцямі, але, думаецца, па-свойму правільна:



— Я з другога інтэрната. Прыехаў да сябра, мы з ім у адной групе вучымся. Сказалі: Валерка, відаць, у сталовай. Ну, і я за ім. Прыходжу, а яго няма. А раз так, рашыў перакусіць. Ды штосьці ежа не пайшла, хутчэй — наадварот…

Гэтае «наадварот» галаву са шпакоўняй на макаўцы заблытала, і камендантка прымоўкла: пэўна, прыкідвала, чаго я ёй, круцель, такога-нітакога нагаварыў. Скарыстаўшы не надта хуткі бег нейронаў у яе неандэртальскай чаропцы, я прашмыгнуў паміж ёю і бліжэйшым да ўвахода вечна дзіравым умывальнікам.

«Паслухайце! — амаль па-маякоўску, хоць і безгалоса, сам сабе, абураўся я, спускаючыся па лесвіцы. — У прыбіральні і той дастаюць! Куды беднаму фарцу падзецца?»

Праз шкляныя дзверы сталовай — нью-архітэктурны для Саюза таго часу пачын — угледзеў: катафалк рулюе паціху на выезд са студэнцкага гарадка. Я суцішыў крок і паназіраў, як шэры непрыкметны аўтобусік выехаў на скрыжаванне і няспешна павярнуў налева — на вуліцу, дзе мяне ўчора чакала выратавальнае таксі.

Яшчэ імгненне — і катафалк знік у бясконцай плыні аўтобусна-тралейбуснага руху. Я хуценька вышмыгнуў са сталовай. Радасныя і шумлівыя студэнты, будучыя будаўнікі камунізму (як ім пра гэта з нараджэння ўдзёўбвалі) і капіталізму (як акажацца на самай справе), абцякалі мяне двухбаковай мурашынай мітуснёю. У гэтай шчаслівай маладой плыні можна было б і забыць, дзеля чаго я выйшаў з дому і апынуўся тут. Можна было б, ды — нельга! Быў і я калісьці вясёлым і бесклапотным, а іншы раз і зусім легкадумным студэнцікам, але што было,

тое прайшло, белым снегам замяло, і забыць іншы раз карысна. Вучоным стаў. Стрэляным вераб'ём. На мякіне не правядзеш. Ой, не... Трошкі прыпадняў галаву: што там, за туалетным акном? Усё зразумела: стаіць нястомная мадам, дзяжурыць, чыніць службу на баявым пасту, чакае-назірае, куды я далей скірую! Не зазлаваў, а толькі ўсміхнуўся: ну і стой-мерзні, галубка, натужвайся, дыхай туалетным смуродам! Адрабляй хлябок. А мо і не ў ім увесь сакрэт? Можа, табе проста рабіць няма чаго, заняцца няма чым? Вось і ткнеш нос куды трэба і не трэба, заадно і гэбістам памагаючы. Жывеш, пэўна, векавухай, адна, як месяц у небе. Каму ж патрэбна не столькі сяброўка, колькі шпег. Таму, відаць, адно ў галаве і засела: сачыць-высочваць і своечасова дакладаць каму належыць. Соры, прабач, аднак расчарую цябе, майнэ лібэ муттэр! Не дам зачэпкі для чарговага дакладу. Пайду! Проста ў белы свет пайду. Быццам проста так і пустым, заўваж, пакідаю даверанную табе тэрыторыю. Хопіць выпрабоўваць лёс! Адкладзем рызыкоўны культпаход на вечар. Не вечна ж ты будзеш ля стратэгічнага акна сляпіцца. Ды і сталоўка ў васемнаццаць нуль-нуль закрываецца. Кажуць, раніца мудрэй за вечар. У мяне часам здараецца наадварот. Такая ўжо работа.

## IV

Роўна 19.50. Дакладнасць — ветлівасць каралёў.

І султанаў — таксама. Прынамсі, майго Султана. Калі я падышоў да інтэрната, ён ужо стаяў ля ўвахода, чакаў, але пазнаў мяне не адразу. І не дзіўна. На мне быў маскарадны прыкід са смачнаю назваю «вось мая дзярэўня, вось мой дом радной». Маўляў, калун-хлопец, лох лохам, калгаснік, учора з вёскі



заявіўся не запыліўся, не ў лапцях — ужо добра. Калі і прыстануць, дык, пардон, дзякуй за ўвагу, зусім іншыя хлопцы — звычайнае гарадское хуліганнё. А з імі размаўляць жыццё мяне ўжо навучыла. Папраўдзе, не жыццё, а выдатны і заслужаны трэнер па дзюдо Мяцельскі Мікалай Іванавіч, дай Бог яму здароўя.

Султан, нібы беркут паляўнічы, аглядаў наваколле сваімі шэра-карычневымі негрыцянскімі вочкамі. Позірк іх я лавіў на сабе ўжо разы тры, але ён паранейшаму не заўважаў мяне. Нарэшце, спатыкнуўшыся, запыніўся.

— Yes, артыст, талент! — усміхнуўся. — Няма пытанняў. Ален Дэлон, што не п’е адэкалон! Пайшлі, канспіратар.

Падышоўшы да вахцёрскай будкі, Султан сунуў тады яшчэ мала вядомы «Снікерс» пад журнал рэгістрацыі наведнікаў (ох як фарцы не любілі ў гэтым тоўстым сшытку адзначацца: разок-другі распішашся за візіт — і чакай дома позвачку!). Вахцёр хуценька зіркнуў па баках і толькі тады звыкла-спрытна апусціў квяцісты прастакутнічак у кішэньку цёмна-сіняга фрэнча з даўжэзнымі, як на growth, рукавамі. У такіх ветэраны па-геройску маршыруюць па вуліцах у шумлівыя майскія дні. Аднак наш вахцёр, па ўсім відаць, героем вайны не быў. Штосьці выдавала ў ім іншага героя — героя нябачнага фронту. Зрэшты, дзе ў яго было асноўнае месца работы, пакуль што мяне не датычыла. Галоўнае — ён падачкі прымаў і, значыць, асабліва не замінаў нашай фарцоўскай справе.

Узяўшы адступнога, дробны карупцыянер адкінуў запаветны шлагбаўмчык, і я накіраваўся ў госці да Султана. Ён, як, між іншым, і ўсе шчасліўчыкі-нег-

ры (для савецкіх міс — канечне ж, французы), што раптоўна і дружна апынуліся ў нашай ціхай правінцыйнай сталіцы, жыў па-каралеўску, даруйце, па-султанску — у тым сэнсе, што адзін у пакоі.

Але цяпер, калі я зноў апынуўся ў атлетычнага чорнага хлапчыны, убачыў не зусім звыклую для мяне сцэну: на знаёмай канапцы ажно чатыры модна-паглядныя красуні ўладкаваліся. Султан бухнуўся побач з дзеўчынёхамі і паблажліва паказаў мне рукою ў кут, які амаль да столі быў застаўлены кардоннымі скрынкамі:

— Прымай, *dear friend*, японскую тэхніку!

Хлопец быў не толькі гулякам, але і чалавекам справы: прывёз усё, што я перад яго ад’ездам заказаў.

Сякія-такія цяжкасці Султан, мне здаецца, у дарозе меў. Хутчэй за ўсё, і ў кішэньку патрэбнаму чалавечку ў неабходны момант паклаў некалькі зялёных паперак. Так, між іншым, нібыта на гарбату. Якія праблемы! А вось фрэнду яго, гэта значыць мне, пакуль негр па еўропах адпачываў-бадзяўся, давялося тройчы напяць жылы, каб *мані* сабраць. Шмат *мані*. І пры гэтым не засвяціцца, не пагарэць. Не паехаць па туман і ў тумане тым не кануць. Адужаў я ўсё гэта. Вось, калі ласка, жыў-здароў, чаго і ўсім жадаю, прывезеную па маім заказе апаратурку купляю. Паэт, адным словам…

Аднак гэтым разам, нават пасля знікнення — па знаку Султана — даўганогіх красуняў, выкладваць грошыкі я не спяшаўся. Хопіць з мяне разлікаў загадзя! Бо заплаціць — гэта нават не палова справы, а так сабе, глупства. Галоўнае — пранесці гэтыя грошыкі валютныя, а потым непрыкметна вынесці набытыя дарагія цацкі. Валачэш нібы сваё, а глядзі



ты — сэрца проста заходзіцца, а нервы, як іржавыя струны, гатовы пэнкнуць-зазвінець. На кожным кроку тую апаратурку ў інтэрнаце адабраць могуць. А таму больш я такім макарам — не хадок. Плаціць — дык беспамылкова, каб потым уласнаю скураю расплачвацца не давялося! І я прапанаваў Султану новую схему вынасу прадметаў няпершай неабходнасці.

— Папрасі свайго абібока-земляка, усё роўна цэлы дзень адно шарыкі ў кішэнях перакочвае, каб памог тэхніку да таксі паднесці. Тачку я падагнаў, стаіць метраў за сто ад аўтобуснага прыпынку. Як бачыш, на бяспецы не эканоміў. Паднапружся трохі і ты. Учора ледзь жывым з інтэрната вырваўся. Больш рызыкаваць не хачу! Расплачуся, калі разам з таварам апынуся на нейтральнай тэрыторыі. Там, дзе буду ўпэўнены, што купленае — ужо дакладна маё. І не пярэч. У маёй бяспецы і ты, калі не дурань, павінен быць зацікаўлены. Згодзен?

Султан думаў нядоўга, яшчэ раз пацвердзіўшы, што хлопец ён — не промах. Пачуўшы яго «о’кей», я прадоўжыў:

— План такі. Я спакойненька спускаюся ўніз, іду да таксі і чакаю вас у машыне. Вы з апаратурай ідзяце не да таксі, а да аўтобуснага прыпынку. Я кранаюся з месца і кірую ў ваш бок. Вы, нібы не заўважаючы, што таксі занятае, галасуеце. Таксіст спыняецца, гатовы вас падабраць. Вы хуценька загружаеце ў багажнік «шарпы» і гэтак жа хуценька сядаеце ў машыну. Выйдзеце, калі я ўпэўнюся, што за намі няма хваста. Такі мой план. Ты з ім згодны?

Султан марудзіў, маўчаў. Зацікавіўся прыклееным на супрацьлеглай сцяне плакатам з чамусьці маркотным Джорджам Харысанам.

Вось як, аказваецца, кампаньён думае пра маю бяспеку! Мяне разбірала злосць. Што такое? Нават такой дробязі не хочаш зрабіць для лепшага сябра? Каціся ты тады к чортавай мацеры ці да свайго чорнага афрыканскага дзядулі! А гаварыў жа, што мая бяспека для цябе такая ж важная, як і твая ўласная. Маўчыш? Вось вам і лепшы сябра плюс кампаньён і таварыш. Што ж, прапала кароўка, хай прападае і вяроўка. Няма ў мяне больш ахвоты рызыкаваць сабою. Ды і грашыма — па сутнасці, не сваімі — таксама. Мама крэдыт дагэтуль яшчэ не выплаціла, і мне ён жывым дакорам: не для сябе ж брала. Не спакусіць мяне цяпер і нядрэнны — хай нават звышвысокі! — пад'ём зялёнымі. Асабліва пасля нядаўняй гісторыі з Міколкам-паравозам.

Даючы такую хвосткую мянушку сціпламу рабацiністаму хлопцу, я ведаў, што пазычыў яе ў пісьменніка-камуніста Майкла (жартую) — Міхася Лынькова, але вельмі ўжо яна адпавядала напорыстаму Калюнчыку, сябру па шныранні і пранікненні. Таварышы аператыўнікі вылавілі неяк яго на адным з паверхаў незабыўнага для нашага брата інтэрната медінстытута. Не ў прыклад няўдачліваму бегунку Мішку Бязяеву, Міколка-паравоз быў хлопец спартыўны, баксёр, у дадатак — адчайны і смелы. Ён параскідаў мянтоў па калідоры і даў дзёру. Служывыя спачатку разгубіліся, але ненадоўга: якніяк трэніраваныя былі хлопцы. Праз пару хвілін ачунялі і кінуліся наўздагон, заадно крыкам і шумам збіраючы плойму таварышаў па службе і актывістаў з паверхаў.

Міколка ведаў: калі яго зловяць, дык не толькі пасадзяць, але і ныркі пастараюцца пусціць у вольнае плаванне. Таму ляцеў стрымгалоў, як ад саба-



чай гайні. Пераскокваючы праз вахцёра, ён зачапіўся за будку. Яго закруціла, і, наляцеўшы на вушак дзвярэй, уцякач зламаў сабе нос і ключыцу. Але тады Міколка-паравоз нават не заўважыў гэтага. Не адчуў і болю. Адчуваў ён, правільней, разумеў, што цяпер галоўнае — вырвацца, уцячы. І Міколка-паравоз уцёк. Нездарма ж я даў шустраму хлопцу лыньюўскую мянушку! Дарагою цаною — адлежваўся цэлы месяц! — але змог уцячы, пратараніўшы засаду. А ці змагу я выбрацца з падобнага пераплёту? Не ўпэўнены...

Султан зноў перавёў позірк на Харысана. Эксбітл па-ранейшаму маўчаў.

Я не стаў браць з яго прыклад.

— Паслухай! — ужо не стрымаў злосці, хоць і разумеў, што інтарэсы справы вымагаюць памяркоўнасці. — Ты ж нічым не рызыкуеш. Калі спытаюць — выносіш свае ўласныя — паўтараю: уласныя — рэчы. Пераязджаеш, скажам, жыць да... бацькоў свае нарачонай. (Ведаў, што балючы для Султана прыклад падабраў, але ж слова — не верабей...) Вось і ўсё. І ніякіх пытанняў. Сядзеш у тачку — і паедзеш. У выніку — і я не засвяціўся, цэлы, здаровы, на волі гуляю, і табе добра: прадаў, вышэй узняўся, павялічыў свой капітал у *Citi bank*. І я, твой кампаньён, застаўся пры табе, не трэба некага шукаць. Ясна тлумачу?

За трэцім заходам Султан здаўся, і мы ўдарылі па руках.

Праз чвэрць гадзіны мой пабрацім з сябрам-земляком падыходзілі да прыпынку. За намі ўжо ўвязаліся «нашы» хлопцы. Відаць, сцямілі: гэтым разам навучаныя жыццём чорныя самі нясуць дарагую апаратуру на дом заказчыку. Рашылі праверыць суб-

чыкаў. Тармазнулі ля прыпынку, сталі бесклапотна пастукваць нага аб нагу — грэцца. Простыя, звычайныя хлопцы. Гаварылі абы пра што, а на самай справе — чакалі аўтобуса, каб падсесці, прасачыць, вылавіць — і адабраць, само сабою.

Як я зайздросціў, седзячы ў машыне, людзям на прыпынку! Не-не, вядома ж, не гэбэшным ганчакам, а звычайным рабацягам, інжынерам, настаўнікам, дробным клеркам — словам, народу. Як хацеў памяняцца з любым з іх месцамі! Выскачыць з машыны і шуснуць у шэрую аднародную масу. У таксі з адпаліраванымі (не без удзелу негустога сняжку) звышпразрыстымі шыбамі я быў нібы на экране. Адчуванне такое, быццам усе глядзяць на машыну і бачаць у ёй на заднім сядзенні тваю скурчаную ад хвалявання, амаль па-дзіцячы бездапаможную фігурку.

Так, многім з нас у трывожныя хвіліны хочацца стаць маленькімі, шэранькімі, непрыкметнымі. Схавацца ў натоўпе. Схавацца, а што далей? А далей — такое ж шэрае беспрасветнае жыццё, такія ж шэрыя беспрасветныя будні, дзень за днём — адно і тое ж. Будаўніцтва сацыялізму і камунізму пад хітраванскім лозунгам «Заўтра будзе лепей, чым учора». Гэта азначае, што добра вам будзе потым, заўтра, а працаваць за капейкі трэба цяпер, сёння. Несумленная гульня атрымліваецца…

«Ах, табе не падабаецца? — прачнуўся ўва мне прыхільнік самакрытыкі. — Тады гуляй у тую, у якую гуляеш, і не ный!»

Правільна, ныць — нікчэмны занятак. Схамянуўся, сканцэнтраваўся: гэтым разам хлопчыкі без шынялёў, але зноў жа ў шэрым (тыя, дарэчы, што са мною мінулым разам у кошкі-мышкі гулялі, а



цяпер выдаюць сябе за народ) — перайгралі. Не заўважылі, прашляпілі, як скранулася і ціха пакаціла да прыпынку таксі, якое, здавалася, драмала ля ўвахода на могілкі.

Раз-два — бухнулі два «шарпы» ў багажнік, а трэці — на ўжо сагрэтае мною месца на заднім сядзенні, папраўдзе, мне, новаму ўласніку, на калені. Малпачкі (гэта я амаль з любоўю) адзін за адным шустра і прыцэльна ўпырхнулі туды ж, на задняе. Давялося пацясніцца, ужо і месца было мала — «шарпік» ва ўпакоўцы мо з метр даўжынёю! — і машына кранулася-пакаціла.

Гэбэшнікі кінуліся былі да таксі, ды — позна, галубочкі, піць «Баржомі», вагончык, як кажуць, зачыніўся! Султан-нягоднік амаль дэманстратыўна бразнуў дзверцамі ў іх перад носам і ў дадатак махнуў ашалелым хлопцам чорна-карычневай далонькаю — чао! Мужныя хлопчыкі разгубіліся ад такога дзёрзкага ўчынку і адразу трохі астылі. Што тут скажаш? Султан можа дазволіць сабе выступіць не па нотах: ён жа падданы былой калоніі, а не сучаснай.

Так і выскачыў я тым разам сухім з вады, або, калі каму больш падабаецца — жывым з полымя. Гэта радавала, але расслабляцца не дазваляла. Наперадзе быў новы заўтрашні дзень, новыя тыдні і месяцы, а яны абяцалі новыя ўцёкі ад бясконцай пагоні.

## V

Гэтым разам прарывацца праз цэнтральны ўваход было б звычайным самагубствам: гэбэшнікі, як напаказ, уселіся вакол вахцёра.

«І чаго б гэта? — ламаў я галаву. — Раней, хітруны, хаваліся, затойваліся ў засадах і, толькі выбраўшы момант, зрываліся з ланцуга. Цяпер — пайшлі ў адкрытую. Чаму? — пытаўся я і сам сабе адказваў: — Відавочна, начальства з праверкаю чакаюць. Вось і рашылі паказаць, як яны на даверавыным аб'екце нястомна парадку пільнуюцца, не спяць, у поце чала працуюць».

Ах, жыццё ты наша вясёлае! Асцерагаешся, кожны крок разлічваеш, кожнае слова прадумваеш, кожны ўчынак вывяраеш, жывеш амаль не дыхаючы, нібы шпіён ангельскі, а не вольны чалавек неабдымнай Радзімы сваёй, — усё роўна ніякай табе гарантыі. Паняцце аб прэзумпцыі невінаватасці ёсць толькі ў Крымінальным кодэксе, не ўсім людзям вядомым. У жыцці назіраецца зусім іншы малюнак. Вось паспрабую я, дапусцім, цяпер падацца ў інтэрнат — дык тут жа спыняць і пытаннямі бесцырымоннымі закідаюць: да каго і чаго заблукаў? Якая такая патрэба прыгнала? Хто такі і дзе вучуся ці працую? Па якім адрасе жыву і прапісаны? З кім сябрую са студэнтаў інтэрната? Ах, з дзяўчынаю? Лоўка прыдумаў! І хто такая, у сэнсе — як зваць шчаслівіцу? Падзабыў імя? Ха-ха! Гэта і не дзіўна, бо дзяўчаты тут, у мужчынскім інтэрнаце, не жывуць. Так-так. Ды пэўна ты зладзюга які залётны? Не? Тады — спікуль затоены-прытоены? Га? Чаго маўчыш? Адгадалі? Можа, яшчэ і не пустым прыйшоў, а з кішэнямі, грашыма набітымі? Валютай, скажам, амерыканскай? Га? А ну пройдзем, падазроны чалавечак, з намі, паглядзім, што ў цябе пад апраткаю прыхавана!

І пройдзеш, куды падзецца. І абшукаюць цябе, родненькага, і абмацаюць з ног да галавы, нібы



праз рэнтген прапусцяць. І не дай Бог паперку знойдуць. Зялёненькую такую, непаглядную. І хоць адну-адненькую! Хоць «пяцёрачку» пакамечаную. Усё! Капцы! Ты — злачынец!

І ўсё ж — як прарвацца ўсярэдзіну, як праскочыць у гэтак пільна ахоўваны сёння аб'ект, праз цэнтральны ўваход якога і мыш не прашмыгне? Можа, праз акно? Не, тут таксама пралёт! Па ўсім перыметры будынка на ніжніх вокнах — краты стаяць. Да вокнаў высокага другога без лесвіцы не дастанеш, а дзе ты яе, лесвіцу, знойдзеш? Вунь нават пажарную невядомы шкоднік знізу так падкараціў, што яна стала недасягальнай. Думай, хлопча, думай, абыдзі будыначак вакол. Але не проста праходжвайся, а зрабі выгляд, нібы ў цябе, разявы, нешта з акна пакоя выпала і цяпер ты ходзіш і шукаеш, круціш дурною галавой: ай-я-яй! Калі спытаюць, што згубіў, скажаш — мамін падарунак, кітайскую аўтаручку з залатым пяром.

Нядобра неяк выходзіць: зноў за мамку хаваюся…

Прайшоў, прыгнуўшыся, нібы і напраўду нешта шукаючы, да другога канца будынка, дзе былі другія ўваходныя дзверы. Яшчэ са здачы інтэрната будаўнікамі яны былі, як звычайна, наглуха забітыя, але справа ад іх была лесвіца на верхнія паверхі. А на лесвічных пляцоўках — вокны. Яны якраз мяне і зацікавілі. Праўдзівей, адно — на другім паверсе, справа ад дзвярной стрэшкі.

«Бадай, гэта выйсце, правільней — уваход», — касавурыўся я на акно.

Студэнты пакурваюць у калідоры і, каб дым выветрываўся, акно ўвесь час трымаюць адчыненым. І галоўнае, калідор — гэта не пакой, пусціць праз

які вас студэнт не асмеліцца, бо сам можа папла-ціцца. Вытураць студэнціка з кута абжытага, а потым і з інстытута выставяць — за невыкананне, спрыянне, пакрыванне і г.д. Хадзі потым, выцірай нос, плач, рыдай, скардзіся каму хочаш. Так што студэнт, скажу вам, фарцу зусім не памагаты, нават наадварот. А вось лесвічны пралёт... Ды яшчэ з улікам, што калідорнае акно на першым паверсе зафарбавана і праз яго вас ніяк не згледзяць з фае, дзе сядзіць аблава...

Я дачакаўся «ў пошуках мамінай аўтаручкі», пакуль хлопцы дымам нацешацца і знікнуць з вачэй. Умомант апынуўся на шырокім выступе цокаля, ухапіўся за халоднае жалеза кратаў ніжняга акна, дабраўся па іх да стрэшкі пад другім. Асцярожна зазірнуў: пуста, праход вольны, разышліся хлопцы на адпачынак па сваіх ложка-месцах. Узлез на падваконне, ціха саскочыў на пляцоўку — нездарма гэтым разам у красоўках ногі марозіў — і, як нічога ніякага, пайшоў калідорам свой сваім, нават ціхенька напяваў куплеты, тады папулярныя ў Саюзе, падбадзёрваючы сябе і супакойваючы нервы:

Говоря-ат, не повезе-ет,
Если черный кот дорогу перейдет,
А пока, наоборот,
Только черному коту и не везет...

Чорны, але не кот, натуральна, а Султан сустрэў мяне на парозе празмерна надушанага «давыдафым» пакоя ўзнятымі ўгору чорнымі, як сажа, брывамі.

— Ну ты даеш! — выпаліў ашаломлена. — Завальвайся хутчэй! Твае «сябры» сёння па паверхах асабліва пільна гойсаюць... Як праз засаду прарваўся? — уцягнуў афрыканец мяне ў свае апартаменты.



— Хочаш жыць — не адлыньвай, змагайся! — адказаў я з палёгкай.

— Я гэтую фразу ў другім варыянце чуў, — зачыніў Султан за мною дзверы. — Хочаш жыць — умей круціцца. Ужо і я разам з вамі пачынаю круціцца. Небяспечная гэта рэч — жыць у Саюзе. Піць-курыць навучылі, дзяўчатак мяняць… таксама. Цяпер вось з табою за кампанію магу заляцець. Напэўна, у інтэрнат без запісу ў журнале праскочыў? Так? Гэта ж страшэннае парушэнне. Страшэннае! Хоць мне дык што? Будуць прэтэнзіі — сабраў чамаданы і махнуў на ўсе чатыры бакі. Вольны чалавек! Сёння тут — заўтра там. Не падабаецца ці яшчэ якія пытанні — змяніў абставіны, і ўсе праблемы. Глядзі, колькі вы сацыялістычных рэжымаў накляпалі… А вось для цябе гэтыя самыя праблемы так проста не вырашаюцца. Праўду кажу?

— Ды куды ўжо больш, — згадзіўся я з невясёлымі для мяне, але цалкам аб’ектыўнымі высновамі і, агледзеўшыся, прысеў ля акна.

Хоць непрыемна мне было слухаць Султанавы словы, ды на сэрцы пасля таго, як пстрыкнуў за мной замок, палягчэла. Але выявілася, што расслабіўся зарана.

— Дарэмна, хлопча, свой белы чуб з майго акна для чорных выстаўляеш, — не даў мне нахабнік перадыхнуць.

Як уджалены, я матлянуўся ў цэнтр пакоя і прыгнуўся.

— Не мітусіся, сядзь на канапу, астынь, — усміхнуўся Султан. — Сёння мянтоў пераапранутых — больш, чым студэнтаў. У засадны дзень нават я апаратурку не панёс бы. Нашто без прычыны рызыкаваць? У такую «пагоду» лепш адседзецца, перачакаць завіруху.

— Калі б можна было — не рызыкаваў бы. Што я, ненармальны, па-твойму, самому лезці ў лапы?

— Тады якія праблемы? — як бы зацікавіўся Султан. — Што здарылася?

— Ды так, нічога асаблівага, — адказаў я, сядаючы на канапу. — Тым не менш чакаць ніяк не магу. У Наташы ў пятніцу дзень нараджэння.

— Рызыкаваць з-за жанчыны? — здзівіўся Султан.

Я перабіў негра:

— Гэта ў цябе — жанчыны, а ў мяне — Наташа. Адчуваеш розніцу, «май блэк фрэнд»?

Султан усміхнуўся і адказаў мне амаль міралюбна:

— Не нервуйся, ты павінен ведаць: розніцу я не толькі адчуваю, але і на ўласным вопыце зведаў. Аднак ты не адказаў, чаго прыйшоў...

— Так, дробязь… Вось тут, на відным месцы над канапай, вісела сукеначка з шоўку, аздобленая бліскучымі каменьчыкамі. Памятаю, дзяўчат гіпнатызавала. А цяпер нешта яе не відаць. Дзе ж ён, убор адмысловы? Няўжо ты растаў ад чыіх-небудзь палкіх вачэй і прэзентаваў сукеначку іх уладальніцы? Хаця не, што я — звар’яцеў? Такога не дораць… Значыць, прадаў? Невясёлая для мяне навіна, невясёлая…

Султан выпаліў з ходу, як пра нешта набалелае:

— Ты ўсё-такі й праўду ненармальны. Каму можна ў вас збагрыць, як вы кажаце, сукню, а папраўдзе, касцюм коштам 499 фунтаў стэрлінгаў? Ды вы свае «жыгулі» танней на Захад пастаўляеце! Вісіць касцюмчык, у шафе месціцца, колькі ж можна пыліцца дарагой рэчы? — Нечакана шчыра, амаль жаласна ўздыхнуў: — Ты ж ведаеш, я сваёй нявес-



це яго прывозіў, а яе бацькі, як мяне ўбачылі…

Не заўсёды кату масленіца! Было, было такое. Аднойчы нават таўстаскуры Султан шчаслівым закаханым прабегаў цэлы месяц. Была і ў яго свая «лаў», — успомніў я няўдалую спробу Султана ажаніцца. Успомніў, але не расчуліўся.

— З кім не бывае…

— Правільна, калі з кім — цябе не датычыць, а калі з самім табою? Ты ведаеш, пра што я… Яе бацькоў ледзь інфаркт не хапіў, — з ранейшаю ці то крыўдай, ці то жалем у голасе прадоўжыў Султан. — Скажы шчыра, ну хоць ты скажы: я сапраўды такі страшны, што самлець можна, як маці яе самлела?

— Ды лухта сабачая! — заспяшаўся я супакоіць кампаньёна. — Глянь у люстэрка! Торс — як у Апалона!

Праўда, голас мой злёгку падрыгваў, бо я трошкі хітрыў. Але таўстаскураму Султану, відаць, больш да душы быў прамы сэнс, чым падтэкст. Павесялеў, ажывіўся, нават заўсміхаўся. Заўсміхаўся… А ўсяго ж нейкіх пяць — дзесяць гадоў назад, начытаўшыся пра дзядзечку Тома і «Дзяцей капітана Гранта», слёзна наспачуваўшыся іх трагічным «сторыз», я ўявіць сабе не мог такога вясёленькага іх сабрата — негра, што гэтак сонечна ўсміхаўся мне ў твар, негра з казачна далёкай каланіяльнай Афрыкі з набітымі валютаю кішэнямі. Замілоўваліся дзядзечкам Томам, асуджалі амерыканцаў за іх расізм, а самі, сутыкнуўшыся нос у нос з неадпаведнасцю прачытанага і ўбачанага, спачатку нават разгубіліся. Потым, калі ўжо мінула здранцвенне, ціха абурыліся, а ачухаўшыся — узненавідзелі гэтых самых нібыта прыніжаных, абражаных і дыскрымінаваных,

а на самай справе задаволеных жыццём адкормленых абібокаў, якім чамусьці дазволена вучыцца хачу-не хачу, канікулы праводзіць у Еўропе, а грошай мець — без ліку, дзеля чаго для іх створаны ўсе ўмовы. Аказваецца, калі ты сам прывёз што-небудзь вартае з краін далёкіх і прадаў, то гэта не злачынства — і цягай-багацей да скону. А вось калі купіў у таго, хто прывёз, ды далей адправіў з надбаўкай за страх, рызыку і пошукі, то гэта ўжо для Крымінальнага кодэкса зусім іншы момант і абставіны, а значыць, і высновы. А галоўная выснова такая: нам не дазволена нават тое, на што нашчадкам рабоў і дазволу пытаць не трэба! Чаму так? Не было ў нас на гэта адказу. І таму мы неўзлюбілі, як я ўжо казаў, «чорных» мацней, чым расісты з Амерыкі. Па спрыяла таму і знешнасць неграў. Для большасці з нас, белых, яны былі на адзін твар, да таго ж не самы прывабны: вочы-бельмы, вусны слінявыя, тоўстыя — колеру бардо і ад вуха да вуха, нос — на паўтвару, як раздушаны, на галаве нашлёпка з чорнага лямцу, — адно толькі рожак не хапае. І вось такая дзіўная істота ўсё часцей стала сустракацца на нашых вуліцах. Нібы чэрці з палескіх балотаў павылазілі. Жах дый годзе! І гэты «жах» быў перада мною, усміхаўся…

— І я вырадкам сябе не лічу, — учапіўся за маю вымушаную пахвалу Султан. — Дзеўкі вашы, ты ж бачыў, так і вешаюцца, адбою няма.

Дарэмна ён пра нашых бедных дзяўчат. Я паморшчыўся: маўляў, ведаю, хлопча мілы, чаго яны вешаюцца, за якую дробязь ты іх купляеш, губы раскапыльваць табе не варта, — але ўголас згадзіўся:

— Ды бачыў, бачыў, і не раз, так бы мовіць, галоўным быў сведкам. Але даволі пра гэта. Вернем-



ся да таго, з чаго пачалі, — да сукенкі. Або да касцюма, як хочаш. Але для пачатку сёе-тое трэба ўдакладніць: «Жыгулі» за бясцэнак я нікуды не пастаўляю, здабываю «капусту» сумленна. І яе я цяпер прынёс. Вось глядзі, — кінуў пяць стафунтавых купюраў (у дэфіцыце, між іншым, былі і тады, і цяпер у нашых краях гэтыя ангельскія паперкі). — Хопіць з цябе, містэр чароўны? Толькі адна маленькая ўмова: выносіш касцюм ты. Пара анучак — не «777»-ы шматкілаграмовы: за пояс, за пазуху засунеш — толькі і клопату. Гэта мяне, куды б ні сунуў, абшукаюць старанна — і знойдуць крамолу. А цябе чапаць не стануць.

Убачыўшы грошы, якія Султан лічыў ужо страчанымі, ён павесялеў, усміхнуўся шэра-жоўтымі зубамі і ненапружную ўмову прыняў.

Гэтак мы і прамаршыравалі міма вахцёра (агента 006 — атрымлівай, пляшывы мікрахабарнік, новую мянушку!), выйшлі з небяспечнай для майго здароўя зоны — інтэрната політэхнічнага інстытута. Мянтоў, ці, праўдзівей, «шэрых» на прахадной не заўважылі.

Я ўжо з палёгкаю ўздыхнуў, убачыў святло ў канцы тунеля, як раптам, амаль ужо на волі, нас раз’ядналі. А калі прасцей, мяне запынілі. Султан прайшоў спакойна, а госцю два плячыстыя, са строгімі тварамі таварышы — і адкуль толькі ўзяліся? — перагарадзілі дарогу.

— Тут жывеш? — здзекліва спытаўся адзін з іх, а другі тут жа схапіў мяне за рукаво на выпадак, калі я паспрабую ўцякаць.

Не паспеў я нічога сказаць, адказаць на пытанне, нібы і не самае цяжкае. Не змог вось так адразу, з лёту, зноў у сітуацыю ўключыцца. Усяго секун-

ду назад расслабіўся, перавёў дыханне і не быў, проста фізічна не быў гатовы адказаць і на любое іншае, яшчэ больш простае пытанне, напрыклад, як зваць хлапчыну — мяне, не каго іншага. Таварышы тармазнулі не толькі маё цела, але і свядомасць. Лёгка тармазнуць чалавечка, з маленства агаломшанага крыклівымі лозунгамі ды казачнымі тэорыямі. Куды складаней, як высветлілася, спыніць нашчадка тых, каго гандляры рабамі гадоў дзвесце назад шыфравалі як чорнае дрэва. «Дрэва» аказалася моцным.

— Тут! — больш чым упэўнена заявіў Султан і ўсім сваім атлетычным корпусам стаў паміж мною і цікаўнымі хлопцамі. — Са мною! — І, зрабіўшы прыкметную паўзу, дабіў іх, няўсмешлівых: — Пляменнікам пасла сацыялістычнай рэспублікі Гвінея! А вы супраць таго, каб мы, белы і чорны, пад адным дахам жылі? Супраць роўнасці і братэрства ўсіх народаў?

Супраць пляменніка пасла, а тым больш роўнасці і братэрства народаў вартавыя сацыялістычнай маралі і парадку нічога не мелі. Мелі супраць мяне, аднак гэту сваю думку-прыдумку павінны былі пакінуць пры сабе.

І мы пайшлі далей — міма сталовай, да выхада са студэнцкага гарадка.

— А калі пацікавяцца і высветляць, што ты жывеш адзін? — пасмялеў я, выйшаўшы на вуліцу і ўбачыўшы жаданы аўтобус.

— Нічога страшнага. Па дакументах я жыву з двума студэнтамі з вашых. Але каб перад вачыма не мітусіліся і ў чужыя справы насоў не ткнулі, аплачваю ім асобную кватэру. І хлопцам даспадобы жыць самастойна, і мне добра. А калі пачнуць глыбока



капаць — дарэчы, як я нюансы вашае мовы за пяць гадоў вывучыў? — хлопцаў і ў інтэрнат вярнуць нядоўга.

— Усё ж давай я касцюмец забяру ў цябе ў аўтобусе. На ўсякі пажарны.

— Ах, як дзяржава родная сваіх жа грамадзян застрашыла! — паківаў галавою Султан. — Не скрадзеную, а купленую рэч чалавек баіцца ў рукі ўзяць, быццам можа іх пазбавіцца…

«У нас не сярэднявечная Англія і не Арабскія Эміраты мінулага стагоддзя — рук не адсякаюць. А вось галаву за парушэнне правілаў валютных аперацый могуць адцяць», — падумаў я, але кампаньёну нічога не сказаў. Хіба жыхар вольнай Гвінеі мяне зразумее?

Так, моўчкі, і развіталіся. У аўтобусе Султан сунуў мне за пазуху шаўковы камплект, буркнуў: «Удачы!» — і на наступным прыпынку выскачыў. Не, не на наступным — я папрасіў яго праехаць яшчэ адзін — на той жа пажарны выпадак. Перастрахоўка ў нашай небяспечнай справе — адна са складнікаў поспеху, ну ды пра гэта я ўжо, здаецца, казаў.

## VI

Я ўпершыню дарыў Наташы такую дарагую рэч і, вядома ж, хваляваўся. Сэрца збівалася з рытму: а раптам, выклаўшы паўтысячы фунтаў, не дагаджу? Раптам колер не той ці фасон не гэтакі? А калі, што самае горшае, — памер не падыдзе? Прыкідваў на вока, але прыкідка — не прымерка. У рэшце рэшт, раптам проста не пад настрой заяўлюся?

Аднак хваляваўся я дарма. У Наташы, калі яна ўбачыла серабрыста-блакітны камплект, зроблены на

недасяжным для нас туманным Альбіёне, у старой добрай Англіі (мы любілі гэтую краіну-востраў завочна, па кнігах яе пісьменнікаў), так загарэліся вялікія карыя вочы, такім неверагодным шчасцем засвяціўся яе мілы тварык, што я думаў — памру ад разрыву сэрца.

Наташа абняла мяне і — ад чаго я й зусім страціў галаву — заплакала. Яна ведала, якой цаною дастаецца такое хараство. Знала і забараняла мне выпрабоўваць свой лёс.

Я лёгка прытуліў каханую да сябе:

— Мая бедная малышка!

Наташыны слёзы капалі мне на грудзі. Гарачыя, дарагія мне слёзы. Нельга, няможна прымушаць яе плакаць. Але — што я магу зрабіць, калі Усявышні не даў мне мажлівасці выбіраць? Зрэшты, выбар быў, але які?! Рызыкаваць,ісці па вастрыі нажа і думаць, што ты рухаешся ў пошуках лепшага жыцця, або да смерці чакаць на чужым прыпынку чужога аўтобуса? Да самай смерці чакаць…

Я не хачу прачакаць жыццё! Не хачу!

Я абдымаў Наташу, цешыўся цяплом яе цела, слодыччу далікатных вуснаў. За гэта можна ўсё аддаць! Нават само жыццё!

Я быў шчаслівы. Я зразумеў галоўнае, і ні пры чым тут праклятыя грошы і бясконцыя гонкі! Я зразумеў ісціну. У мяне ёсць за каго аддаць жыццё! Я зразумеў, што гатовы памерці за ўсмешку каханай! Шчасце — вось найвышэйшае прызначэнне чалавека! І нават савецкі класік Максім Горкі не пераканае, што гэта не так…

За Наташынай спінай пад гадзіннікам я ўбачыў адрыўны каляндар. Машынальна зірнуў, прачытаў на ім: 1984, 8 лютага. Ну вось, учора лісток забыў



адарваць… Гэтак жа машынальна адзначыў для сябе: «Запомні гэты дзень. Дзень, калі ты зразумеў нешта вельмі важнае. Можа быць, самае важнае для цябе».

Недзе паблізу ўрубілі на ўсю магутнасць родны «шарп» ці што — даляцела: «…пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Генеральны сакратар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Юрый Уладзіміравіч Андропаў».

«Адышоў, карміцель. Чарговы правадыр Краіны Дэфіцыту, — падумаў амаль абыякава. Знячэўку прамільгнула: — А можа, апошні? Апошні правадыр і першы баец нябачнага фронту?»

І яшчэ нейкая думка прабегла ў падсвядомасці, але чамусьці не пакінула следу. Непрыемная думка, трывожная. Такое засталося адчуванне. Вельмі канкрэтнае. Таму што мне і сапраўды стала холадна. Нібы мяне схапілі раптам у смяротна-ледзяныя абдымкі. І толькі праз нейкі час тая думка-бяглянка павярнулася-варухнулася ў амаль нерухомых мазгах: «Калі-небудзь памрэм-адыдзем і мы, зусім іншыя байцы зусім іншага нябачнага фронту».

Тады я не думаў, што гэта здарыцца так хутка.

## Усход — штука тонкая

### I

У далёкія васьмідзесятыя нядаўна забранага гісторыяй стагоддзя трон Галоўнага Стырнавога яшчэ непадзельнай і бязмежна ганарлівай краіны Саветаў першым пасля скону вышэйшага партыйца заняў самы інтэлектуальны гэбіст за ўсю лубянкаўскую гісторыю. Вось тады я і дапяў: прыйшоў час адпачыць ад мясцін спазнаных. Дапяў, бо ўразумеў: хадзіць-дыхаць свежым паветрам па роднай зямельцы цяпер небяспечна. Памагатыя Галоўнага інтэлектуала могуць спорна даць па шапцы і не на жарты сапсаваць не толькі настрой, але і скурнае покрыва з прычоскай.

— А што гэта вы, добры чалавек, днём і не на рабоце? — спытаюць. — Га?! Другая змена? Які ж вы гаварун, жартаўнік і смяльчак адначасова! Дзівосненькае спалучэнне! Тое, што трэба! А ну, пройдзем! Дазвольце ж вас за ш-шкірку! Даз-з-в-о-о-льце! Будзе ў цябе, разумнік, і другая змена, і трэцяя, і чацвёртая звышурочная, і пятая праклятая! Усё будзе!

Усяго мне было не трэба, усім можна толькі падавіцца. А таму ў роспачы вырашыў я пакінуць на нейкі час прасторы маёй невялікай, але вельмі любай Радзімы. Наважыўся палавіць рыбку ў мутнай вадзіцы Каракумскай пясчанай невядомасці. Нечакана паўстаць перад панамі экс-басмачамі з забаро-

 

ненай камерцыйнай прапановай — купіць у шчырых хлопцаў, ад белага спякотнага сонца разамлелых, не раскошу, а сродак руху (як пераконвалі нас, хітруючы, класікі) — саўювы «mersedes», «volvo», «ford» і тачанку разам. А менавіта — нязбыўную мару сумленнага савецкага чалавека — аўтамабіль, магчыма, і нездарма ахрышчаны татарскім словам «жыгулі».

Адзін, вядома, у такое далёкае падарожжа не выправішся, і ідэяй вандроўкі на «Каракумскую выспу скарбаў» я падзяліўся са старэйшым таварышам па рабоце Валерыем Яфімкіным. Ён не толькі ўспрыняў сказанае блізка да сэрца, але і стаў актыўным арганізатарам каманды — збіральнікам, натхняльнікам і папулярызатарам.

— Колькі таго жыцця! Пад лежань-валун вада не цячэ! — размахваў агітатар метровымі рукамі і бліскаў дзюймовымі вачыма. — Ляцім, пакуль лепшыя тачкі не парасхоплівалі! (Уласна, тады і прыйшло мне ў галаву, што «тачка» — слова, магчыма, скарочанае ад «тачанкі»). Вы ж ведаеце, Масква дзецям поўдня заўсёды зямных даброт больш падкідвала! — не сунімаўся аратар. — Іхнім слязам яна верыць. А як жа інакш? Усход — штука, вядома, тонкая, як у тым фільме казалася, але і капрызлівая, дадам ад сябе.

Рана ці позна пасля такіх гучных слоў і зманлівых абяцанняў павінна была згуртавацца падпольная каманда ахвотнікаў рызыкнуць сваім здароўем і грашыма. Яна і сабралася. Аднак сам Валерка ў апошні момант занядужаў і ў шлях-дарожку не выправіўся. Так мы і не ўведалі, ці сапраўды галоўны агітатар прыхварэў, ці проста трохі астыў, пакуль іншых вучыў праўдзе-розуму. Ды хай яго Бог

судзіць.

Урэшце група азіяцкага захопу сфармавалася з трох адважных гвардзейцаў.

Першым хацелася б назваць кіраўніка раённага хору — малярослага чалавечка з лысінкай, самаададана закаханага ў сваю задужа фігурыстую Рымачку. Гэта быў ціхі, на людзях і мухі не пакрыўдзіць, але ваяўнічы на кухні нацыяналіст з велізарным і неўтаймоўным жаданнем вырвацца з галечы. Як сапраўдны змагар за справядлівасць, а значыць, прыхільнік усяго экстрэмальнага, у тым ліку забароненай літаратуры, у прыватнасці самвыдату і антысавецкай замежнай фантастыкі, ён і мянушку меў адпаведную — Гары Гарысан. Для сваіх — Гарык.

Другім ахвотнікам праехацца ў край далёкі стаў «часовы» сусед кіраўніка раённага хору па лесвічнай пляцоўцы, прымак па разліку (прапіска плюс бясплатны сэкс) недавучанай бульбашкі, аматар вясёлага бесклапотнага жыцця і ўладальнік моцнага здароўя грузін Вахтанг. Красунчык трошкі большага за сярэдні росту, з пякельна-чорнымі шарлатанскімі вачыма. Фразу: «Ах, якая попка!» — ён вымаўляў без аніякага акцэнту. У адрозненне ад свайго славутага цёзкі, народнага спевака Кікабідзе, — «вольны» мастак і разгільдзяй.

Укамплектоўваў бліскучую тройцу ваш пакорлівы слуга — таксама «хлопец з нашага двара» (як і сачок-агітатар пералічаных вышэй таварышаў, Валерка), калісьці студэнт-спартсмен-камсамолец-выдатнік, пазней — абаронца не сваёй Радзімы, а на той момант — ну што зробіш?! — звычайны, прыдушаны жыццём радыёінжынер, а па сумяшчальніцтве — меламан і аматар вострых адчуванняў і



прыгод (часцей на сваю галаву).

І безумоўна, трэба згадаць пра грашовыя запасы кожнага з адчайных шукальнікаў удачы.

Гарык узяў з сабою ўсё назбіранае з Рымай за дзевяць гадоў дужа эканомнага (дзякуючы жонцы) сумеснага жыцця — дзве тысячы семсот пяцьдзесят рублёў.

Вахтангу на свой страх і рызыку даверлівая бульбашка ўручыла «часова ўзятыя» ў любых дзядулі і бабулі (ейная маці-адзіночка жыла ад зарплаты да зарплаты і нічым памагчы не магла) адну тысячу дзевяцьсот рублікаў — продкі збіралі іх чвэрць веку.

Я аказаўся самым багатым з тройцы — дзевяць тысяч сапраўдных, моцных, як сталь, савецкіх рублёў грэлі маё правае лёгкае (ляжалі ў патайной кішэньцы курткі): чатыры тысячы — сваіх (здаў у камісіёнку неймаверна цяжка прыдбаную шматблочную апаратуру: стэрэавідак, двайную дэку, цюнер, узмацняльнік, эквалайзер, прайгравальнік, калонкі) і пяць — аднакласніка і музыканта Юзіка Кульбіцкага. За апошнія тры гады ніводнага выхаднога не правёў артыст у коле сям'і: усё па вяселлях, па вяселлях, па вяселлях, дзе, як вядома, спяваюць і скачуць. Дзякуючы «вясельнай» музыцы Юзік і сабраў кругленькую суму.

— Трымай! — уручыў мне пакет, але паставіў умову: — Да канца зімы возіш себрука па халтурах бясплатна. Я толькі за бензін у адказе. Затое доўг можаш аддаць вясною.

— Згода, — узяў я грошы і ўсцешліва падумаў: «Да вясны — як да месяца, а грошыкі — вось яны, "жыгулямі" пахнуць».

## II

Асноўную частку няблізкага шляху ад Мінска да Каракуміі праскочылі на малагабарытным «ТУ-134», што сабраў усе паветраныя ямы над Саюзам. Далей пайшлі бясконцыя пераезды аўтобусамі і аўтобусікамі. І вакол — пясок, пясок, пясок. Без прасвету, паўсюль: у вопратцы, у чаравіках, на зубах, у вачах, у страўніку. А як дабраліся да патаемных мясцін казачнага пустыннага каралеўства і разгарнулі прадбачліва прыхоплены кемлівым нацыяналістам Гарыкам атлас СССР, дык ледзьве з розуму не крануліся: яшчэ пара такіх рыўкоў-пераездаў — і Пржэвальскага пераплюнем.

Спыніліся ў невялікім гарадку, цэнтры тутэйшага басмачава-чабанскага жыцця. Пасля нядоўгіх пошукаў пасяліліся ў двухпавярховай (адзінай тут) гасцініцы — некалі казарме саўкантынгенту. Узялі «трайны люкс»: пра тэлефон і гарачую ваду — забыць, але чорна-белы круглавата-вуглаваты тэлевізар «Зорка», мутнаватыя, часін галоўнага кукурузніка люстэркі і сюрпрызы-ручнікі даўжынёй з локаць меліся. На завяршэнне высветлілася, што ў будынку мы былі адны. Можна жыць!

Падарожнікі-расейцы і нашчадкі таленавітага Тараса Шаўчэнкі, спрадвечныя нашы канкурэнты, аддавалі перавагу таму, каб спыняцца (як мы пасля пераканаліся) у прыватным сектары: і дах над галавою напалову таннейшы, і сталавацца нядорага можна. Аднаасобнікі ж бульбашы (як, дарэчы, часам занадта ганарлівыя — амаль фіны! — прыбалты) згодныя былі без любімых суседзяў зведваць жыццёвую асалоду (што беларусам, праўда, зрэдку ўдавалася), ды і гатаваць прызвычаіліся самі.



От так і мы, хоць з нашае тройцы шукальнікаў прыгод адзін я быў бульбашом. Зрэшты, гэта не мела асаблівага значэння. Галоўнае — прыбылі мы з роднай і тады ўжо самай савецкай з сёстраў-рэспублік Бульбашыі.

Не паспелі ўвечары паходны настольнік разаслаць — адзначыць прыезд не надта хуткі, як у дзверы ціхенька пастукалі. На калектыўна-дазвальнае «калі ласка!» у нумар зайшла моцна скроеная мадамс няпэўнага ўзросту — тая, што забрала ў нас пашпарты на ўваходзе ў «гатэль». Услед за ёй паказаўся вусаты, з усмешкаю на ўсе трыццаць два, задаволены сабою і светам джыгіт.

— Гэта Руслан, мой зяць, — назвала маладога чалавека мадамс. — У гонар галоўнага героя вядомай казкі Пушкіна, між іншым, назвалі. Мы хоць і ў пустыні жывём, але класіку чытаем.

Парупілася, варта адзначыць, цешча, яна ж — адміністратар гасцініцы Зульфія Зульфіяраўна, ці, як пазней скараціў яе «каардынаты» бесклапотны Вахтанг — Зу-зу, не дарма. Цёпленькіх заезджых шукальнікаў кјраў[1] адразу па прыездзе, у першы ж лагодны вечар, маглі перахапіць і іншыя мясцовыя дылеры. Усход — штука тонкая, але, як пачыналі мы разумець, і спрытная.

— Хлопцы, мяркую, у такую далеч не на сонейку грэцца прыехалі? — бліснула залатымі зубамі Зульфія Зульфіяраўна. — Як разумею — машыны прыдбаць! Пахвальны ўчынак! І прашу паверыць: спыніўшыся ў нас, вы зрабілі вельмі ўдалы першы ход, чым дужа аблегчылі сабе задачу. Русланчык за сімвалічную плату аб’ездзіць з вамі кожны двор, і

---

[1] Ад ангельскага «car» — машына, аўтамабіль.

я перакананa: што-небудзь вартае вы абавязкова знойдзеце. Зяцёк, зноў жа, і старгавацца дапаможа: ён усіх ведае, яго ўсе ведаюць — якія праблемы? І не падмане з хлопцам ніхто. Цешча ж у гэтых краях не апошні чалавек.

Першым азваўся з адказам Вахтанг, які паспеў ужо акліматызавацца (меў жа стасункі амаль з землякамі):

— Сэрцам адчуваю, добрая ты жанчына. І калі мае сябры не супраць — а яны, бачу, «за», — дык дзякую — пакуль словам — за прапанову дапамаггчы. Скажу больш: калі зацікаўленыя бакі, як кажуць у такіх выпадках, згодныя, з заўтрашняе раніцы і пачнём.

— Прыемна мець справу з разумнымі людзьмі, — зноў блiснула золатам Зульфія Зульфіяраўна. — Што ж, прабачце за турботы, не будзем вам больш назаляць. Да заўтра!

— Душэўна зычым адаспацца пасля цяжкай дарогі, — развітаўся і Руслан. Але перад тым, як зачыніць за сабою дзверы, удакладніў: — Калі ў дзевяць пад'еду, не разбуджу?

— Самы раз, — пагадзіўся за ўсіх Вахтанг.

## III

Мінулі два дні, больш дакладна — двое сутак бесперапыннага гойсання па сядзібах, дварах, хлеўчуках, вуліцах, завулках. Вынік — нуль! Няма выніку! Траплялася то рыхтаванае-перарыхтаванае, цыравана-перацыраванае ламачча, то рухавік у кара кіпеў, як забыты на пліце чайнік, то машына нават па пяску кацілася з такім грукатам, быццам танк, то яшчэ які-небудзь невылечны дэфекцік нечакана выпаўзаў напаверх. Але рук мы не апус-



калі, не здаваліся, шукалі, мітусіліся, спадзяваліся. Надзея памірае апошняй. А калі яна яшчэ і адзіная…

Раніцай трэцяга дня Руслан, як заўсёды, заехаў па нас раней за дамоўлены час: перастрахоўваўся, каб які іншы мясцовы «аўтадылер» выпадкам не перахапіў гасцей. Пачакаў, пакуль мы няспешна і сытна паснедаем (спадзеву паабедаць пры нашым цэйтноце не было), пасадзіў гасцей у сваю таратайку, вядомую сярод аўтамабільнага люду як «Запор 968, мадыфікаваны», і мы накіраваліся на пошукі.

Гэтым разам, выехаўшы з гасцінічнага, аб'яднанага са школьным, дворыка, поўнага дзятвы, якая чамусьці больш поўзала, чым бегала, мы выправіліся ў чарговую пошукавую шлях-дарогу ўжо не з тым радасным настроем, які адчувалі ў першыя дні.

Бянтэжыў і прычэп, які валачыў за сабою Русланаў «запор». Навошта?

— Улавіў запытальныя адносна прычэпа позіркі, — заўважыў наш неспакой Руслан. — Думаеце, хачу вам «левую» машыну ўперці? Такую левую, якая на сваіх чатырох і кіламетра не пракоціцца? Памыляецеся і дарэмна мяне крыўдзіце. Прычына зусім іншая. Я на працу еду! Таму і прычэп спатрэбіўся. Сёння аніяк няможна без прычэпа. Чаму? Неўзабаве пабачыце. І не хвалюйцеся, калі ласка: адразу ж пасля працы дарагімі гасцямі займуся.

— Пасля працы? — перапытаў я, адчуваючы, што закіпаю. — А мы сюды, значыцца, адпачываць прыехалі? Каторы дзень марна матляемся! За «ванек» нас трымаеце? Думаеце, на ноч гледзячы кінемся машыны выбіраць? Упоцемку драпіну з палец можна прафуфукаць і зашмальцаваны салон за новы

прыняць! І дзе, скажыце, нам цэлы дзень кукаваць у чаканні передавіка вытворчасці містэра Руслана?

— Цэлы дзень — гэта ў вас, у БССР, гарбацяцца гэтыя самыя передавікі. Каб сагрэцца, бо ў вас холадна. А ў нас і без таго цёпла. За гадзінку ўпраўлюся.

«Слаўная работка, — астыў я адразу. — Гадзінку ў тыдзень? Гэта нават не камунізм, а бяры вышэй. Нешта такое, на што і Маркс-Энгельс разам з дзядулем Леніным адказу не ведалі».

Яны — не ведалі, але наш рамізнік — ведаў!

Праз паўгадзіны мы падкацілі да Русланавай «працы» — будаўніцтва дванаццаціпавярховага, як апавяшчала выцвілая шыльда ля ўваходу, Ашхабадскага сельскагаспадарчага навукова-даследчага інстытута.

«Багатыя, аднак, будаўнікі, — прыкінуў я колькасць прыватнага аўтатранспарту вакол недабудаванага першага паверха. — Машын у хлопцаў больш, чым на ўсёй нашай немаленькай вельмі Камуністычнай вуліцы разам з трыма яе завулкамі».

У чым жа заключалася аднагадзінная ў тыдзень постсацыялістычная праца, я дацяміў не адразу.

У чацвяргі, як сёння, «масква» завозіла на аб’ект будаўнічыя матэрыялы. «Пяты ўжо год — хутка юбілей!» — весела ўдакладніў Руслан. І як рабілі справаздачу, да прыкладу, адносна цэглы, якой за пяток гадоў было адгружана ці не на цэлы Акадэмгарадок (гэта я, як матэматык-самавук, падлічыў), мяркую, застанецца неразгаданай таямніцай савецкай гісторыі. Але фактычна рабілася так: раз на тыдзень будматэрыялы спачатку разгружалі, а потым дзялілі (строга па чарзе і старшынстве) і развозілі для патрэб сямейных на сваіх машынах. Начальнік



аб'екта падганяў не легкавік, а грузавічок. (На тое ён і начальнік, каб больш за ўсіх ад жыцця браць.) Посткамунізм і толькі! А правільней — рай! Ад кожнага і кожнаму — паводле жадання! І няма чаго тут нешта прыдумляць!

«Адпрацаваўшы» святую належную гадзіну, за якую Руслану дасталіся прэміяльныя ў выглядзе паддона цэглы, дэфіцытнага чэшскага блакітнага унітаза, скрынкі цвікоў, дзвюх бляшанак белай фарбы, чатырох упаковак зварачных электродаў, меха цэменту, дзвярнога замка (усяго і не ўспомніш), наш вадзіцель на гэты тыдзень афіцыйную працу скончыў. Завёзшы дадому няўлічаныя ані ў адным «дзяржплане» прэміяльныя (джыгіт яшчэ і зарплату атрымаў), ён ізноў прыступіў да левага прыробку — абслугі гасцей і кліентаў з далёкай Еўропы-Беларусі.

Гэтым разам мы кіраваліся да мясцовага эскулапа, аб візіце да якога наш памочнік-вадзіцель дамовіўся напярэдадні.

IV

Медыцыну ў Каракуміі за гады савецкай улады так і не ўдалося зрабіць бясплатнай, і Руслан дрыготкай рукою, амаль не гледзячы на дарогу, прытрымліваючы руль адно левым каленам, ці не пятнаццаты раз то клаў у канверт трэцюю «пяцёрку», то вымаў. Нарэшце, не вытрымаўшы, матлянуў галавой і, злосна плюнуўшы на «праклятага абдзіралу», працадзіў: «Ды хай ён падавіцца!».

З гэтае міжвольна выяўленай шчырасці я зразумеў, што каракумскаму эскулапу ўсё роўна, дзеля чаго ты да яго завітаў: лекавацца, пагаварыць ду-

шэўна ці яшчэ па нейкай рупнай прычыне. Галоўнае — *ты* прыйшоў, а не да *цябе*, *ты* і плаці.

Вось гэткі вобраз доктара-крывасмока (грошыкі ж людзям крывёю дастаюцца — большасці, вядома) склаўся ў мяне, і, само сабою, ехаць да яго ахвоты не было.

А «крывасмок», наўздзіў, аказаўся чалавекам прыстойным і цывілізаваным: акуратна падстрыжаныя скроні і патыліца, беласнежны шаўковы халат, пах дарагога адэкалону, гаворка без азіяцкага пранонсу, які каверкае словы. Праўда, ветліва доктар вітаў толькі нас. Пасля рабскага паклону і нясмелага падкладання на краёк стала канверта Руслан, заікаючыся, выціснуў:

— Гэ-эта мае госці з Беларусі.

Доктар замест адказу пстрыкнуў двума пальцамі ў бок дзвярэй: «Пайшоў!»

І Руслан пайшоў.

«Ты глядзі, які аўтарытэтны таварыш, — падціснуў я губы. — Нават зяця мадам Зу-зу нулём лічыць! Нездарма Руслан усю дарогу калаціўся ад страху».

Пазней зразумеў: вяршэнства старэйшых над малодшымі на гэтых землях закладзена ў генах.

Застаўшыся з намі, суровы доктар умомантператварыўся ў добрага Айбаліта і згладзіў узніклую няёмкую сітуацыю:

— Няварта ўсё бачанае ў нашых краях прымаць блізка да сэрца. З абарыгенамі толькі гэтак і трэба абыходзіцца. Інакш нельга — тут жа на карак сядуць. Усход — штука тонкая і... жорсткая. — Доктар разгарнуў шматок паперы і прадоўжыў: — Хоць бы той жа Руслан. Дзеці пустыні і ёсць дзеці пустыні! Прысылае малодшага брата з запіскай. (Можа,



менавіта па ёй доктар зараз пальчыкамі пастуквае?) Чытаю: «Вельмі паважаны…» (Акурат па ёй!) Так, гэта няважна… Во: «Пайшоў трэці дзень, як бульбашы прыехалі па машыны і пасяліліся ў нашай гасцініцы. Я, само сабою, узяўся дапамагчы, а тут, як на ліха, перад Новым годам усе распрадаліся. Вы ж ведаеце, у студзені новая партыя чакаецца… А я пра яе зусім забыўся. І вось вынік. Што рабіць? Дапамажыце…»

Доктар падняў на нас добрыя, поўныя прыязнасці вочы, і спытаў:

— Зразумела, шаноўныя госці, пра што Руслан турбуецца? Тады — едзем далей. Просьбу хлопца я без увагі не пакінуў. Хоць, напэўна, вы і спытаеце, дзеля чаго паважанаму доктару, для тутэйшага люду чалавеку амаль святому, дапамагаць нейкім прыезджым беларусам? З якое такое прычыны? На гэтае пытанне з ходу і не адкажаш. Прапаную, сябры, прайсці ў дворык пад навес і там, дзе не так задушліва — чуеце, ветрык пагульвае? — папіць чайку, а заадно і пагаварыць.

Не ведаю, як Вахтанг і Гарык, а я пачаў прыслухоўвацца да доктаравых слоў. І праўда ж: што яму да нас, прышэльцаў з іншага свету? І чаму ён сказаў не проста пра нейкіх прыезджых, а — прыезджых беларусаў? За гэтым нешта ёсць?

Мы прайшлі ва ўнутраны дворык, селі, падкурчыўшы пад сябе ногі, на спецыяльным узвышшы пад стрэшкай ад нясцерпнага сонца (у нас бы — перш-наперш ад дажджу) за шчодра застаўленым усходнімі ласункамі нізкім столікам — дастарханам. Гаспадар наліў зялёнай гарбаты. З апетытам сёрбаючы яе з кубачка тонкага, амаль празрыстага фарфору, гасцінны «крывасмок» несупынна гаварыў,

гледзячы на мяне і нібыта адказваючы акурат мне на тыя зусім невыпадкова, аказваецца, узніклыя пытанні:

— З нейкага часу, сябры, лічу беларусаў сваімі братамі, — пачаў аповед доктар, калі мы трошкі асвойталіся за імправізаваным застоллем. — Мяркую, пасля таго як раскажу, вы зразумееце чаму. Пачну здалёк. Паходжу я са старадаўняга і шаноўнага роду. І род мой нікому і ніколі не быў вінен. А на мне раптам, па незалежных ад мяне прычынах, павіс і дагэтуль вісіць адзін даўжок. І не здзіўляйцеся — менавіта перад беларусамі. Даўно ўжо вісіць, а вярнуць яго не атрымлівалася: беларусы за маёй тут бытнасцю яшчэ ні разу да нашых мясцін не дабіраліся. А рэч вось у чым. Калі я паступіў у Першы маскоўскі медыцынскі інстытут, мне спярша было вельмі цяжка вучыцца: залічалі ж нашага брата, сярэднеазіята, само сабою, за грошы, а засвойваць курс даводзілася «сумленна» — самі разумееце, усіх не купіш! Думаў, капцы мне. Адно свяціла — вяртацца ў аул, бараноў пасвіць ды авечак стрыгчы.

Доктар памаўчаў, звесіўшы галаву, быццам страшэнна засмучаны чалавек. Потым схамянуўся, скінуў з сябе горкую безнадзейную асуджанасць, сонечна ўсміхнуўся:

— Ды знайшоўся адзін чалавек, узяў мяне «на буксір», пацягнуў за сабой, і мы — паехалі. Пазней, калі я ўвайшоў у «працэс», у рытм, стаў рыхтавацца самастойна, і неўпрыкмет нават захапіўся вучобай.

Зноў свідруючы вострымі чорнымі вачыма акурат мяне, доктар секануў:



— Чалавек, які тады ўратаваў сённяшняга вашага апавядальніка, быў з Беларусі, з-пад Гомеля. Ён скончыў інстытут з чырвоным дыпломам, і яго пакідалі на кафедры вучыцца далей у ардынатуры, але выпускнік неспадзеўкі выказаў жаданне служыць на Паўночным флоце. Бо (як ваш зямляк мне пасля з Мурманска пісаў) з дзяцінства, прачытаўшы «Дваццаць тысяч лье пад вадой» (колькі людзей гэтыя «лье» паклікалі ў дарогу!), марыў плаваць на падводнай лодцы. Ведаючы, што па стане здароўя ў вайсковае вучылішча не пройдзе, паступіў у медыцынскі інстытут, спадзеючыся такім шляхам праскочыць на флот. І трэба заўважыць, ён свайго дамогся: трапіў на падводную лодку. Трапіў на сваю галаву. Яна патанула яшчэ да Маскоўскай алімпіяды. Як? Сапраўдная прычына да гэтага часу засакрэчана. — Доктар зноў замаркоціўся, уздыхнуў: — Такая вось невясёлая гісторыя. Ды нічога не вернеш. — І яшчэ больш тужліва дадаў: — Гэтак я і не адплаціў свайму беларусу дабром за дабро. Цяпер трэба сплачваць доўг беларусам наогул. Яго землякам.

Расчуліў мяне, ды, напэўна, і Вахтанга з Гарыкам доктараў аповед. Уражваў трагічны лёс безыменнага земляка, ратавальніка нашага гасціннага гаспадара. На нейкі час нават прыцьмела ўсведамленне таго, дзеля чаго я тут з кампанейцамі.

Але доктар нечакана, амаль без паўзы, вярнуў нас, кажучы сённяшняю моваю, да парадку дня:

— Цяпер узгадаем мэту вашага прыезду. Хацелася б адразу ўдакладніць: не проста па шкоднасці не можа Руслан знайсці вам машыну. Апошнім часам з усяго Саюза кінуліся ў нашу глухмень аўташукальнікі і падчысцілі тутэйшыя засекі грунтоўна. Але для беларусаў, абяцаю, што-небудзь знойдзем.

Дарэчы, пакуль не забыўся. Раю не толькі на машыны палюваць, але і да мясцовых крам і крамак прыгледзецца. Актыўная Каракумская мытня закідала іх заморскім таварчыкам пад самую столь. Калі мяне па размеркаванні загналі ў гэтую глушэчу, я гады тры запрашаў сяброў-аднакурснікаў прыехаць адпачыць, а заадно і набыць абноўкі па смешных коштах…

Крамкамі з заморскім таварчыкам доктар зноў адвёў нас ад галоўнага. І гарбатка зялёная — добра, і зычлівая ўсмешка — добра, але пара б ужо і да справы. І калі доктар сказаў: «А зараз…», мы замерлі ў чаканні. Аказалася — дачасна.

— А зараз лічу неабходным сцісла ўвесці вас у курс мясцовых звычаяў і ладу жыцця, — прадоўжыў «крывасмок» (зноў прыгадалася забытае было слова). — Яны досыць дзіўныя і гэтым цікавыя. Але спачатку прапаную напоўніць кубачкі. Бачу, вам не надта даспадобы зялёная гарбата? Не праблема, памяняем на чорную. Але ўсё ж хачу параіць: пастарайцеся прывучыць сябе піць і зялёную. Хоць бы чаргаваць яе з чорнай. Вынік не прымусіць доўга чакаць. Праўда, самі вы гэтага, магчыма, адразу і не адчуеце. Першай адчуе жонка…

Пакуль мы ўсміхаліся з амаль цалкам інтэлігентнага доктаравага жарту, была пададзена чорная гарбата. Мы, урэшце, не асабліва і прагнулі яе, але ўжо, за дзень-другі, зразумелі: гарбата тут у першую чаргу не пітво, а — баўленне часу. І нават нешта большае. Як у нас не вырашаюцца справы без «моцных напояў», гэтак тут — без гарбаты. Разумеючы тое, мы таксама — услед за гаспадаром — дружна ўзяліся за кубачкі.



— Дык — пра тутэйшыя звычаі, — працягваў між тым доктар. — Паабедзенная лагоднасць дзяцей пустыні — не мае межаў, — правёў рукою, нібыта акрэсліваючы небакрай. Усміхнуўся і перайшоў на пафасна-жартаўлівы тон. — Прыняўшы дозу (без яе тут большасць — як без паветра) — укалоўшыся ці накурыўшыся, галава сям'і як бы знікае, зліваецца са святым духам, вызваляючы гэтак патрэбную ў жытле шматдзетнай сям'і прастору. Вяртаецца ж зноў у свет жывых быццам з ніадкуль. От не было нікога на ганачку — і на табе! — ёсць! Усмешлівы вясёлы чалавечак з кубачкам зялёнага чыфірчыку сядае на ніколі не фарбаваны ганак, асалавела азірае родную бязмежную пустыньку і ўцягвае першы глыток — асцярожны, нясмелы, маленькі-маленькі. За ім — другі, больш рашучы, больш жыватворны. «Ха-а-а… — выдыхае і растае нашчадак аднаго з так і недарэзаных камуністамі басмацкіх родаў. — Якшы-ы»[1]. І зноў глыток: «А-а-а…» І доўжыцца гэта да вечара…

— Вы проста паэт! — не стрымаўшыся, перабіў я доктара. — Як сакавіта працэс адыходу ў кайф апісалі! І праўда, райскае жыццё зладзілі для некаторых не вельмі свядомых народаў кіраўнікі роднай камуністычнай партыі і доблеснага савецкага ўрада. А як бульбаш ці хахол, дык — да станка яго, гада, да станка! І за тры капейкі ў дзень, за тры капейкі! Як паўднёва-ўсходні таварыш-сусед, нашчадак варвара Чынгісхана, дык — нђ яму, роднеенькаму, чыфірчыка, на! Хай прахалоджваецца-адпачывае! Толькі б не чапаў той станок: загубіць жа…

---

[1] Добра-а-а… (*узбек.*).

На здзіўленне (і дзякаваць Богу!), доктар не пакрыўдзіўся, наадварот, падтрымаў мяне:

— Цалкам з вамі згодны! Але... Але пра гэта, мяркую, мы яшчэ пагамонім. Пазней... — І нарэшце-такі, зусім знячэўку, прамовіў: — Цяпер вернемся да вашага клопату. Я аддаю вам выдзеленую мне Мінздравам машыну. Не-не, не махайце рукамі! Вы не так зразумелі. Я аддаю вам не машыну, а — чаргу на яе. На жаль, не маю магчымасці за вас яе аплаціць, самі бачыце — будуюся, другі паверх нават не скончаны, але, як кажуць, чым багаты — памагу: тысяча-другая заўсёды знойдзецца.

...Сустрэча з «беларускім даўжнікам» у пясках Каракуміі — ці не важнейшая частка нашай адысеі. Калі б не доктар і не яго высакародны ўчынак — акурат гэткая адплата доўгу заўчасна загінуўшаму сябру, дык што было б далей? А нічога! «Фініта ля камедыя»! Цалкам магло б здарыцца так, што вярнуліся б мы з пяскоў сыпучых наогул без кђраў, а хіба што — з пяском: у кішэнях, як ужо гаварылася, і на зубах. Таму доктару — доктарава! Тым больш што скончыў ён менавіта, яшчэ раз падкрэслю, словамі, якіх больш за ўсё прагнула душа мая, як і душы маіх сяброў-спадарожнікаў:

— Так што, калі не пярэчыце, прапаную пракаціцца ў аўтамагазін. Нас там ужо чакаюць.

## V

У паўтаралітровую малочнага колеру «пяцёрку» я ўлюбіўся адразу. Грошай на дзяржцану (за парогам магазіна машына каштавала ў два разы даражэй) хапіла, і доктару раскашэльвацца не давялося. Праўда, ад куплі і далейшай прэзентацыі яркіх



югаслаўскіх чахлоў я «даўжніка беларусаў» не ўтрымаў.

Адным словам, засталося здабыць машыны Гарыку і Вахтангу. Тут зноў паспрыяў доктар. Выправіў хлопцаў з запіскай дадому да бальнічнага заўгаса. Той, прачытаўшы пасланне, пачухаў няголеную патыліцу, але дагледжаную, колеру казачна далёкай адсюль марской хвалі «капеечку» з гаража выкаціў.

Машына з ходу ўпадабалася Гарыку. Упадабалася, а грошай не хапала: на такі варыянт мастацкі кіраўнік хору, а заадно дысідэнт і заціяты антысаветчык не разлічваў. Меркаваў купіць нешта прасцейшае, абы ехала лепш за дзедаў «масквіч», які праз раз кудахтаў і глух (быў набыты яшчэ ў год выхаду на экраны стужкі «Сцеражыся аўтамабіля»). Заўгас жа беларусам нічога вінен не быў, і хоць дзеля начальніка-доктара мог істотна папусціцца з цаною, але ж не настолькі, каб аддаваць выпешчаную прыгажуню бясплатна. Потым Гарык распавядаў: у той момант у яго свярбелі рукі пазваніць доктару, паспрабаваць пазычыць у «пратэжэ» адсутную суму. Але падумаў і вырашыў не перагінаць кій — чалавек і так усё магчымае для нас робіць.

Здавалася, выйсця не было. Ды нечакана на выручку прыйшоў Вахтанг:

—Давай, дружа, возьмем яе на дваіх, усё ж не чужыя людзі — суседзі, а дома разбярэмся, што да чаго і хто каму і колькі вінаваты.

Гарык павагаўся, павагаўся: вельмі ж хацелася мець акурат *асабістае* аўто, але — пагадзіўся:

— Усход — штука тонкая, аднак — даражэйшая, чым доўгія языкі мянташылі.

Адным словам, мы не паехалі пустымі з краіны далёкай, ды, як высветлілася, зусім не казачнай.

Цяпер, калі мінулі гады, я разумею, што тады нам з машынамі проста пашанцавала — мы ўскочылі ў апошні вагон апошняга цягніка. Пасля нас, калі ў Каракумію хто і ездзіў па «кары», дык вяртаўся, як зазвычай, на сваіх дзвюх і з досыць тужлівай фізіяноміяй.

«Банкет з нагоды» пачаўся рана, яшчэ ўдзень. І пачаўся не ў доктара. Выбачыўшыся, што з гасцямі больш заставацца не можа — выклікалі ў сталіцу (памятаецца, нешта казалася пра павышэнне), ён перадаў нас свайму добраму сябру, дырэктару школы.

Сябра нашага сябра прапанаваў «амаль земляку» Вахтангу выбраць з самапасных бараноў найбольш апетытнага, а мне — прадэгуставаць з дзесятак марак тутэйшых він. Я аддаў перавагу беламу дэсертнаму, і яго прынеслі скрынку, што вельмі здзівіла: думалася, будзем піць, як калісьці ў гасцях у Ерэване — з бочачкі.

Гатавалася ўсё ў тандыры (паўтараметровай печы, якая нагадвала ў анфас падкову) проста на нашых вачах, і вострыя слінагонныя пахі туманілі нязвыклую да іх свядомасць.

Галоўны настаўнік, вядома ж, заўважыў гэты нонсенс, і яшчэ задоўга да духавой бараніны нам прапанавалі развеяць туман бакалам маладога віна. Яго прынесла гаспадыня, якая так і не села з намі за стол.

Усход — штука тонкая, але — не жаночая.

Не прамінула і гадзіны, як шашлыкі і манты пачалі знікаць са стала бы ў фокусніка. Шчыра прызнаюся: ніколі, ні раней, ні пазней, я не еў нічога настолькі фантастычна смачнага. Ні ў хітраванаў-палякаў, ні ў працаголікаў-скандынаваў, ні ў вечна бесклапотных баварцаў, ні ў адлучаных ад



свету таежных сібірскіх паляўнічых, ні ў бандзюкаватых гаспадароў Уладзівастока, ні ў падманліва марудлівых арабаў... Віно падагравала кроў, але зусім па-іншаму, чым тое, што прадаецца ў нашых мясцінах. Не столькі хмяліла, як весяліла, узбадзёрвала, дадавала моцы. Хацелася жыць, жыць і жыць! Доўга і шчасліва. І каб усе былі шчаслівыя! Усе і заўсёды!

Раніцай падняліся з надзіва свежымі галовамі — во напоі і закусачка каракумскія! — і, нават спехам не паснедаўшы, пачалі збірацца ў дарогу. У гасцях — добра, але ж калі-небудзь і дома трэба быць.

Аднадушна пагадзіліся (як цяпер разумею, дарэмна), што больш вопытны вадзіцель Гарык паедзе адзін і за намі, а я і Вахтанг, як нядаўнія выпускнікі вадзіцельскіх курсаў, паціху пакоцім наперадзе, падмяняючы адзін аднаго за рулём.

У такой паслядоўнасці нас і праводзіў галоўны школьны настаўнік.

«Дырэктар — жыўчык і разумнік, — адзначыў я, сядаючы ў машыну. — А дзятва, якую ён вучыць грамаце, — ледзь жывая. Ад спякоты, напэўна».

Ужо ў дарозе прыйшло ў галаву яшчэ адно назіранне: «У Каракуміі, каб быць Паважаным Чалавекам, дастаткова вывучыцца і не глытаць наркату штогадзінна. У нас паўкраіны з дыпломамі і шпрыца ніколі ў руках не трымалі, а Паважаных — адзінкі».

## VI

Бяскрайнюю пустыню разрэзала роўная і вузкая, як між польскімі мястэчкамі, палоска асфальту. І на гэтай «вузкакалейцы» вёрст так праз пяцьдзесят, а можа, і праз сто расстаўлены сабачыя будкі. Зрэш-

ты, не зусім сабачыя, хутчэй — тэлефонныя, у якіх усё роўна сядзяць сабакі, гэта значыць — даішнікі, што для многіх (не тутэйшых) адно і тое ж.

Пустыня і ёсць пустыня — ніводнай лішняй малекулы! — і будку відаць нібы на далоні. І вы, як чалавек-нядурань — а не дурань, калі машыну купілі (а перад гэтым яшчэ на яе пры напалову рабаўласніцкім ладзе зарабіць умудрыліся), — узіраецеся ў сціплы прыборны шчыток (Ура — Італія! Год шэсцьдзесят сёмы!) і з палёгкаю выдыхаеце: едзеце нават не дазволеныя *семдзесят*, а ціхія *пяцьдзесят пяць* — парадачак! Далей папраўляеце рэмень бяспекі: як ён? Зашпілены? Нармальна! Што яшчэ не так? Ручнік? Не, ручнік правяраў перад выездам — трымае. Пра што мог забыцца? От чорт, — аптэчка! Не, не чорт: каб доктар і без аптэчкі? Так не бывае. Ёсць аптэчка! Якія яшчэ могуць узнікнуць пытанні? Алкаголь? Пілі ўчора. Па тройцы дэсертнага на брата — хіба гэта піццё? У дадатак замест сняданка прынялі па літры малачка казінага — страўнікі прачысцілі. Забыць! З алкаголем у хлопца ў фуражцы, калі спыніць, таксама нумар не пройдзе. Бадай усё. Рулюем, усміхаемся, не хвалюемся. «800 метраў да паста ДАІ», «400». Дзе гэта яны столькі дарожных знакаў у пустыні пазнаходзілі? І чаму дагэтуль па хатах не разнеслі? Дзівосы. Непадобна на тутэйшую публіку.

Вылазіць таварышок, вылазіць ласкавы. Яшчэ б не вылез. Яму ж з будкі далей відаць, чым мне з кабінкі «жыгулька».

«Да ўзбочыны, да ўзбочыны», — паказвае паласатай палкаю дарожны начальнік, і каманду я выконваю. У мяне ж усё о’кей, якія праблемы?

— Дарагі госць нашага сонечнага краю! — ашаламіў, быццам улез мне ў грудзі і ўхапіў за сэрца



дарожны дазорца і, здаецца, ілюзіяніст плюс казачнік. — Велікадушна прашу прабачыць, што перапыніў ваша доўгачаканае вяртанне на радзіму, — выйшла рука з маіх грудзей. — Ці не жадаеце прайсці ў мае апартаменты? Будзеце прыемна здзіўлены!

Гэта ўжо абсалютны перабор! Якая гаворка! Якія манеры! Добра, доктар у Першым маскоўскім медыцынскім вучыўся, шэсць гадоў мазгі сушыў, Руслан ад цешчы, вялікай паклонніцы Пушкіна і, між іншым, выпускніцы наргаса, куды простага смяротнага і з круглымі пяцёркамі ў атэстаце не возьмуць, нахапаўся, але — дарожны мент? Дзівосы! Шахерэзада ды і толькі.

Мент у чаканні ўсміхнуўся, і трэба было штосьці адказваць.

— Пытанне рытарычнае. Хвілінку, прыхаплю дакументы.

— Не трэба ніякіх дакументаў! І так бачу: харошы чалавек за рулём. А таварыш ваш, здаецца, з сонечных краёў родам?

Вахтанг неяк неактыўна пацвердзіў здагадку і нават вяла павітаўся, але з машыны не вылез (жыхары поўдня чамусьці ўсе адзін да аднаго ў прысутнасці жыхароў поўначы нераўнадушныя) — зрэшты, на гэтым ніхто і не настойваў. Я рушыў да «апартаментаў». Трэба было зайсці ў будку і як мага даўжэй адцягнуць увагу даішніка. Тады ў Гарыка, які прытармазіў непадалёку, з'явіўся б шанец праскочыць без дагляду.

— Прашу! — адчыніў перада мною дзверы старшы лейтэнант. — Усход — штука тонкая і... гасцінная! Не чакалі?

Я прыцціх. Ніжняя, закрытая частка будкі была аб-

вешана шыкоўнымі імпартнымі жаночымі касцюмамі — з тых, што называюцца «на выхад». У такіх апратках і па вечаровых Канах можна пашпацыраваць! І сапраўды — не мент, а ілюзіяніст!

— Ангельскія рэчы! Не якое-небудзь «шыла» мэйд ін Турцыя! — ажыў старлей, злавіўшы мой заблішчэлы позірк. — Выбіраем каханай жанчыне падарунак. Машына — гаспадару, суперубор — яго красуні! Усе радыя, задаволеныя і шчаслівыя! Поўны, удакладню, камплект! І аддаецца ўсё за трэць кошту, бо (гасцям можна прызнацца) таварчык на рэалізацыю брат з мытнага канфіскату перадаў. А дасць Бог, пасябруем-парахуемся, дык і на карце пакажу — у вас, бачыў, атлас аўтадарог ёсць, — як пасты з нашымі хлопцамі да самага Краснаводска (цяпер перайменаванага, зразумела, па просьбах працоўных, у Туркменбашы) аб'ехаць, а калі зловяць — навучу, якія байкі для адбіўкі распавесці.

Сукенкі былі ашаламляльныя, але нават за трэць цаны грошай хапіла толькі на адну. Затое самую лепшую! (І для якой-такой тутэйшай цемнаскурай красуні кантрабандыст супердарагую Шанель валок?) Цяпер усё, фініш, аніякіх дарожных пакупак. Грошай у абрэз нават на бензін.

—Трымайцеся, бульбашы! — пажадаў нам бізнесмен-даішнік, калі мы зноў крануліся ў дарогу.

Доўга не мог я забыцца пра безыменнага кантрабандыста, вылаўленага братам даішніка. Хацеў хлапчына падзарабіць, чагосьці дасягнуць у гэтым жыцці беспрасветным, а цяпер — што? Цяпер косці на нарах пар і плач, успамінай дзянькі вясёлыя. Нічога не зробіш: суадносіны «рызыка — прыбытак» кожны выбірае сам і па меры сваіх здольнасцей. (Я яшчэ не ведаў, што хутка гэтыя суадносіны да-



вядзецца выбіраць і мне.)

Запомніўся і старлей-даішнік, што ўручыў мне ў знак удзячнасці за пакупку нечаканы прэзент — жаночыя лайкавыя пальчаткі. («У нас усё роўна не спатрэбяцца».) Стрымаў ён і слова — намаляваў на атласе, як аб'ехаць сяброў дарожных. А дзе гэта немагчыма — што казаць, якія байкі для «адбіўкі» баяць.

Ну і браткі! Не працаўнікі пільнай сферы, а адладжаны мытна-даішны тандэмчык бізнесменаў: першы рабуе тых, хто прыязджае, другі — за бясцэнак збывае нарабаванае тым, хто ад'язджае, а ў дадатак падказвае выйсце з пясчанага лабірынта.

І варта адзначыць: апошняе было даражэй за ўсё, таму што амаль без збояў і яшчэ да надыходу цемры дапамагло нам дабрацца да аўтапляцоўкі парома, што плыў па маршруце «Краснаводск — Баку». На ім мы і павінны былі пераплыць Каспій.

Тут, праўда, без ускладненняў не абышлося.

Два жвавыя, упартыя да немагчымасці азербайджанцы-карцёжнікі са шматстайнасці сабранага на пароме народа для сваіх несумленных гульняў чамусьці выбралі ў напарнікі мяне. Ці то выгаралы да бледна-жоўтага «колер» маіх валасоў ім не спадабаўся, ці то твар, падсмажаны каракумскім сонцам (як, зрэшты, ва ўсіх «паўночнікаў»), іх нерваваў. Фініш гульні, як і трэба было чакаць, атрымаўся скандальны, з бойкай, і калі б своечасова не вынырнуў Гарык, які, на маё шанцаванне, няблага ведаў «арабскую», а значыць, трошкі і азербайджанскую, — дык невядомаму мінскаму радыёінжынеру і меламану ў адной асобе маглі б і кранты прыйсці: карцёжнікі ўжо нажы падаставалі.

Нацыяналіст Гарык пытанне, як кажуць, закрыў,

але больш ад мяне не адыходзіў. Напэўна, адчуваў, што яшчэ не ўсе свае думкі і не з усёй пяшчотаю я выказаў шулерам. Правільна адчуваў.

Потым ён мне патлумачыў, як супакоіў карцёжнікаў: «Грошы ў хлопца даішнікі вытраслі, таму дарэмна з жабраком час марнуеце. Яшчэ не позна знайсці і абуць сапраўды ўпакаванага лоха». Тады ж і прызнаўся Гарык, што прапанаваўшы гэта, ён паказаў на Вахтанга, які стаяў паблізу.

Я аслупянеў: чаму ён так зрабіў? Менавіта ж Вахтанг падаў яму руку дапамогі, без чаго не каціў бы цяпер аматар фантастыкі ў сваёй (няхай пакуль і «на двух» купленай) тачцы. Прытым абодва — паўднёвыя, скажам так, браты. Тут ужо і праўда задумаешся: усход — штука тонкая.

Зрэшты, Гарык ведаў што рабіў: з плячыстым Вахтангам лёс-удачу карцёжнікі выпрабоўваць не сталі.

## VII

Суша сустрэла нас танкамі, перакрытымі дарогамі, зачыненымі крамамі і бесперапыннымі праверкамі дакументаў. Нейкі рызыкоўны мясцовы афіцэр бакінскую ўладу, як ён лічыў, ушчэнт карумпаваную, спрабаваў зваліць, ды нумар у порсткага не прайшоў. Партмафія — бессмяротная!

Гадзіны тры мы прабіраліся праз кардоны, пасты і шлагбаўмы, але паступова яны надараліся ўсё радзей і радзей, пакуль нарэшце не зніклі.

Выявілася, мы ўжо заехалі ў Дагестан — краіну Расула Гамзатава, здаровага для лёгкіх паветра, спакойных, але непрадказальных барадатых мужчын, невыразных жанчын і па-мурашынаму мітуслівых (у адрозненне ад каракумскіх) — галодных ці што?



— дзяцей. Самы спакойны, як мне падалося тады, край. Заказвай, выбірай, плаці і шуруй далей. Бай-бай.

Дэрбент, Ізбербаш, Махачкала, Хасавюрт — усё на адным дыханні.

Праімчаўшы без прыпынкаў па самым спакойным краі да Стаўраполля (Чэчню з яе тады яшчэ нягрозным Грозным у спешцы не заўважылі), вырашылі, што досыць гонак, час прытармазіць, заправіць машыны і задаволіць галодныя страўнікі. Прышварталіся ля запраўкі-забягалаўкі. Запоўнілі бакі і завіхнуліся былі выпрабаваць арганізмы падазронай прыдарожнай ежай, ды — не даелі. Таварышы-бандыты з вялікай дарогі (з часам гэтыя хлопцы перабудуюцца ў больш культурных, але не менш нервовых рэкеціраў) ужо наладзілі кантроль за аўтаперагоншчыкамі, і заставалася самае лёгкае — здымаць капусту.

Самае лёгкае? Каб жа! Паспрабуй паспей за ўсімі, прасачы, не празявай каторага хітразадага! Нас от прашляпілі, калі трэслі разамлелых ад шчасця ленінградцаў (хлопцы дзесьці адхапілі чорную «дваццацьчацвёрку»!).

На ўсялякі выпадак далей (у Паўночнай Асеціі і Кабардзіна-Балкарыі) мы амаль не спыняліся, рулілі без перадыху. Здаліся толькі на запраўцы ў нейкай несусветнай глушэчы ўжо за Мінеральнымі Водамі, дзе не было знаку прысутнасці не тое што рэкеціраў, але і наогул жытла.

Смуглая чарнавокая прыгажуня-запраўшчыца, на выгляд і па апратцы відочна старшакласніца, прапанавала-прамурлыкала зазірнуць на агеньчык у пакой адпачынку і, як я здагадаўся, кахання. Пушок над ейнымі ярка-пунсовымі ад прыроды вуснамі, якія, здаецца, яшчэ не ведалі памады, злёгку

пакрыўся потам ад хвалявання. І з якое гэта прычыны дзеўчына ў краях гарных мужыкоў-казакоў галодная ходзіць і наважылася на прыдарожны флірт — па чутках, досыць небяспечны? Хіба я адзін, такі герой, па дарозе хуткасці пераключаю? Наўрад.

— Паспрабаваў бы спачатку! — павысіла голас малалетняя красуня, калі зразумела, што госць не зазірне на агеньчык. Але я задушыў у сабе небяспечнае жаданне, не рызыкнуў здароўем і Бог ведае чым яшчэ.

Такія прапановы перадыхнуць і расслабіцца гучалі з вуснаў дарожных каралеў і Краснадарскага краю, і Растоўскай вобласці, і па ўсім поўдні Украіны да самай яе слаўнай сталіцы.

## VIII

За Кіевам наваліўся несусветны туман. У такое марыва я патрапіў упершыню: дарогі за два крокі — не відаць.

Упарты грузін спрабаваў ехаць кіламетраў дзесяць за гадзіну, пакуль ледзьве не пацалаваўся з шыкоўным, у тры абхваты, дубам. Спыніліся перачакаць. Так бы, напэўна, і адпачывалі невядома колькі, калі б раптам, нібы на самалёце, міма нас не пранёсся нейкі вар'ят. Заведзены гэтым выбрыкам якогасьці дзівака, Вахтанг, не раздумваючы, ірвануўся ўслед за гоншчыкам.

— Дудкі, мяне так проста не возьмеш! — ляmантаваў па-чапаеўску.

Мёртвай хваткай Вахтанг учапіўся за бампер машыны невядомага смельчака, якая ляцела наперадзе. Так да Казельцаў на халяўку і дабраліся.

На ўказальніку «Нежын» наш вядучы збочыў на-



права і прытармазіў.

Спыніўся і Вахтанг. Дастаў з бардачка дзяжурную — даішную — пляшачку і занёс яе звышзоркаму павадыру. Высветлілася, што не гоншчык быў звышзоркі, а яго супрацьтуманкі са стоватнымі японскімі галагенкамі.

Развіталіся пераразвонам сігналаў.

Дзесьці пад Чарнігавам Гарык, які ўвесь час старанна і моўчкі трымаўся ззаду, рынуўся наперад.

— Пайду цяпер я паравозам, стаміўся на хвасце ў салаг сядзець! Ды й тут вы ўжо не згубіцеся... — крыкнуў ён у прыспушчанае правае акенца іх з Вахтангам «сямейнай» машыны. — Заўтра ў Рымы дзень нараджэння! Абяцаў абавязкова быць! І буду!

Так і пайшоў верны муж наперад, толькі мы яго і бачылі. Спачатку, гледзячы яму ўслед, здзекаваліся нязлосна: ну адрывайся, адрывайся, спяшайся да сваёй пульхненькай імянінніцы. Сказана ж даўно і слушна: едзеш цішэй — будзеш далей. Жартавалі-пасміхаліся і не заўважылі, як сапраўды моцна адсталі. Ці то Гарык занадта высільваў «капейку», спяшаўся на імяніны да каханай жоначкі, ці то мы часцей, чым трэба было, спыняліся, мяняліся месцамі ды застылыя костачкі разміналі.

Ужо ў адзіночку мы кацілі далей ды падымаліся па мерыдыяне зямнога шарыка ўсё вышэй і вышэй і, значыць, апыналіся ўсё бліжэй і бліжэй да роднай зямелькі.

Такім манерам адматалі без сну (ад самага Баку) дваццаць восемь гадзін. Я прапанаваў далей лёс не выпрабоўваць і перадыхнуць. Але Вахтанг — ён якраз сядзеў за рулём — заўпарціўся:

— Дацягнем.

І мы ледзь не дацягнулі... да могілак!

Сон зламаў яго арганізм, і кацо адключыўся. Праўда, руль трымаў моцна, і я не адразу ўгледзеў небяспеку. Непрыкметна мы бралі лявей і лявей, хоць Вахтанг усё гэтак жа ўчэпіста сціскаў, ні на што не рэагуючы, абаранак. А між тым на нас марудна і ўпэўнена насоўвалася шэрая смерць у выглядзе роднага МАЗа з пяцісекцыйным прычэпам-вагонам (можа, якраз на будаўніцтва таго самага сельгасінстытута кіраваўся зямляк?), і я ледзьве паспеў ірвануць руль на сябе. Мы прашмыгнулі ад аграмадзіны на адлегласці выцягнутай рукі. Вадзіла яшчэ доўга ціснуў, аглушаючы нас, на сігнал.

Вахтанг прахапіўся і, добра не цямячы, што здарылася, учапіўся за руль. Я аддаў упартаму грузіну кіраванне, але заўважыў:

— Як толькі дагонім Гарыка, перасаджваешся да яго. Там свае небяспечныя эксперыменты на вынослівасць і паказвай!

Праехаўшы пару кіламетраў, грузін усё ж скеміў, што лепш не гуляць з лёсам у рызыкоўныя гульні, і здаўся:

— Тармажу, крыху пакімарым. І праўда — вочы зліпаюцца.

— Правільна, адпачні, а я павяду. Да мяжы ўжо рукой падаць, — памяркоўна прапанаваў зменшчыку.

— Э, не! — нечакана Вахтанг зноў заўпарціўся. — Пакуль не адматаю кіламетраж, як дамовіліся, руль не аддам!

Што было рабіць? Пярэчыць — марна. Ды і стаміўся я спрачацца з наравістым грузінам.

— Спадабалася мераць зямныя прасторы? Давай, давай.



## IX

Прачнуўся я, калі пад'язджалі да Беларусі. Вахтанг, задаволены тым, што ажыў першы і паспеў пару дзесяткаў кіламетраў пагаспадарыць адзін, прысвістваючы, вырульваў на запраўку.

— Ачуняў, бос? Своечасова! Давай грошыкі, пайду каня падкармлю, а то зусім хлопец прагаладаўся: чырвоная лямпачка з паўгадзіны гарыць.

Вярнуўся Вахтанг не ў настроі:

— Запраўшчыца песні пяе: «Бензіну няма. Толькі НЗ для даішнікаў. Чакайце да раніцы». Але да раніцы — адубеем. Адчуваю, сваім фэйсам ёй не спадабаўся. Можа, ты схадзі? З бландзінамі, наколькі прыкмеціў, хахлушкі больш ветлівыя, самі да іх ліпнуць.

— Ліпнуць брудныя рукі і яшчэ сякое-такое месца, калі салодкім абжэрціся, а дзеўчынёха — спалохалася, — перавёў я гаворку ў іншае рэчышча, мала спадзеючыся на сваё меркаванне. — Зірні на сябе ў люстэрка: двухсутачная чорная шчэць, вочы галодныя — бандыт адназначна! Але не дрэйф, дыхай глыбей. Можа, мне пасвеціць удача. Паспрабую ўгаварыць хоць на пару дзесяткаў літраў, іх нам якраз і не хапае.

Дасведчаныя вучаць: калі нельга дасягнуць мэты ні за так, ні за грошы, а вельмі трэба, яе дасягаюць любой цаною. Любой!

У гэтым выпадку абышлося без крайнасцей, але ахвяраваць падараванымі каракумскім бізнесменам-даішнікам лайкавымі пальчаткамі давялося. Супраць вырабаў з лайкі ў аніводнай жанчыны няма аргументаў.

Заправілі і пакацілі. Як прыгаворваў Астап Ібрагімавіч, пасяджэнне працягваецца!

Праз паўгадзіны паказалася і мяжа! Нарэшце! Аднак дзіўна: штосьці няма нашых хлопцаў-даішнікаў. Спяць, напэўна. Святы занятак для беларуса. Гэтак ён апошнія два стагоддзі і праспаў.

І ўсё ж — як вольна дыхаецца на роднай зямельцы! Вось мы і дома! Амаль дома, калі хто занадта дакладнасць любіць. Цяпер мяне цяжка спыніць.

Я сеў за руль, і мы пагналі!

Здавалася, не за пяць гадзін, а за пяць хвілін праімчалі трыста кіламетраў. Заставалася зусім дробязь. Зусім...

## X

Я ведаў: галоўнае — не расслабляцца на апошнім адрэзку дарогі. Прытым не па чутках ведаў — меў і сякі-такі досвед. Але калі мінулі знак «Мінск — 17 км», розум мой адключыўся, задрамаў. У сне я ішоў па канаце над безданню і раптам хіснуўся. Ахоплены жахам, закрычаў:

— Стаяць!

І прытармазіў! На галалёдзіцы! І як?! Педалька — да канца! Машыну панесла юзам, закруціла, і вось яна — бездань, тая, што снілася! І мы ныраем…

— Не-е! — закрычаў.

Я спалохаўся, але змагацца не пакінуў. Рэзка вывернуў руль направа, у бок, супрацьлеглы кручэнню, вырваў кіраванне з рук лёсу-стыхіі і выруліў за метр ад абрыву, — не даў сну стацца яваю, а нам — абрынуцца ў бяздонную будаўнічую яму.

Яшчэ доўга я штосьці крычаў на мангола-татарскай, ускідваючы ўгору кулакі, трос, нібы эпілептык, галавою — здавалася, да скону яна так і будзе ў мяне матляцца туды-сюды, туды-сюды. Нервы не вытрывалі, і я не валодаў сабою…



Але тое, што ўбачыў далей, — спаралізавала.

Нейкае чалавекападобнае — інакш не назавеш — стварэнне скінула з рамантаванай дарогі знакі «паведамляльны ўказальнік пераходу на другую праезную паласу» ды іншыя, што спадарожнічаюць ім. І на поўнай хуткасці (не толькі мы спяшаліся трапіць дадому да надыходу поўначы) — чатыры машыны ўрэзаліся адна ў адну.

Фуршчыкі паспелі ўжо перагарадзіць дарогу з раскіданымі па ёй знявечанымі целамі і пакарабачанымі аўтамабілямі, уключылі аварыйныя сігналы. Не першы раз пераконваюся, якія дальнабойшчыкі малайцы! Калі б не яны, целаў было б нашмат больш — з кожнай хвілінай больш.

Тады я і ўбачыў чалавека без галавы. Замест яе на шэрым асфальце ў чорна-барвовай лужыне плавалі раструшчаныя косці і падрыгвалася жэле мазгоў.

Прыгадаўся той пяцісекцыйны МАЗ, які прагрымеў літаральна за некалькі сантыметраў ад нас. Тады Усявышні злітаваўся, пашкадаваў, зараз — таксама. Наступны раз чарга на выратаванне можа аказацца не нашай.

Штосьці змусіла зноў паглядзець на абезгалоўленага. Гэта ў прыродзе чалавечай: жахлівае не толькі адштурхоўвае, але і прыцягвае. І я зноў павёў вачыма. Госпадзі! Боты з меднымі каўбойскімі шпорамі! Гэта ж хвалёны штатаўскі абутак Гарыка! «Другіх такіх “кірзачоў” у краіне няма!» — любіў фарсануць ён пры нагодзе. Не хацелася верыць. Свядомасць адмаўлялася ўспрымаць убачанае. Божа! Навошта ён адарваўся і панёсся наперад? «Да Рымачкі на дзень нараджэння спазняюся». От і паспеў.

Вахтанг раптам залапатаў па-свойму. Пэўна, таксама пазнаў Гарыкаў абутак. І закрычаў. Ягоны голас узрываўся ўсё мацней і мацней, і неўзабаве я нічога, акрамя яго, не чуў. Ніштo не магло заглушыць гэты голас.

Нечакана Вахтанг заціх, укленчыў каля славутых ботаў, пачаў маліцца — таксама па-свойму, незразумела. Так і прастаяў да прыезду «хуткай» і даішнікаў.

Вахтанг застаўся дзяжурыць на месцы аварыі, а я паваloкся ў Мінск — паведаміць родным. Акурат паваloкся — доўга поўз на трэцяй, забыўшы на чацвёртую і не чуючы за спінай абураных сігналаў тых, хто ўсё адно спяшаўся. І гэта злавала. І са злосцю думалася аб тым, што дарога бярэ занадта дарагую плату за тое, што яе хтосьці і калісьці праклаў для хуткасці перамяшчэння. Цяпер яна вымагае грошай? Так, вядома. Але здаўна і нястомна бярэ і куды больш дарагую плату — чалавечыя жыцці.

## XI

Ёсць, акрамя любові і нянавісці, яшчэ адно пачуццё, якое змушае губляць галаву. Яно прыходзіць, калі мы вяртаемся пасля доўгага расстання дадому.

Я заехаў у двор, спыніўся, заглушыў матор. Усё, прыехаў! Канец. Фініш... Расслабіўся... Нечакана сціснула ў грудзях. Кудысьці прапала дыханне.

Ледзь вылез з машыны. Моцна, як мог, удыхнуў і выдыхнуў — адпусціла! Закарцела зірнуць на неба. Вялізная чорная птушка лунала над горадам. Ястраб? Няўжо арол?! От ён праляцеў над маім домам, узняўся ўвысь і растаў у нябёсах. Як Гарык, мой сябра, цяпер ужо вечны. А можа, гэта ён і быў?

# ЖАКЕЙ

Надвячоркам, перад тым як ісці на працу, Уладзімір клаўся на гадзінку-другую перадыхнуць. Ён вёў дыскатэку, якая доўжылася да глыбокай ночы, і пастаянна недасыпаў. Дыскатэка была эксклюзіўная, дарагая, для багатых, але праграму рыхтаваў і вёў Уладзімір адзін. Дастойнага дублёра знайсці не маглі, і шэф часам непакоіўся, што будзе, калі вядучы захварэе або з ім яшчэ нешта здарыцца. Але Уладзімір не хварэў, на працу выходзіў, і дыскатэка пад апладысменты сталых наведвальнікаў пачыналася заўсёды своечасова.

Тым днём, пасля запісу са спадарожнікавай сістэмы зборкі апошніх шлягераў, стомленасць ад недасыпання ўзяла сваё. Ужо амаль машынальна ён аддаў суседу Лёву, які па звычнай завядзёнцы зайшоў якраз у гэты час перапісаць у сваю калекцыю падрыхтаваную для работы касету, і прылёг, не распранаючыся, на канапу.

Ён не ведаў, што ветлівы да немагчымасці Лёва, адыходзячы, дзверы толькі прычыніў, і замок не зашчоўкнуўся. Жонка Наталля ўкладвала малога спаць і суседа не праводзіла.

Уладзімір знаходзіўся між сном і яваю, калі нешта вострае кальнула ў жывот. Гэта прымусіла расплюшчыць вочы, але сонная свядомасць яшчэ супраціўлялася. Усё ж боль перамог, і ён прачнуўся.

Спачатку Уладзіміру здавалася, што сон працягваецца. Хтосьці ў чорным, з нацягнутай на галаву

панчохай, прыціскаў яму да жывата нож. Проста ў твар Уладзіміру ў гэткім жа маскарадзе дыхаў другі. У руцэ ў яго быў рэвальвер.

Уладзімір ніколі б не падумаў, што нацягнутыя на галаву калготкі могуць ператварыць чалавека ў нешта пачварнае, у монстра.

I

— Заб’ю! — прахрыпеў той, што прыставіў нож.

Другі, з пушкай, дадаў:

— Ляжа-аць!

— Што за клаўнада? — здзівіўся Уладзімір, падымаючыся, але ўдар рэвальверам па галаве зноў абрынуў яго на канапу.

Ён праваліўся ў цемру. Раптам — успышка! Загарэліся зоркі! Сышліся ў круг. Сталіся сонцам. Яно сляпіла. Закружылася галава. Ён паволі паплыў па крузе. Не, не ён — плылі сцены, столь, падлога. Хуткасць кружэння павялічвалася. Цела налівалася свінцом, набухала. Зараз яно ўзарвецца…

Уладзімір ачуўся на падлозе.

Двое ў чорным не зніклі. Але з’явіўся трэці, гэткі ж блізнюк. Ён стаяў у праёме дзвярэй, метры за тры ад канапы, і адной рукою трымаў Наташу за валасы, а другой прыставіў да яе шыі нож. Кончык ляза пракалоў скуру, і з-пад яго сачылася кроў. Перапалоханыя жончыны вочы застылі.

— Заб’ю! — паўтарыў той, з нажом.

Другі, з рэвальверам, прашыпеў:

— Ляжы ціха, не торгайся, тады і дзеўку не зачэпім.

Уладзімір разумеў: цяпер галоўнае — выйграць час, не рухацца, але ўсё ж рашыўся — толькі вачыма — агледзець пакой: колькі іх? Не паспеў і зусім



трошкі, здавалася, непрыкметна павярнуцца, як атрымаў удар па разбітай, залітай крывёю галаве.

Уладзімір зноў праваліўся ў ноч. У цішыню. Ён стаіць. Адзін. Ногі тонуць у пяску. Пустыня. З’явілася Наташа. Заводзіць знаёмую песню:

— Навошта табе такая работа? Я ж казала, папярэджвала. Дабегаешся са сваімі касетамі і дыскамі. Давядуць цябе гэтыя Джагеры ды Глітары. Я адчувала… Цяпер усё…

Міраж знікае. Ён слепне. Раптам — святло! Яркае! Зноў сонца? Не, гэта кінаэкран. Пайшоў фільм. Чорна-белы. Зверху абрынаецца вадаспад. Кадр спыняецца, вадаспад завісае: нехта націснуў «паўзу». Імгненне — і карцінка распаўзлася. Экран страціў межы. Цяпер ён сам у ім, у кадры. Не, не ў кадры — у жыцці. Уладзіміру зноў захацелася агледзецца, але ў свядомасці штосьці спрацавала, і ён не варухнуўся.

Тут жа пачуў:

— Выродак! Ты кончыш яго! Мабыць, ужо...

Уладзіміра выдалі павекі — здрыгануліся.

Бандыт заўважыў гэта, усміхнуўся:

— Жывы?! Малаток! — І ўжо спакайней: — Сапраўды, такую красуню нельга адну пакідаць, нельга. Добра? А-а? Добра-а… Цяпер — да нашых бараноў. Усім будзе кайф, калі скажаш, дзе бабкі. Капуста ў цябе ёсць, мы ведаем, так што, жакей, не марнуй часу…

Уладзімір глядзеў на расплывістую чорную галаву, якая гаварыла ўсё гэта праз панчоху. За час, пакуль тлумачылі сітуацыю, адчуў — ногі яму цяпер не памочнікі. «Як аднялiся, — сцяў губы. — Та-ак, паловы цела ўжо няма. Шанцаў вырвацца ўсё менш».

— Уставай. Толькі ве-ельмі памалу, — загадала чорная галава.

Цела не слухалася. Памяць пра мінулы боль скавала яго. Бандыты, відаць, зразумелі тое і, узяўшы Уладзіміра пад рукі, пасадзілі. Руля рэвальвера перамясцілася ад галавы да шыі, нож — да рэбраў. Шанцаў вырвацца па-ранейшаму не было.

— Дык што з бабкамі?

Яго прыўзнялі, спрабавалі паставіць на ногі.

— Ара, гэтая сука не стаіць, — сказаў адзін з тых, што трымалі Уладзіміра. — Можа, вадой яго?

— Не трэба, пасадзіце, няхай перадыхне, падумае. Куды ён без ног.

Уладзіміра апусцілі на канапу.

«Далі сесці. Добра. Гэта шанец», — прамільгнула ў свядомасці. Агледзеўся зноў толькі вачыма: «Іх трое. У пакоі двое і адзін на кухні, трымае Наташу… Падонак застаўся з жонкаю?» Ірвануўся, але нешта стрымала яго. Нож. Нож, што ўпіўся між рэбрамі.

«А гэты, з рэвальверам? Ён — злева. За ім — балкон. Адчынены. Шанец усё ж ёсць. Левага адшпурнуць паспею…»

Уладзімір сцяўся, гатовы да скачка, але прашыты неданоса к — верхавод тройкі — па дрыжэнні нажа адчуў нешта нядобрае: лязо, праткнуўшы скуру, увайшло ў цела.

— Бачу, ты не зразумеў. Аус! — гукнуў, павярнуўшыся ў бок кухні. — З красуняй разабраўся? Добра! Цяпер вазьмі коўдру і накінь на мальца. Можа, тады да бацькі дойдзе…

«Божа, як мог забыць. Сынок! Наташка ўкладвала яго, калі засынаў. “Даганяй татку”, — шаптала яму ў вушка».



Цела Уладзіміра сцялася спружынаю, але ён адчуў, што і лязо ўвайшло глыбей. Болю не было, але вырвацца стала немажліва. Нож ці не на трэць быў у ім.

Пачуліся ўсхліпы, і Уладзімір убачыў: малюсенькія ножкі сына ўзняліся ўгору, заторгаліся.

«Усё, хопіць, — загадаў сабе. — Сынам рызыкаваць — не сабою».

— Грошы ў шафе. На верхняй паліцы.

Бандыт кінуў коўдру, падскочыў да шафы, выпатрашыў адну паліцу, пасля другую — грошай не было.

Нервовы, з рэвальверам, размахнуўся, і пасля новага ўдару залітае крывёй цела ўпала перад дзіцячым ложкам. Падаючы, Уладзімір пачуў: «Ёсць!» — і прыхапіў за сабою коўдру, што душыла сына.

Зноў ноч. Усё. Ён сваё адпрацаваў. Было шмат чаго. Можа, і на самай справе хопіць? Бачыў столькі, што хапіла б на два, на тры жыцці! Відаць, і сапраўды выбраў ліміт у Бога?

«Ці так гэта?» — асмеліўся Уладзімір спытаць ва Усявышняга.

І тут яго ахапіла гарачыня. Зноў закружылася галава.

«Дзе я? — спрабаваў спыніць кружэнне. — Чаму адзін? Дзе Наташа, сынок?»

— Божа, калі ты забраў самых блізкіх, забяры і мяне! — закрычаў у адчаі.

Ад крыку вярнулася свядомасць, мацней забілася сэрца, што пачало было спыняцца, пачасцілася дыханне.

Уладзімір расплюшчыў вочы. Навокал усё белае. «Дзе я?» Агледзеўся. Кафля. Ён у ваннай. Не па-

мёр. Толькі рукі... За рукі яго прывязалі да трубы, што ішла да ўмывальніка. Звязаны і ногі. Вусны... Вуснаў не разняць. На іх — ліпкая стужка.

Прыслухаўся. Цішыня.

«Пакінулі жывым? — нібы ў тумане працягваў працаваць мозг. — Не забілі»?

Уладзімір напружыўся — і адразу азваўся боль, абрынуўся на яго, разрываючы цела. Ён зноў ледзь не страціў прытомнасць.

«Асцярожна, — сказаў сам сабе, — асцярожна».

«Думаць, думаць, не спаць», — загадваў розум, калі першыя спробы выбрацца з пасткі не ўдаліся.

Труба. Труба ідзе да зліва. Зліў новы, пластмасавы, ён толькі пафарбаваны белай эмаллю разам з трубою. Трэба падцягнуць вяроўку да зліва і, упёршыся нагамі, ірвануць.

Паволі прыўстаў на калені. Вяроўка нацягнулася. Нешта трымала яе. Канец? Не, не канец. Гэта апошняе мацаванне трубы, самае слабае.

Уладзімір прыціснуўся спінаю да зліва. Уявіў, што разбягаецца, і — рвануў. Ён разумеў, што можа ўдарыцца галавой аб падлогу, але гэта не палохала. Прадчуванне свабоды ўзяло верх над свядомасцю, і спыніць яго было немагчыма.

Падаючы, Уладзімір паспеў павярнуць галаву і тым самым ўратаваў свой не вельмі моцны нос ад пералому.

Адляцеў да дзвярэй. Не марудзіў. Націснуў на іх нагамі. Расчыніліся. Зноў прыслухаўся: па-ранейшаму ціха.

Рукі вяроўка рэзала цяпер не так моцна. Відаць, напружыўшыся, ён расцягнуў яе.

Спрабуючы паслабіць вузел, рэзка заторгаў рукамі. Яны вызваляліся, але нямелі пальцы. Падва-



нітоўвала. Час супраць яго. Ён пацягнуў больш моцную правую руку да сябе. Рука з болем пралезла праз путы і вырвалася на волю.

«Цяпер — ногі, — загадаў сабе Уладзімір, але ў галаве стаяў туман, і ён зразумеў: вызваліцца не паспее. — Трэба спяшацца».

І папоўз да кухні.

Жонку прывязалі да батарэі пад абедзенным столікам. Скручаная вяроўкамі, з заклееным ротам, яна глядзела на яго застылымі ад жаху вачыма. Пакуты і боль любімага чалавека выклікалі ў ім лютасць, нянавісць, адчай: «Падонкі, сволачы, гады!» Падпоўз бліжэй. Асцярожна зняў з яе вуснаў скотч. Нічога не сказаў, забыўся, што ўмее гаварыць. Сказала Наташа:

— О Госпадзі!

— Ціха, ціха, — супакойваў яе. — Не глядзі, не трэба, — шаптаў, не разумеючы, што Наталля не заплюшчыць вачэй, бачачы яго акрываўленую галаву, грудзі, усё цела.

— Ты не памрэш, ты ніколі не памрэш, — ажыла яна, адганяючы прэч думкі пра самае страшнае.

— Усё будзе добра, — ківаў Уладзімір, падтрымліваючы жонку, — усё будзе добра.

Узяўся за стол, прыўстаў. Прыборы ляжалі ў шуфлядцы. Выняў нож, апусціўся на калені. У галаву зноў штосьці ўдарыла. Прытомнасць пакідала яго. Цьмяна разумеючы, што робіць, разразаў на жончыных руках вяроўкі. Неўзабаве абмяк і заціх.

«Халаднавата. Шэра-салатавыя сцены. Жалезная спінка ложка. Палата? Так… Я ў бальніцы… — зразумеў Уладзімір. — Жывы».

Пачуліся крокі. Праз імгненне адчыніліся дзверы. На парозе — двое. У форме.

— Ачунялі? — набліжаючыся, усміхнуўся адзін з іх. — Цудоўна. Не хвалюйцеся, вашы жонка з сынам у гэтай жа бальніцы. Даруйце, што турбуем, але — час, як кажуць, не чакае. Чым хутчэй вы адкажаце на нашы пытанні, тым болей застанецца шанцаў затрымаць бандытаў.

Чамусьці ўступаць у гутарку не хацелася, і Уладзімір заплюшчыў вочы.

— Вы што, таварышы, здурнелі? — убег, абурана размахваючы рукамі, дзяжурны доктар. — Сястра па лекі выйшла, а яны тут як тут, пакой для допытаў з палаты зрабілі. Чалавека толькі-толькі з таго свету выцягнулі! Зараз жа пакіньце палату!

Ноччу Уладзіміру не спалася. Нібыта адчуўшы гэта, нячутна зайшла медсястра. Убачыла, што Уладзімір ляжыць з расплюшчанымі вачыма, і амаль узрадавана сказала:

— Даруйце, што турбую. Я вас пазнала: вы дыскжакей, ведзяце начную дыскатэку ў кавярні, што непадалёк ад майго дома. Я некалькі разоў была там, і мне вельмі спадабалася. Працуеце шчыра, ад душы. Музыка — толькі з пласцінак, відэа — кожны раз новае. І голас у вас аксамітавы, такі голас, які проста кліча, зараджае энергіяй. Душа быццам у неба адлятае. Я была на іншых дыскатэках — зусім не тое. Вы ўжо даруйце за турботы, але хацела, каб ведалі.

— Дзякуй вам, цяпер буду ведаць.

— Ой, ды што вы! Гэта вам дзякуй! І яшчэ пра адно хачу сказаць. Папярэдзіць. Старэйшы з тых, што ўварваліся днём у вашу палату, відаць, загадаў другому застацца дзяжурыць — цяпер ён спіць. Адыходзячы, старэйшы двойчы паўтарыў: «Галоўнае — даведайся, колькі грошай забралі. І яшчэ: па-



спрабуй выведаць, адкуль яны ў яго. Распытай, дзе, маўляў, узяў бабкі на фінскі скураны плашч, японскі тэлевізар з відэамагнітафонам».

«Ясна, — падумаў Уладзімір, калі сястра таксама нячутна зачыніла за сабою дзверы. — Іх хвалюе толькі тое, што грошы не яны забралі, а бандыты. А якая для мяне была б розніца? Нажом не рэзалі б? Рэвальверам бы не глушылі? Дык у іх іншыя цацкі для гэтых жа мэтаў ёсць».

Чамусьці больш за ўсё было шкада повара, які ў кавярню прыходзіў вечарам, адпрацаваўшы змену ў заводскай сталоўцы. Ён апошні, пяты, рашыўся аддаць сабраныя за год працы грошы на тое, каб прыдбаць новае відэа- і аўдыёабсталяванне. Ён проста мроіў пра сваю піцэрыю.

І праз тры гады яна ў яго будзе.

Ужо бліжэй да заканчэння школы сыну Уладзіміра спадабалася гатаваць, і ён пайшоў да повара вучнем. Наташа не нарадуецца, калі яе «хлопчык пячэ для продкаў нешта смачненькае».

## II

— Заб'ю! — прахрыпеў той, што прыставіў нож.

Другі, з пушкай, дадаў:

— Ляжа-аць!

Рэзка махнуўшы левай, Уладзімір адбіў руку з нажом і, развярнуўшыся, правай адкінуў бандыта, што трымаў рэвальвер, да балкона. Той галавой прабіў шкло дзвярэй, і адзін з празрыстых аскепкаў упіўся яму ў горла.

Рука з нажом на долю секунды затрымалася ў паветры, нібыта выбіраючы, куды ўдарыць. Гэтага

Уладзіміру хапіла, каб заехаць бандыту ў жывот — нож выпаў і ўторкнуўся ў край канапы. Верхавод толькі паспеў прахрыпець: «Сюды-ы!». Удар у галаву аглушыў яго.

Трэці скочыў на жакея ззаду і — памыліўся. Кідкі праз плячо Уладзімір рабіў лепш за ўсіх у секцыі. Наляцеўшы на тэлевізар, бандыт перавярнуў яго, ударыўся галавой аб сцяну і заціх.

«Цяпер — на кухню!» — пранеслася ў галаве.

Ён кінуўся да дзвярэй, але яшчэ жывы бандыт, які ўрос у балконныя дзверы, — націснуў на курок. Першы стрэл прымусіў Уладзіміра спыніцца, другі — страціць раўнавагу, трэцяга ён ужо не пачуў. Аднак і таго, хто страляў, на большае не хапіла.

Верхавод апрытомнеў, агледзеўся, узяў з падлогі рэвальвер, павярнуўся да тэлевізара і стрэліў у галаву распластанаму перад ім трэцяму. Вярнуўшыся на кухню, нагнуўся, схапіў за валасы жанчыну, што ляжала беспрытомная, прыўзняў, ткнуў ствол ёй у скронь і націснуў на курок.

У дзвярах азірнуўся:

— Наводчыку язык адрэжу.

Дзіця ў ложку не плакала, нібыта разумела, што наперадзе ў яго ўсё жыццё, змагацца за месца ў якім ён будзе адзін. І малы зберагаў сілы.

Праз чвэрць стагоддзя, калі ён стаў жакеем, у адным з элітных начных клубаў кожную раніцу гучала:

ПРАГРАМУ РЫХТАВАЎ І ВЁЎ УЛАДЗІМІР МАРАКОЎ.

## ПЕРШЫ КЛАС

Дваццаць тры плюс два — задачка для першакласніка. Толькі тут яна так проста не рашаецца. Бо гаворка ідзе пра з'явы рознага рада і парадку: дваццаць тры гадзіны да пачатку рэгістрацыі рэйса «Стакгольм — Масква» і дзве шведскія кроны — патутэйшаму, дробязь — у кішэні.

Чаму з гэткім запасам часу, спытаеце вы, з'явіўся я ў аэрапорт? Не-не, я не з тых бесклапотных бадзяг, рамантыкаў ці летуценнікаў, якія любяць назіраць за «іламі» і «боінгамі», што знікаюць у нябёсах, і ўяўляюць у іх саміх сябе, даражэнькіх. Не аматар я і бяздумна туляцца ў натоўпе непаседлівага прылётна-адлётнага люду. Урэшце не такі багаты і не такі бедны, каб дазволіць сабе траціць жыццё на бязмэтнае марнаванне часу. Прычына, з-за якой я трапіў у аэрапорт амаль за суткі да рэйса, каб пакінуць самую сацыялістычную (як пішуць у нас) ці самую капіталістычную (як лічу я) краіну Захаду — Швецыю, больш трывіяльная і простая. Памятаеце, выходзіў пры камуністах кіначасопіс «Хачу ўсё ведаць!»? Здаралася, бальшавікі кідалі ў народ у тыя далёкія часы і карысныя лозунгі. «Веды, — калі прадоўжыць сёння іх думку, — ёсць інфармацыя, а інфармацыя каштуе грошай». А каб зарабіць грошай, трэба, само сабою, добра-такі выкласціся, напнуць сваё неацэннае здароўе, здабываючы тую самую неацэнную інфармацыю. Вось я яго і напінаю ўжо каторы год. Праз тое і ў Швецыі апынуўся, дзе

гэтак модная цяпер хатняя электроніка, куды таннейшая, чым у нашай «буче, боевой, кипучей», і з чаго дома някепская дэльта атрымліваецца. Так-так. А прычына майго доўгасядзення, а больш правільна — доўгацярпення ў аэрапорце і сапраўды банальная, нават, бадай, занадта.

Ды — пра ўсё па парадку.

Адматаўшы апошнім днём па «шопах» і распродажах належны кіламетраж і вяртаючыся ў гатэль па непараўнальным, у агнях і ілюмінацыях Стакгольме (ён ужо паспеў ахінуцца цёплым снежным вечарам), я знячэўку сам сабе абурыўся: а колькі таго жыцця?! Прагуляюся і я, быццам нічым не абцяжараны турыст, па гэткай начной казцы! Развітаюся з ёю, незабыўнай! Калі яшчэ ў чароўныя мясціны гуллівы лёс закіне?

І прагуляўся. Забрыў на вядомую вуліцу. І спытаў сам у сябе, прываражанага ўбачаным: а які, калі на тое, клопат, старэча? Турыст ты сёння ці не турыст?! Чым ты горшы за іншых, падобных да цябе чалавечкаў? Хоць бы і за таго шведа, калісьці тваімі продкамі бітага? От і зазірні ў гэты маленькі бардзельчык! Патрымайся за дамачку заморскую! Бачыш, як шматабяцальна вірлавокія лэдзі за шклом свае яркія вусны аблізваюць. А як заваблівa тое-сёе ў сябе пагладжваюць. У-ух! Зазірні, Ваня (гэта я так сябе, калі хвалююся, называю), на развітанне, зазірні, дарагі.

І я зазірнуў, і зведаў каханне платнае. З чым яго, сякое-такое, ядуць і колькі за гадзіну лічаць. Вы не паверыце, але надта ж палкаю і нястомнаю сяброўкай аказалася, можна сказаць, зямлячка — шыкоўная, у добрым целе хахлушка, якіх тут, наўздзіў, хоць гаць гаці.



Вынік: у гатэлі апынуўся глыбокай ноччу, калі, як спяваў Высоцкі, «автобусы уже не ходють», і знясілены, быццам я на нейкі час падмяніў Атланта, які купал неба трымае…

У сем нуль пяць настырны і разумны электронны будзільнік учэпістых і мэтаімкнёных японцаў з «Seiko» разбудзіў мяне толькі за трэцім разам. Сонная галава цяміла цяжка, і я зусім забыўся пра розніцу ў часе. Апамятаўся, апёкшыся кавай, што закіпела ў *micro wave*: спрасонку пазначыў у таймеры не той час. Адразу ж выклікаў таксі, папярэдзіўшы: у мяне з сабою рэчаў — цэлая гара. Адказалі, каб не хваляваўся. *No problem*, маўляў, чакайце, дарагі таварыш, за вамі прыедуць… Жартаўнікі...

Аднак не выратаваў, хоць і паказаў характар, нашчадак недабітага шведа. Ён гнаў свой *micro bus* (усё ў іх мікра) як учадзелы, але… гэта быў не ягоны вечар — папраўдзе, ранак. Не даехаўшы да аэрапорта з квартал, мерседэсік зачмыхаў: швед, спяшаючыся, забыўся заскочыць па дарозе заправіцца.

Карацей, самалёт я правароніў. Правёў яго прытуманеным слязою паглядам. А ў дадатак і апошнія грошыкі спаліў: велікадушна адмовіўся ўзяць у гоншчыка рэшту — не мог не аддзячыць чалавеку. Стараючыся паспець да рэйса, ён рызыкаваў і сабою, і машынаю: раз ледзь у кювет не нырнулі, а калі зноў занесла, дык толькі нейкім цудам слуп не параўнялі. Ды і рэчы дапамог у залу чакання занесці.

Наогул, заставалася адно: закампасціраваць адкрыты — дзякуй Богу! — білет на наступны рэйс і чакаць. Чакаць амаль што суткі.

Праседзеў у пакутлівай бяздзейнасці паўтары гадзіны. Здаліся — вечнасцю. «А як адбарабаніць

тэрмін у пятнаццаць разоў большы?!» — бедаваў, ёрзаючы ў крэсле. Але чалавек — усё ж цярплівае стварэнне. І не пазбаўленае да таго ж цягі да спазнання. Апоўдні я ўжо больш-менш уяўляў сабе жыццё і правілы паводзін — а па сутнасці, выжывання — у аэрапорце з прыгожай назваю «Arlanda».

Горш за ўсё, што на парасстаўляных у холах і залах незлічоных крэслах і канапах няможна спаць (да чаго мяне нястрымна хіліла). Ледзь заплюшчыш вочы — і невядома адкуль з’яўляецца ўзброены да зубоў рэйнджар (гэтак я ахрысціў тутэйшых паліс-менаў за іх асабліва ваяўнічы прыкід: пісталет, электрашокер, дубінка, кайданкі, яшчэ нейкія бірулькі ды бразготкі для тых, хто захоча паспрачацца й пазубаскаліць). З’яўляецца — і прапануе асалавеламу містэру пасажыру прайсці ў пакой адпачынку. А пакой гэты (папраўдзе — катушок з мяккім лежаком) каштуе грошай. І не дзве кроны. Пахадзіць жа па залах, выйсці падыхаць свежым паветрам, агледзець тутэйшыя славутыя мясціны, туды-сюды тусануцца і там-сям патаўчыся — а значыць, прабавіць час, а заадно і скінуць з сябе гнятлівыя апранахі сну — гэткай жаданай магчымасці няма: вы не абібок-турыст з мыльніцаю ад «Fuji» ці «Kodak» на грудзях, а чаўнок. («Трагік» Т. Драйзер, жартаўнік О’Генры, «нямецкі таварыш» Э. М. Рэмарк, К. Чапэк, які «за словам у кішэнь усё ж палезе», «жахіст» Ф. Кафка, аўтар ціхіх дэтэктываў з камісарам Мегрэ «ў галоўнай ролі», які ні на хвіліну не расстаецца з трубкай, Конан Дойль, Ж. Сіменон і іншыя назвалі б вас мякчэй, больш інтэлігентна і загадкава, — коміваяжор, што, уласна, нічога не змяніла б.) Так, чаўнок, і таму вымушаны адольваць моры, акіяны або паветраную прастору звычайна з грузам. Вось і гэ-



тым разам панакупляў рознай буржуйскай электронікі, якая на радзіме каштуе шалёныя грошы, а тут... Тут просты рабацяга з адной-дзвюх зарплат здольны заваліць апаратураю радыёаддзел любога саўковага універмага. І зараз гэтыя тры хайфайныя відэамагнітафоны «JVC», найноўшы дваццаціпяцідзюймовы «блэк-трынітрон», крутая шматблокавая стойка «Technics», парачка прафесійных сінтэзатараў «Yamaha», скрынка з аўдыёкасетамі «BASF» і «ТДК», а таксама важкая — сем на восем — сумка якаснага (без кепікаў) сэканд хэнду вісяць у вас каменем на шыі, прывязаўшы да клятага пластыкавага крэсла.

Такую колькасць тэхнікі павесіць на аднаго чалавека ды на бязмерна ўедлівай савецкай мытні — значыць, абдзерці яго як ліпку. І таму часткаю грузу на час праходжання кардону трэба падзяліцца з багатымі людзьмі. Чаму, пытаеце, з багатымі? Ды таму, што яны ляцяць пустымі і запісаць на сябе нейчы «лішні» відзік-шмыдзік звычайна згаджаюцца: новаспечаныя ротшыльды яшчэ не забыліся, як самі жывот надрывалі, у людзі выбіваючыся...

Колькі, дарэчы, націкала? Дванаццаць пяцьдзесят? Хм-м. Тут мяне і пахаваюць.

Але здавацца — лёс перайначыць, перавярнуць яго, беднага, дагары нагамі. Прыдумаў маленькі самападман. Дзеля хоць бы ўяўнага прыспешвання часу разбіў гадзіну на дзве палавінкі. Адна мінула, другая — гадзіны як і не было! Проста імчыць час! І зноў першая палова гадзіны мінула. І другая... І зноў першая. Але ўжо не гэтак хутка. Нічога! Як там казаў хахол у вядомым фільме: «Тэчэ помалэньку»? Ён пра ваду гаварыў, але час — таксама цячэ. Памаленьку, але цячэ. Галоўнае — трымацца, не расслабляцца, не ныць! Колькі там нацякло? Пало-

ва на трэцюю? Да рэйса яшчэ амаль дваццаць гадзін? Жах!

Але жах быў не толькі ў гэтым. Пачаліся эксцэсы-прыгоды.

У цёмна-шэрых апратках, што нагадвалі нешта сярэдняе паміж халатам і купленым на вырост плашчом, і з аднолькава цяжэннымі — на паўгрудзіны — бліскучымі крыжамі ў залу зайшла гопкампанія з чатырох братоў-блізнятаў. Адрозніць іх можна было хіба што па колькасці блакітных ці ружовых палосаў на галаве.

Заўважыўшы мяне ў атачэнні сумак і скрынак, яны замест прывітання праспявалі: «Ой-ля-ля!» і, агледзеўшыся, ці няма паблізу рэйнджараў, падышлі бліжэй. Датумкаўшы, з якіх такіх краёў прыбыў дарагі госць, асмялелі.

Адзін з крыжаносцаў, сіневалосы, з прычоскаю, што нагадвала дыск-фрэзу, на трэць утопленую ў галаву, — хто бачыў, разумее, пра што гаворка — паставіў брудны чаравік на скрынку аднаго з сінтэзатараў.

«І дзе ён свой абутак у ідэальнай шведскай чысціні ўмудрыўся так страшэнна запэцкаць? — здзівіўся я. — Гэта ж як трэба было пастарацца! Хоць — што й казаць? Свіння ўсюды гразь знойдзе. Нават у Швецыі».

Сіневалосы тыцнуў чорным ад татуіровак пальцам (вось ад каго наша маладое пакаленне засвойвае няправільныя манеры) у скрынку з «трынітронам» і, скрывіўшы вусны — відаць, намагаўся надаць твару застрашлівы выраз, — нешта прагугнявіў.

Шведская — не тая мова, якой я марыў з маленства авалодаць, нават не ведаю, як на ёй да дзесяці лічыць, а таму выкрыкнутую з хамаватай усмешкаю



тыраду зразумець не змог і — прамаўчаў. Гэта дало сіневалосаму падставу пайсці далей у сэнсе нахабства. Нахабнай нагою ён падцягнуў «Ямаху» бліжэй да сябе і да сваіх сяброў-таварышаў — я паспеў ужо ахрысціць іх падзельнікамі.

Некаторыя жартаўнікі, аматары гуляць з агнём, гавораць: «За баксы я і Радзіму прадам!» Я не прыхільнік гэтакіх смелых заяў, але ў скрынках з сінтэзатарамі ўпакаваў і па пары дыскаў (для сябе і звышмеламана-суседа) непараўнаных «Led Zeppelin», «Nazareth», «King Krimson», «10 cc» і «Queen». Радзіму турбаваць не буду, а вось за старых рокераў паваяваць заўсёды гатоў!

Скінуў я са скрынкі брудны чаравік будучага заўсёдніка бясплатных харчэўняў за кратамі і на ўсялякі выпадак адступіў: а раптам сіневалосы красунчык калісьці ў секцыю боксу, напрыклад, зазіраў? Аднак спартсменам забытае дзіця капіталізму, відаць, ніколі не было, бо такому майму кроку здзівілася і быццам разгубілася, нават спужалася. Не знайшліся чым мяне астудзіць-напалохаць і яго віхрастыя дружбакі.

Не стану цяпер гадаць, які б атрымаўся фінал міжнароднай, але зусім не таварыскай сустрэчы па вулічных адзінаборствах, калі б нечакана не вярнуліся ў залу строгія рэйнджары. Сіневалосы аказаўся наўздзіў кемлівым і зрэагаваў імгненна. Зрабіўшы выгляд, што мы з ім сябры, сто гадоў знаёмыя і гэтак далей, ён махнуў рукой, маўляў — мне пара, стары, удачы!

Паліцэйскія правялі чацвёрку да выхаду з запытальнымі позіркамі, але не зачапілі: няхай дзятва гарэзнічае, абы нікому не назаляла. Капіталізм, што ні кажы, і значыць — свабода самавыяўлення.

«Няхай бы так і паўз мяне пратупалі і не заўважылі», — шаптаў я малітву і, здаецца, *уверсе* яе пачулі. Перамовіўшыся некалькімі словамі, рэйнджары пакіравалі да выхаду: відаць, усё ж непакоіліся наконт гарэзаў-хлопчыкаў, не былі ўпэўненыя, што тыя і на вуліцы будуць добра сябе паводзіць.

Не сядзелася і мне. Устаў размяць здранцвелыя костачкі.

«Раз-два, раз-два!» — успомніў даўнія армейскія ранішнія прабежкі. Пераступіў з нагі на нагу, пераступіў і… скеміў, чаму гэтак прытанцоўваю.

Пакрытыя тоўстым слоем эмалі белыя дзверы з двума нулямі і перакуленым над імі залацістым трохкутнікам ззялі метраў за дваццаць. Але як вядома, у «дабле» дзверы за сабою не толькі джэнтльмены зачыняюць. А што магу заспець, калі вярнуся, задаволіўшы натуральное жаданне? Правільна… нічога.

Выйсця не знаходзілася, а пакуты — абвастраліся, і я вырашыў пакінуць на волю лёсу электронныя прычындалы, якія ў мяне цяпер во дзе сядзелі. Ужо сказаў быў сабе: «Усё, начхаць, пайшоў! Колькі можна трываць!» — і ўстаў… Але ў гэты момант тутэйшая, па-маладзёжнаму ў камбінезон колеру хакі апранутая — сама галантнасць — старушэнцыя-прыбіральшчыца заўважыла мае прытопы і правільна ацаніла сітуацыю. Злезла са свайго аўтападмятальшчыка і, падышоўшы бліжэй, шапнула (з англійскай мовай у Швецыі нават пенсіянеркі на «ты»):

— The Mister, no problems. Unless you object, I care for your things[1].

[1] Містэр, няма праблем. Калі вы не супраць, я паназіраю за вашымі рэчамі (*англ.*).



Перакладаць гэтакі тэкст не спатрэбілася, і я шмыгнуў за жаданыя дзверы.

Цягам гадоў, пабыўшы ў многіх аэрапортах свету, я наведаў безліч розных «даблаў», але такога, які ўбачыў у шведскім «Arlanda», не сустракаў: бялюткія, з пахам ранкавага бору падлога, столь і сцены; шарэнга аўтаматаў з квяцістымі акенцамі па продажы сродкаў сексуальнай абароны, цыгарэтаў, жуек, паўсюднага «Марса», яшчэ не ведаю чаго; мякчэйшая за шоўк папера і ў колькасці, дастатковай, каб абгарнуць па экватары Зямлю; некалькі відаў «пузырковага» вадкага мыла для рук, аўтаматычныя паветраныя сушылкі; бляск святла, як пры кіназдымцы. І самае галоўнае, і, здавалася, немажлівае: ніводнага наведніка, акрамя вас! Ніводнага!

У фінале азнаямлення з... апартаментамі — іншае азначэнне гэтага месца цяжка падабраць! — мяне дабіў адзін з унітазаў. Ён стаяў, як Людовік XIV, пасярод пакоя-спачывальні, без адзінае ручкі, рычажка, а тым болей — шнурка ці вяровачкі. Хітрых кнопак таксама не назіралася. Разумны унітаз спрацоўваў па меры патрэбы....

Ці варта нагадваць пра падобныя ўстановы ў нашых тагачасных аэра- і асабліва чыгуначных вакзалах з іх невыносным вечным смуродам, з выдрапанымі на сценах надпісамі з лексікону доблесных воінаў Чынгісхана і не менш пахабным насценным жывапісам.

У залі чакання засвяціўся, уключыўся сам па сабе і прымусіў ачуцца ад роздуму, нават крыху спалохаў умураваны ў сцяну тэлевізар. Акрэслілася аблічча вядучага з застаўкаю «CNN» у правым ніжнім кутку. Выстрэльваючы словамі з хуткасцю кулямёта,

дыктар расказваў і паказваў, хто, як і дзе ў свеце рыхтуецца да Калядаў. Дабраўся нават да папуасаў, якія, як з песні вядома, з’елі Кука (насамрэч і не спрабавалі). Але нядоўга абарыгены аднаго з астравоў Новай Гвінеі высоўвалі доўгія языкі, палохалі рэдкімі зубамі-ікламі і дэманстравалі бясплатны стрыптыз. Падышоў у зялёнай спяцоўцы, але пры белай кашулі і салатавым гальштуку, рыжы-рыжы-васпаваты і тэлік выключыў.

— The ladies and gentlemens, beg your pardon for troubling you. Is connected the new system. Is connected the new system of television — satellite. Soon meeting long for in expectation of does not come[1].

«Вось гад! А я рот разявіў. І зноў жа — на зразумелай мове патлумачыў, — адкінуўся назад да спінкі крэсла. — Няйначай, англійская для шведаў — як родная».

Паглядзеў на гадзіннік: палова на шостую. З такое нагоды прыгадаўся вядомы анекдот, але настрой ад гэтага не палепшыўся. Наперадзе — пятнаццаць гадзін адпачынку-пакутаў на праклятым капіталістычным крэсле, а сіл ужо няма!

Аднак набеглая думка ўзняла настрой, дала надзею: мінула ж трэць тэрміну. Прычым жывы-здаровы і рэчы пры мне. Большага жадаць — Богу грашыць і на капрызы лёсу нарывацца. Ад дабра толькі асабліва рызыкоўныя і неўтаймоўныя яшчэ большага дабра шукаюць.

---

[1] Пані і панове, прашу прабачэння за турботы. Падключаецца новая сістэма тэлебачання — спадарожнікавая. Неўзабаве ўсім пачаканцам у зале сумаваць не давядзецца (*англ.*).



У развагах пра дабро і зло (у прынцыпе гэта адно і тое ж — розніца толькі ў тым, з якога боку паглядзець) праседзеў да цемнаты.

Каля васьмі трыццаці (дванаццаць трыццаць да пачатку рэгістрацыі) у кавярні насупраць, адкуль даплывалі смачныя пахі (увесь гэты час яны выклікалі выдзяленне сліны і па-садысцку туманілі галаву), змяніліся бармен з афіцыянтам. Бязлітасная капіталістычная сістэма эксплуатацыі працоўнага люду яўна прадугледжвала і ягоны адпачынак. Але гэта прадугледжвала іхняя сістэма і для іхняга народа. Праўду Астап казаў: «Мы госці на гэтым свяце жыцця».

Калі апошнім глытком яшчэ гатэльнага ліманаду я тужліва зафіксаваў на цыферблаце толькі дзевяць гадзін вечара, актыўна пачалі прыбываць транзітнікі. У лічаныя хвіліны яны запаланілі ўсё, што можна запаланіць, і ўрэшце зала-хол нагадвала ўжо фае савецкіх кінатэатраў у часы шэсця па Саюзе раз’юшанага «Фантамаса». Службы аэрапорта такога бурнага наплыву гасцей не вытрымалі і захлынуліся. Узніклі абураныя чэргі каля рэгістрацыйных стоек, а паасобныя рэйсы нават давялося пераносіць, што для распешчаных, зусім нам не таварышаў-капіталістаў — надзвычайная сітуацыя.

Карацей, скандынавы не падрыхтаваліся да перадкаляднага турысцкага ажыятажу.

Падрыхтаванымі да яго аказаліся амерыканцы. Дзіўны, скажу вам, народ! Бальшавікі плацілі сваім рабам — рабочым ды інжынерам — у 100 — сто! — разоў менш, чым янкі сваім таксама быццам бязлітасна эксплуатаваным працоўным. І ў гэткай звышняроўнай барацьбе капіталісты перамаглі: усё ў іх лепш, якасней, ды яшчэ ў тыя ж 100, калі не ў 1000

разоў усяго гэтага якаснага больш. Адныя загадкі, неразгаданыя таямніцы...

Калі мы будзем дзяліць нашыя грошыкі, гаспада-бальшавікі, тыя трыльёны, што вы ўкралі ў нашых дзядоў, бацькоў і ў нас?

Зноў задаю пытанне без адказу, адхіляюся...

Дык вось, акурат у шведскім аэрапорце я даведаўся, якія нестандартныя гомасапіенсы (можа, таму хлопцы і вырваліся наперад планеты ўсёй?) жывуць за акіянам. Тады амерыканцы яшчэ не развалілі свайго вартага спарынг-партнёра, які не дазваляў ім расслабіцца. Гэта крыху пазней прыблудныя псы, вылезшы з пяскоў, пачнуць цішком кусаць янкі, што адарваліся ад цывілізацыі…

Непадалёку ад майго крэсла пакут заакіянскія турысты правялі кароткі, але дзейны сход, на якім выбралі старшых. Начапілі тым на рукавы павязкі з пярэстых шалікаў (яны ў той час толькі ўваходзілі ў моду) і ўтварылі са сваіх жа пасажыраў дадатковы мытна-памежны калідор. Шведы спачатку вяла пасупрацiўляліся досыць арыгінальнай самадзейнасці, але пад націскам свабодалюбных і ўпартых амерыканцаў неўзабаве здаліся.

Праўду кажучы, гэта было маё другое знаёмства з пасланцамі далёкай, амаль казачнай для мяне краіны, а больш дакладна — іншай планеты, гасцямі з будучыні. Першы раз з бесклапотнымі малайцамі я сутыкнуўся ў алімпійскім 1980-м, калі яны з’явіліся ў нас у інстытуце. (Дарэчы, колькі там часу? Дзесяць дваццаць пяць? Паўсутак прабегла? Ужо весялей! Бач, як ва ўспамінах час ляціць!)

Дык вось, па ўзаемаабмене да нас у інстытут прыбыла група з васьмі амерыканскіх студэнтаў — пяць хлопцаў і тры дзяўчыны. Усе, як на падбор,

 

гуліверы — інакш пра іх і не скажаш: кожны вышэй за савецкага брата-студэнта на галаву.

Такую юную дэлегацыю нашы ўмацавалі б, вядома, парачкаю старэйшых таварышаў без пагонаў, але са званнямі. А пазбаўленыя жалю янкі адправілі сваіх дзяцей туды, дзе Макар цялят не пасвіў, адных.

І вось гэтай вечна бестурботнай васьмёрцы (тады мы не ведалі, што ўсмешка ў амерыканцаў сядзіць у генах так жа моцна, як у п’янага рускага — маханне кулакамі) нашы жартаўнікі на чале з артыстам-рэктарам (неспадзеўкі сутыкнуўшыся з гэткім тыпам, можна было заікам стаць: выліты Мюлер-Бранявы) і не па вазе — паўтара цэнтнера! — спрытным загадчыкам кафедры фізічнага выхавання па мянушцы Жапацінскі (студэнты па-свойму перайначылі прозвішча вядомага чэмпіёна-штангіста, які не меў, вядома ж, з галоўным фізруком, акрамя саліднай вагі, анічога супольнага) прапанавалі згуляць у любімы амерыканскім народам баскетбол.

— А от якраз і навічкі-першакурснікі таўкуцца ля кальца! — заспявалі Мюлер і Жапацінскі дуэтам. — Захоп мяча пад шчытом адпрацоўваюць.

Навічкамі ля кальца была зборная інстытута па баскетболе, якая нядаўна стала чэмпіёнам сталіцы. Перад прыездам гасцей яе на ўсялякі выпадак узмацнілі яшчэ і парай-тройкай найлепшых гульцоў з іншых клубаў. Два апошнія тыдні хлопцы дзень і ноч старанна трэніраваліся, дзеля чаго іх вызвалілі ад заняткаў, плюс узмоцнена кармілі ў адным з рэстаранаў для замежных турыстаў.

Дарэмна кармілі! Праляцелі і рэктар, і загадчык кафедры! На праўду выйшла, што пажартавалі яны самі з сябе!

Няўрымслівыя — усё ўсміхаюцца ды ўсміхаюцца! — амерыканцы пачалі гульню асцярожна: дзяўчаты селі на лаўку запасных, а пяцёрка хлопцаў выйшла ў асноўным складзе.

А што адбылося пасля? Гэта трэба было бачыць!

Амерыканцы паказалі не гульню, не, — цыркавы паказ! У адзіночку яны абводзілі трох, чатырох (пры гэтым мяч часам знікаў з вачэй, быццам зачараваны) зусім не навічкоў, якія «выпадкова таўкліся ля кальца», потым вярталіся на сваю палавіну поля і, паўтарыўшы праход, то кідалі, то… проста клалі мяч у карзіну. «Вандроўныя» цыркачы-жанглёры забівалі зборнай-чэмпіёну і з цэнтра пляцоўкі, і з-пад ног, і стоячы спінаю да шчыта, і бокам, і па-валейбольнаму — калі няўлоўным дотыкам мянялі напрамак палёту мяча, і з адскокам ад падлогі, і галавою (жартавалі-ўсміхаліся), і яшчэ Бог ведае як і чым.

Здавалася, вочы ў гледачоў вось-вось павыскокваюць з вачніц, а ў раты заляцяць усе мухі свету. Калі на фінішы першага тайма паспешліва наладжанае пад амерыканцаў электроннае табло высвеціла «46 : 8», госці выпусцілі на замену траіх дзяўчатак з коскамі «а-ля рашан». (Вось у каго капіталісты моды крадуць!) Выхад даўганогіх акселератак не прынёс чэмпіёнам горада палёгкі. Адрыў, хоць ужо і не так хутка, але няўмольна рос.

Усе, вядома, былі ашаломленыя і прыгнечаныя. Загадзя спланаваная і, здавалася, добра падрыхтаваная акцыя-спектакль пад кодавай назваю «Савецкі спорт — самы лепшы спорт у свеце!» праваліліся. Рэктар ужо не сумняваўся, што зляціць са свайго цёплага месца: гульня (разумей — барацьба) з праклятымі буржуямі была начыста прайграна. Ды



яшчэ горш: барацьбы, самой па сабе, з боку нашай каманды наогул не атрымалася. Не трапляў, лічы, у рукі зборнікаў мяч. А да сёмага ж поту трэніраваліся і карміліся! Да якога ж поту набівалі руку гэтыя загадкавыя амерыканцы?

Пасля фінальнага свістка заакіянскія госці ўручылі гаспадарам па баваўнянай майцы з голубам міру, па часопісе з рыфмаванай назваю «USA TODAY», надрукаваным на паперы, якая адбівала сонечныя зайчыкі, і па значку з двума сцяжкамі — сваім і савецкім, чым крыху супакоілі перакормленых валідолам інстытуцкіх кіраўнікоў: цяпер гульню там, наверсе, можна будзе падаць як сяброўскую студэнцкую сустрэчу, вынік якой не такі ўжо й важны.

А што ж там нашы цяперашнія, шведскія амерыканцы?

Апошнімі, зачыніўшы за сабою часова арганізаваны памежна-мытны канал, зніклі іх старшыя з павязкамі.

Сам сабе адзначыў: поўнач — мінула. Засталося ўсяго дзесяць гадзін. Але чаму гэта на душы кошкі скрабуць?

Нездарма скрабуць!

Два рэйнджары ўхапілі пад рукі турка — ён сядзеў ад мяне праз пяць крэслаў і шмат разоў быў папярэджаны імі яшчэ днём — і пацягнулі ў кірунку закутка-лежака. Хлопец залятаў як мінімум на пару сот крон, а хацеў жа, небарака, сэканоміць. Праўда, у Швецыі — капіталізм, амаль поўная, як адзначалася, свабода і заўсёды ёсць варыянты. Калі кліент, скажам, катэгарычна ўпрэцца і не пажадае разлічыцца за атрыманыя даволі шыкоўныя і адпаведныя па цане паслугі, маршрут яго руху зменіц-

ца і скончыцца, магчыма, таксама ложкам, толькі ўжо без анатамічнага матраца, бялюсенькай з пахам язміна прасціны, гарачага *Gold Nescafe* з піражным *Frech strawberries*[1] і іншых атрыбутаў усё ніяк не паміраючай буржуйскай цывілізацыі. Карацей, патрапіць хлопец вусаты ў каталажку, а адтуль і да радзімы стане рукой падаць.

Адным словам, знік з далягляду таварыш па вымушаным бяссонні, і прайшла ахвота пакімарыць на нейкі час і ў мяне. Успомнілася даўнавата ўжо забытае, суцяшальнае: слабак ты, турак недабіты, далёка табе да нашага, катаванага бальшавікамі ў трэцім пакаленні, паўночнага брата!

Дзве дзесяць. Аказваецца, ногі адымаюцца не толькі ад бясконцага бегу па бяскрайніх стэпах Алтая. (І цягне не абавязкова на сон, але і на ўспаміны!) Трэба было б устаць, прайсціся, можа, акрыяюць, гаротныя. Божа, калі ж усё гэта скончыцца! Зноў паліцаі! І чаго яны апаўночы расхадзіліся? Сон сабе, а заадно і іншым перабіваюць, ці што? З прабежкай-патупваннем давядзецца пачакаць. Чамусьці зноў амерыканская васьмёрка прыгадалася. І такое нечаканае пытанне раптам у сувязі з гэтым прарэзалася: тыя амерыканскія студэнты засыльнымі казачкамі былі ці ў капіталістаў ля кожнага пад'езда асы баскетбольныя таўкуцца?

03.33. «Тридцать три богатыря... Пушкин написал не зря!» Чуў ад каго ці рыфма а-ля рашан сама ў галаву палезла? Няйначай, першая адзнака ціхай шызафрэніі. Чыгунок, само сабою, ужо не варыць. Паспаць бы хоць з гадзінку. Але — не будзем даваць

[1] Свежыя трускалкі (*англ.*).

 

волю ўсялякім шкодным думкам: адлік пайшоў на хвіліны…

«А што гэта злева ў шкляной сцяне знаёмае мільганула?» — злавіў на фоне непрагляднай цемры адлюстровак чалавечка, сціснутага ў камячок у цэнтры звінчаных у радок тузіна крэслаў. Прыгледзеўся: ды гэта ж я! Святы Божа, святы, крэпкі, я не варт сухое шчэпкі! Да свабоды — шэсць гадзін дваццаць сем хвілін, а мяне ўжо вунь як скруціла! Праклятыя шведы давялі! (З роднай антыдэмакратычнай дзяржавай звязаў такое далёкае ад яе паняцце, як свабода.)

З неймавернай цяжкасцю дадзюбаў да чатырох сарака пяці. Паліцэйскіх не відаць. Крыху пасплю. Колькі можна з арганізма здзекавацца?! Калі рэйнджары пабудзяць — атрымаю толькі першае папярэджанне. Першае — не апошняе…

Я засынаў, але, відаць, Бог не забыў пакутніка, і ў падсвядомасці нешта спрацавала.

«А багаж, Ваня? Га? Хто будзе рэчы пільнаваць?! Прачніся! Ты ж сюды не адпачываць прыехаў! Дома на канапцы адляжышся. Ці засумаваў па заводскай сталоўцы і кампоце сямікапеечным з пахам анучы?! Пад'ём, гультай, устаць!»

Спрабаваў супакоіць свайго пільнага двайніка: «Ціха, ціха! Не сварыся! Не сплю я, не сплю».

Поўная шызафрэнія!

Роўна ў шэсць, быццам па камандзе (ноччу самалёты капіталістаў, як зазвычай, не ўзлятаюць: шануюць хлопцы сваё дарагое здароўе), аэрапорт пакрысе заварушыўся.

Госпадзі, няўжо пакуты канчаюцца? — ажыў і я. Час зноў пабег весялей. Папіць бы чаго ды перакусіць крыху! Марыць — не шкодна. «Даў бы хто

паперку, звярнуў бы цыгарэтку, ды табачку няма». Не, пра хлеб-соль і тытунёк лепш не ўспамінаць. А спіну самлелую размяць бы не пашкодзіла.

Спахапіўся своечасова! Зноў паліцаі некага павялі. За што арыштавалі няшчаснага? І чаго бармен гэтак абураецца? І... па-англійску? А-а, вунь яно што, бомж-аўтастопнік свіснуў у кавярні булачку... І госць — здалёку, па-шведску ні гу-гу. Як жа гэты рызыкант планаваў на самалётах аўтастопіць? Ты глядзі, хлопцу рукі заламалі... Але ж які моднік: у карычневай скуранцы, нестарых джынсах «Wrangler,» чысценькіх — не тое што ў сіневалосага мутанта — красоўках «Adidas»! Бомж называецца! Адарваліся буржуі ад свету зямнога, адарваліся...

Без пяці сем. Да пачатку рэгістрацыі гадзіны паўтары. Сцяў зубы. Сяджу каменем. Амаль суткі, як доўжыцца кара нерухомасцю, самая для мяне пакутлівая. Усё, досыць, панове! Устаю: трэба прадыхацца, прачысціць лёгкія, неяк паціху ачуньваць. Латва, што пабач — нікога. Падумалі б — з’ехаў з глузду хлопец: ускочыў без дай прычыны і давай хухукаць, як паравоз. Не зразумець вам, містэры, што такое амаль дваццаць гадзін да аднаго месца быць прыкутым.

З кавярні выйшла прыгожая маладая бландзінка, гуллівымі вочкамі бліснула ў мой бок.

Я прыпыніў занятак «ёгаю»: чаго яна?

— Апаратуру валачэш? — ашарашыла найчыстым «рашан». — Няслаба загрузіўся!

— Як сказаць... — ад нечаканасці не знаходзілася слоў. Паспрабуй не разгубіся тут! Тая самая ахвочая да сексу — проста ненасытная — хахлушка і то спачатку шведкаю выстаўлялася.

 

— Так і кажы: пад завязку атаварыўся і цяпер сяджу і пыхкаю без капейкі!

— Кожнаму сваё, — насцярожыўся. Наконт «без капейкі» гэта яна, пагадзіся, правільна ўгадала. Але і надта ж кемлівая. Можа, не выпадкова падышла? Можа, яе нейкая свалата падаслала, каб загружанага на поўную катушку хлопца прашчупаць і «абуць»?

— Не дрэйф! Мне ад цябе нічога не трэба! — быццам прачытала мае думкі бландзінка. — Хочаш, колаю або сапраўднай кавай-экспрэса пачастую? Не люблю ў самоце час бавіць. Бацька за дзве гадзіны да пасадкі прывёз мяне ў гэтыя джунглі. Пазней не выпадала — заняты. А відзікі свае пакінь дзе стаяць — ніхто іх не возьме. Гэта табе не Расія. Засёк, як за булачку хлопцу рукі ледзь не адарвалі? Яны сквапных да чужога дабра мігам адлюўліваюць. І тваё барахло сто гадоў нікому не спатрэбіцца! Не верыш? Гэта з непрывычкі. Мінецца. Ладна, Фама («Добра, хоць не Ваня!» — пасміхнуўся і я), давай дапамагу паднесці да століка твой бясцэнны скарб. Цябе, няйнакш, без іх танкам з месца не зрушыш. Хоць тэлевізар з «ямахамі» на месцы пакінь: іх жа ну ніяк не сапруць.

Ах, як жывіць фірмовая гарачая кава! Паўжыццё за кубачак! (Асабліва калі ўжо і пра заводскі кампот не марыў.) Цяпер я пратрымаюся! Будзьце пэўны! І надараюцца ж такія людзі — анічога ім ад вас не трэба. Нічога! Сядзі і слухай, як мінулым вераснем іхняя кампанія «на бульбе» начамі ля вогнішча розныя смелыя песні спявала, а днём на полі адаспацца спрабавала. І шанцуе ж некаторым: бацька ў капіталістычнай краіне працуе…

Пахваліўся і я (тым, што, думаецца, не выпадкова тут прыйшло ў галаву), як аднойчы, гадкоў не

памятаю ўжо колькі таму, сватала мяне ў Маскве цётка за дачку шведскага пасла. Меў бы і я цяпер больш спакойны занятак. Пашкадаваў:

— Тады б ды цяперашні розум!

— І што змянілася б? — прыжмурыла вочы з хітрынкаю незнаёмка.

— Грэў бы костачкі ў адным з безразмерных крэслаў тутэйшай савецкай амбасады, а не муляў бы адно месца на пластмасавым табурэце *Made in Sweden*. І ўжо ж, само сабою, не цягаў бы скрынкі з другога канца Еўропы. Ды й спаў бы, як усе нармальныя людзі, гадзін па восем, не меней!

— А ты хочаш быць як усе? — азадачыла бландзінка. Дастала цыгарэту.

— Ва ўсякім разе, не горш! — даў ёй прыкурыць.

— Не горш — мала! — яна злёгку зацягнулася. — Трэба імкнуцца да лепшага! Ты, бачу, стараешся, шчыруеш, але шлях, абраны табою, — доўгі. Ёсць іншыя, карацейшыя. І адзін з іх, як я зразумела, ты calісьці не скарыстаў. Цяпер шкадуеш... Зрэшты, ты мяне не вельмі слухай. Змагайся, рызыкуй, калі не знайшоў іншага шляху да дабрабыту. Дарэчы, як табе новая знаёмая? Хто? Ды я, цемната! Нішто сабе, кажаш, дзяўчына? Сімпатычная? А хочаш пацалаваць сімпатычную? Не ўмееш цалавацца? Ну даеш! Цікавы ты хлопец, цікавы. Але буду закругляцца: на мой рэйс пасадку аб’явілі. А ты, гляджу, англійскую ведаеш... у межах школьнай праграмы, — укусіла пад канец, як некалі і сваццця-цётка.

Бландзінка паклікала афіцыянта, разлічылася. Паглядзела ў люстэрачка пудраніцы, асвяжыла румяны і паднялася.

— Бадай усё. Сэ ля ві. — Пайшла да выхада. Ля дзвярэй азірнулася: — Ледзь не забыла. Заказала



табе мой любімы малінавы *Lipton* і крэкер, так што прынясуць — не адмаўляйся, аплачана. Нешта яшчэ не так? Ах, во! Ты ж назваў сябе, а я — не! Папраўлю памылку. *My name is* Віка. З гэтага года — студэнтка Маскоўскага універсітэта. Па сумяшчальніцтве — дачка пасла СССР у каралеўстве Швецыя. Наша сям'я тут нядаўна. Вясною з… з адной лацінаамерыканскай краіны прыехалі. І апошняе: раю навучыцца цалавацца. Раптам Бог пашле табе трэцюю спробу.

Праводзіў дачку пасла паглядам: вось табе і першакурсніца! Грымучая сумесь наіўнай савецкай дзяўчыны з прашытай капіталістычнай тыгрыцаю. Адказаў ёй у думках: «Трэцяя спроба выбіцца ў людзі ў мяне, галубка, адбылася значна раней — калі на патроенай па працягласці ў гонар дня Кастрычніка армейскай прабежцы ў нармальных для алтайскай зімы мінус сорак ледзь ногі не адкінуў. Арганізм тады вытрываў, і я нават прыбег першы, за што і павінен быў у сувязі з вялікім святам атрымаць неардынарны прыз — дзесяцідзённы водпуск дадому. І хоць прыбег першы, ды з неацэннай узнагародаю ўсё ж праляцеў: не пусціў п'яніца-ротны салдата на пабыўку. Зрэшты, тое было даўно. Дык жа і цяпер таксама даў маху: такую дзяўчыну правароніў! Але што тут гаварыць. Каб ведаў, дзе спатыкнешся, саломкі падаслаў бы. Відаць, лёсам мне наканавана да скону веку скрынкі цягаць. Дачка пасла паставіла правільную кропку — сель а ві. Гарбатага магіла выпрастае. І нічога тут не зробіш. Нічога…»

А што ў гарбатага з часам? О-о! Дык гэта ж і на мой рэйс пасадку аб'явілі! Разява і расцяпа ў адначас! Мы ж адным самалётам ляцім! Ён жа ўсяго

адзін і ёсць. Не дарэмна ж суткі тут паруся! Наперад! Яшчэ не ўсё ў гэтым жыцці страчана! Памылку з пацалункам можна і на борце лайнера выправіць.

Пакінуўшы бармену апошнія дзве кроны на чай, кінуўся да стойкі рэгістрацыі. Я быў апошні, хто яе яшчэ не прайшоў.

Прачынаўся на хаду: таварчык жа пыліцца без нагляду, трэба ж забраць рэчы. Схапіў кімсьці кінуты багажны вазок (хоць тут падфарціла) і пакаціў яго да кавярні.

Бой на дзве мае кроны не забыўся — дапамог пагрузіцца. З радасці аддаў яму і нечапаны крэкер.

Здаўшы ненавісныя скрынкі ў багаж, я нарэшце вызваліўся ад грузу, які скоўваў мае рукі і ногі дваццаць тры гадзіны.

Праўда, здарыўся невялікі казус. Стандартны для маіх падарожжаў перагруз у сорак «кэгэ» я аплаціў загадзя, але крыху не разлічыў: лішняй вагі аказалася на тры кілаграмы болей. Аднак пранесла: шведка, некуды спяшаючыся, правільна зразумела маё пацепванне плячыма: скончылася капустачка, скончылася… — і махнула:

— Pass[1].

Накіраваўся ў свой першы клас. Менавіта так, не агаварыўся: у першы! Тут вам не Швецыя! Тут — іншая планета! Тут і я іншы! Тут у мяне ўжо ёсць сваё *я*.

Хто не зразумеў, тлумачу папулярна.

Білеты купляў за рублі, а розніца ў іх паміж класамі *first* (першы) і *business* (дый нават народнымі — *tourist* або *economy*), калі яе, вядома, праз відэа-

---

[1] Праходзьце (*англ.*).



касеты пралічыць, не вельмі б'е па кішэні. Калі ж вымяраць дэльту чыста ў рублях, дык рэч зусім іншая атрымліваецца. Таму, хто зажадаў нялішніх зручнасцяў, давядзецца на месячную зарплату (а то й на дзве!) дадаткова раскашэліцца. Яму *first class* абернецца дарагою асалодаю. Пацець трэба, хлопчыкі, актыўнічаць, рызыкаваць, а не чакаць літасці (зарплаты) ад прыроды (дзяржавы). Прыйшоў час і ратаўніцу кавай пачаставаць: нашы, драўляныя, у мяне заўсёды ў запасе ёсць.

Але — дзе ж дачка пасла? Чаму не гучыць калючае: «Вырашыў не ўпускаць другой спробы?»

— Пані і панове, калі ласка, прышпіліцеся. Узлятаем.

Не сцярпеў, спытаў шэптам у сцюардэсы:

— Даруйце, вы не бачылі, выпадкова, маладую прыгожую бландзінку ў чорна-сінім скураным плашчы?

— Выпадкова бачыла… у турыст-класе. А раменьчык усё ж накіньце.

«Ну і выкрунтасы! — глядзеў ачумела ўслед бортправадніцы. — Вось табе й дачка пасла! У турыст-класе».

Не, бадай, не кіну я пакуль што лёты-пералёты, паматляюся яшчэ крыху па белым свеце. І наша хата прычакае свята! Хоць і начуем часценька ў аэрапортах, затое — як пасля ляцім!

— Шампанскае, каньяк, віскі, джын, марціні. Для пасажыраў першага класа — бясплатна.

«Бясплатна мы ўжо праходзілі. Бясплатна толькі сыр у пастцы, за ўсё астатняе даводзіцца пеклавацьп», — прыўзняў я празрысты пластыкавы кубачак і павярнуўся да сцюардэсы:

— Армянскага, калі ласка.

## Трэцяе купэ

Спачатку ў купэ паказаўся сабраны ў гармонік бот, наступіў на неабачліва пакінутыя мною нанач ля ўваходу новенькія лакавыя туфлі-вастраносікі. Яны жаласліва рыпнулі. Следам хлынуў атрутны пах перагару. І, нарэшце, на парозе паўстаў той, ад каго ён зыходзіў, — інспектар саўковай мытнай службы ўзору 199... года. Наліты крывёю квадратны фэйс, аблеплены буйнымі воспінамі, што знікалі пад адзінай для ўсіх грамадзян монадзяржавы стрыжцы з дзіўнай назваю паўбокс, які ў яго быў рыжы.

— Чаго зекры вылупіла?! — не інакш нібы на свой манер прывітаўся ён з нашай суседкаю — бабуляй «божы адуванчык», якая ўпершыню выехала за ваколіцу роднай вёскі.

Старая знямела. Яна была — сама дабрыня. Па першым часе страшэнна хвалявалася, безупынна жагналася і шаптала: «Божа, уратуй і зберажы, не дай у крыўду рабу сваю безабаронную». Троху асвойтаўшыся ў нязвыклых для яе абставінах, завінулася частаваць нас вясковай смакатою: пальцам пханай каўбасою, варанымі яйкамі з ярка-аранжавымі жаўткамі, самаробным — ажно, здаецца, раставаў у роце — сырам. Мы — я і маладая пара насупраць — за некалькі гадзін язды да мяжы, умінаючы яго, ледзь языкі не праглынулі. А бабуля ўсё прыгаворвала: «Ешце, дзеткі, ешце!» — і шчодра адкройвала ад белага, загорнутага ў марлю, тоўстага круга ўсё новыя і новыя лусты.

 

Зараз бабуля спалохана глядзела на ўладальніка сабранага ў гармонік бота.

— Маўчыш?! — паказаўся і другі бот. — А ну ўстань!

У бабулі задрыжэлі рукі і падбародак. Яе грузнае цела ледзь уціснулася між столікам і купэйнай перагародкаю. Ёй не проста было паварушыцца, не тое што ўстаць! Але яна паспрабавала. Зазвінелі шклянкі з чаем, прыпраўленым замест цукру яе смачным, пальчыкі абліжаш, малінавым варэннем.

— Я, я... — пачала яна заікацца. Хацела нешта сказаць, але не мела сілы вымавіць і слова.

— Вылазь, старая кантрабандыстка! — раз'юшваўся, задаволены, што нагнаў на бабулю і на ўсіх нас страху, Прапаршчык. (Так я ахрысціў яго за падоўжна размешчаныя на пагонах зорачкі, хоць і ведаў, што ў мытнікаў яны азначаюць крыху іншае.) Бездапаможная разгубленасць жанчыны яго развесяліла. — А вы чаго раты паразяўлялі?! — не забыўся ён і на маладых.

Тыя дружна падхапіліся.

— Нам выйсці? — палахліва спытала кірпатая шэравокая дзеўчынёха, нервова цярэбячы акуратна заплеценую касу колеру спелага каштану, што звісала на грудзі паверсе светла-зялёнай у белую палоску кофтачкі. Малады муж мякка ўзяў яе руку, быццам падтрымаў: «Не бойся, я — побач!»

— Дайшло нарэшце! — таптаўся па маіх, цяпер ужо зусім — на жаль! — сапсутых туфлях рыжы Прапаршчык. У правым не вытрымаў, разышоўся па шве заднік. Наймаднейшыя вастраносікі — паэтаву мару! — можна было выкідаць. Можна, ды

нельга: у абцасе левага я схаваў неапрыходаваную валюту.

У тыя далёкія часы, калі адбываліся падзеі, пра якія распавядаю, клас «новых рускіх» толькі нараджаўся і людзі, якія пераязджалі мяжу з чамаданамі грошай, на кожным кроку не трапляліся. (У апошні час яны зноў прапалі.) Абавязковыя цяпер мытныя дэкларацыі звычайна не раздаваліся і, адпаведна, не запаўняліся. Але няўлічаную валюту вывозіць з краіны не дазвалялі і тады. Вось і хавалі за падшэўку, у бялізну, у іншыя патаемныя месцейкі незадэклараваныя грошыкі тыя, хто хацеў набыць не толькі двухкасетны «Панасонік» і пару мадняцкіх джынсаў «Montana», а і такі-сякі не зусім дабіты «мерседэсік».

Не ведаю, што ўва мне спрацавала ў той лёсаносны момант — пачуццё самазахавання ці інтуіцыя, сам не чакаў, што здольны на такое, але мяне панесла.

— Таварыш старшы лейтэнант! — пачаў з камплімента, бо павысіў рыжага ў званні. Ніводзін рыжы на маёй памяці ні разу не заставаўся абыякавы да цёплых слоў пра сябе. — Я, канешне, прашу прабачэння, але вы стаіце на маіх туфлях, на тым, выбачайце, што ад іх засталося. А выходзіць у шкарпэтках у калідор, самі разумееце...

Рыжы лянотна зірнуў сабе пад ногі, саступіў з туфляў і... (тут маё сэрца, шчыра скажу, пайшло было ў разгон) зафутболіў іх ботам у праход.

«Малайчына, дабрадзей мой дурненькі!» — адразу ж адлягло ў мяне на душы.

— Выходзьце! — чамусьці афіцыйна, на «вы», звярнуўся да мяне мытнік, хоць я быў напалову маладзейшы за яго. «І што далей, цікава?» — за-



хваляваўся зноў, але рыжы не даў апамятацца — паказаў пальцам на дзверы: — Там абуецеся! Асвабадзіце купэ для праверкі!

Пакуль я дапамагаў бабулі вылезці з-за століка, маладыя адышліся да тамбура — далей ад ляманту пільнага прапаршчыка. Выбраліся нарэшце ў праход і мы з бабуляю.

«І чаго гэта ён прыляпіўся акурат да нашага, трэцяга купэ? Чым яно, няшчаснае, правінавацілася? — набягалі адно за адным пытанні. — Астатнія ж ніхто нават не адчыняў».

За дзвярыма між тым чулася натужнае сапенне: рыжы ўзяўся за шмон. Нешта там грукнула. Няйнакш, штосьці звалілася з верхняй паліцы. Але ж туды толькі я свае сумкі закідваў!? Ды ліха з імі! Няхай! Галоўнае — разумнік у пагонах сваёй уласнай нагой самую каштоўную рэч з зоны вобыску выкінуў. Каб ведаў, што шпурляе, быў бы больш далікатны з маімі туфлямі. Так што — шчыра ўдзячны.

А на старую, каб хто спытаўся, за што ўз'еўся? Бабуленцыя — пашукаць такую! Прызналася, што першы раз дзевяціпавярховы дом праз акно нашага купэ ўбачыла. Перад паездкай перахвалявалася, усю ноч вачэй не заплюшчыла і толькі раніцай, калі пляменнік вёз яе на станцыю, змаглася — усе сто семдзесят вёрст праспала на заднім сядзенні.

Валюты замест дазволеных некалькіх соцень рублёў памяняла ўсяго на шэсцьдзесят пяць — болей не сабрала.

І вось цяпер рыжы хамуйла сваім крыкам давёў бабулю: яна цяжка дыхала, трымалася за сэрца. І маладую пару ўшчэнт запалохаў: абое як прыліплі да тамбура.

Зноў нешта ў купэ загрымела. І што ён там шукае? Можа, ноччу наркотыкі прысніў і цяпер спрабуе іх знайсці, палічыўшы сон прарочым?

Нечакана рыжы адчыніў дзверы. Плюнуў на калідорны дыванок, ізноў дыхнуў перагарам:

— Дай прайсці!

Адпіхнуў мяне да акна і ступіў да наступнага купэ. Не азіраючыся, праз зубы, кудысьці ў падлогу выціснуў з сябе:

— Інтэлігенцыя драная! Нават пойла з сабою не ўзялі! Пустадомкі!

«Вось табе й на! — не змог я стрымаць здзіўлення. — З-за гарэлкі такі гвалт узняў! Дорага ж абыходзіцца дзяржаве твая смага! Правароніў незаконны вываз капустачкі! А табе ж, ашчадненькаму, яе хапіла б надоўга! І вагоны вам, рыжым, на шкуматанне няйначай па адным на рыла даюць. Хто пасля гэтага пустадомак?!»

Я прапусціў бабулю ў купэ. Не сталі доўга чакаць і маладыя.

— І чаго ён гэтак раскрычаўся? — ажыў нарэшце бязвусы муж і зноў узяў за руку сваю кірпаносую шэравочку.

— Мо чалавек не з той нагі ўстаў? Бывае такое. Усё і пакацілася не ў той бок, — заступілася бабуля за мытніка. — Не трэба на людзей злосць затойваць.

— Затойваць злосць — не трэба, а вучыць нахабнікаў ветлівасці — трэба! — гарачыўся я. — У якім лесе рос? На якой стайні выхоўвалі?

Бабуля супакойвала нас: яна больш перажывала за іншых, чым за сябе.

Паціхеньку-памаленьку мы адыходзілі ад перажытае калатнечы. Я падаў думку праветрыць купэ.



Неўзабаве пасвяжэла не толькі ў паветры, але і на душы. Маладая жонка нашага спадарожніка зноў заўсміхалася. Бабуля, як і раней, узялася частаваць нас прысмакамі. Спакайней забілася сэрца і ў мяне.

Так, без новых трывог і турбот, даехалі да Берліна. На рыжага проста забыліся. Суцяшала, што свайго ён так і не дамогся. Тыя, што мелі ў запасе спіртное, сваё кроўнае аддаваць не збіраліся і не спалохаліся яго дзікага ляманту. Іншыя ж, накшталт нас… Зрэшты, пра іншых пакуль памаўчым.

Цягнік ішоў са сваёй крэйсерскай хуткасцю і, супакаяльна пастукваючы коламі — та-та-та, та-та-та, — імчаў нас усё далей на Захад.

Бабуля ехала на радзіму «Бітлоў», у Ліверпуль, да роднага брата. Не бачылася з ім з часоў Другой сусветнай вайны. Усё ўздыхала:

— Ці пазнае Пеценька мяне, старую?

Маладая пара накіроўвалася да сяброў на поўдзень Францыі — у цёплым моры пакупацца.

— Прыедзем — і адразу на пляж, у ваду! — рабіла планы даўгакосае дзяўчо.

— Не, — пярэчыў ёй муж, — спачатку ад клункаў пазбавімся.

Я ехаў да ліпавай радні ў звышвольны Амстэрдам на разведку: казалі, там, на лета гледзячы, у некаторых шопах апаратуру за капейкі скідваюць.

Толькі пры расстанні бабуля прызналася, што таўшчыні ёй дадаваў абкручаны вакол жывата шалік з зашытымі ў яго залатымі чырвонцамі.

Незвычайнай была і каса ў маладой кірпулькі-жонкі — са шнурочкамі каменьчыкаў-алмазікаў. І дарэмна яна яе церабіла. Трапіўся б хто больш

кемлівы за чырванамордага — здагадаўся б, што пальчыкамі яе нервачкі водзяць.

Не стрымаўся, пахваліўся сваім сховам-абцасам і я.

Усе дружна рассмяяліся.

# Самы Ніжні Тагіл

## I

Ёсць такі горад на Урале, Ніжні Тагіл называецца. Ціхі, трэба сказаць, гарадок, спакойны. Асабліва ўдзень. Але пра гэта — пазней.

Цёмна-шэрае з адценнем хакі зімовае неба Ніжняга Тагіла апоўдні звычайна падфарбоўвалася аранжава-блакітным едкім дымам, што поўз, як з цюбікаў, з комінаў шматлікіх заводаў. І тады гэты пейзаж нагадваў карціну, адзін позірк на якую выклікаў невясёлую думку-здагадку: на небе нас чакае не толькі рай — знайшлося і там для пекла месцейка. Заводы ўсе былі пільна патрэбныя краіне і, вядома ж, строга сакрэтныя, такі, як, скажам, танкавы. Спецыялізацыі іншых не ведаю, а хлусіць, ледзь ступіўшы на парог, не хочацца.

Аднойчы ў Ніжні Тагіл зазірнулі два шукальнікі прыгод, больш дакладна — удачы. Маладыя авантурысты з НДІ электронікі марылі не толькі свет паглядзець, але і сябе, малайцоў, паказаць.

Прыехалі шукальнікі цягніком. Сціпла гэтак прыехалі, без шуму. Ды, калі папраўдзе, шумець ім і не выпадала: у гасцях — не дома, пакрыўдзяць — матулі не пажалішся.

Дык вось, гэтыя самыя шукальнікі-здабытчыкі выйшлі на прывакзальную плошчу. Адкуль ні вазьміся — таксі да іх падрульвае, і кіроўца, вясёлы такі,

проста сам Швейк-салдацік бравы, задаволены сабою і жыццём сваім нябедным, усміхаецца і гаворыць:

— Сядайце, паночкі даражэнькія, камандзіровачныя ці бізнесоўцы, нават не ведаю, як да вашага брата цяпер звяртацца. Калі ласка, загадвайце, куды вас даставіць. У нас тут такі расклад: налева пойдзеш — у інтэрнат патрапіш, у заводскі, гэта калі вы камандзіровачныя, направа — у гасцініцу сярэдняй рукі, дзе селяцца чаўнакі; прама паедзем — гэта ўжо са мною, у сэнсе, тады і я спатрэблюся, — у люкс-гатэль прыедзем. Што, паночкі даражэнькія, выбіраем? («Клоўн і вершаплёт, цікавы суб’ект, карацей», — зрабіў я сабе закладачку.)

— Нішто сабе ў вас гарадок, незвычайны, — азіраючыся па баках (яно й праўда, чаму гэта таксіст з усёй гурбы пасажыраў акурат нас выбраў?), сказаў загадкава мой сябрук Жэня Бяндзераў. І, звяртаючыся да мяне, запытаў: — Ну што, стары, не будзем эканоміць на здароўі?

— Не будзем, — падтрымаў я аматара камфорту і павярнуўся да кіроўцы: — Давай, дарагі, паказвай свае палаты белакаменныя.

Таксіст-артыст, бы па камандзе, расхінуў набіты залатымі, яшчэ эсэсэсэраўскімі зубамі рот і, заззяўшы, як лямпачка Ільіча, па-ранейшаму задаволены сабой, выдыхнуў:

— Ваня паноў камерсантаў як бачыш дамчыць. Усё будзе, як заўсёды… у сэнсе о’кэй! — хуценька дадаў ён, міргаючы вочкамі.

«Цікава, — не пераставаў я здзіўляцца. — Выскаляецца ўвесь час, як блазан, а наконт што за народ — з ходу дапяў.



Люкс-гатэль паўстаў у выглядзе шэрага панельнага будынка, на якім паміж першым і другім паверхамі прарэджанымі літарамі гарэла-свяцілася шыльда. Калісьці, напэўна, на ёй можна было прачытаць назву ўстановы, але цяпер адсутнасць паловы літар рабіла гэта немагчымым. Затое люкс-нумары з двума студэнцкімі жалезнымі ложкамі, піянерскай фанернай тумбачкай, халодным душам, радыё, але без тэлефона і тэлевізара, у наяўнасці былі.

Пасялілі нас надзіва хутка, па-еўрапейску, як быццам чакалі даўно. Звярнула на сябе ўвагу і тое, што ў самым лепшым, як запэўніваў нас чарговы, ужо гасцінічны клоўн, люкс-гатэлі горада не заўважалася іншых, акрамя нас, прыезджых. Не было і мясцовых начнога лёту «матыліц». «Зрэшты, яшчэ не час», — прыйшлі мы да высновы, зірнуўшы на дапатопны (калі меркаваць па дызайне цыферблата) гадзіннік, што вісеў у фае.

Неўзабаве мы асвойталіся ў нумары, а яшчэ хвілін праз сорак я крычаў на Жэньку, які зачыніўся ў туалеце-душы:

— Ты там заснуў ці што? Хлопцу з дарогі таксама апаласнуцца не шкодзіць, вагонны бруд змыць.

Пасля ледзянога душа мы нібыта наноў нарадзіліся, і я дазволіў сабе заікнуцца наконт дзяўчатак.

— Спачатку падмацуемся, — запярэчыў Жэнька. У яго былі свае правілы адносна гэтага. — Здароўе перш за ўсё. Запомні, донжуан: арганізму патрэбны вітаміны, затым — грошы і толькі потым — крэслы (жыццёвыя выгоды, значыць) ці дзяўчаты — гэта ўжо на выбар.

«Табе, можа, і гэткая паслядоўнасць па душы, — не пагадзіўся я, — а хлопцу дзяўчаты перш-наперш. І ўвогуле, якія табе вітаміны без адпаведных капі-

талаў? Ды і на жыццёвыя выгоды без іх не разгонішся».

Жэнька выставіў на стол усе прыпасы, што засталіся пасля трохдзённага падарожжа: бляшанку шпротаў (мэйд ін амаль за мяжою, гэта значыць у Прыбалтыцы), дзве размякчэлыя «труфеліны», чвэртку «сітнага» і два памечаныя пролежнямі яблыкі. Яблычкі, заўважу, былі не звычайныя, а залатыя, бо куплялі мы іх у цягніковага спекулянта, а заадно і распаўсюджвальніка друку — той у дадатак яшчэ й бульварнымі газеткамі гандляваў. Хацеў я сказаць пару ласкавых слоў крыхабору, але сябра мяне апярэдзіў: «Ты лепш бы не дзвесце працэнтаў накідваў, а, скажам, пятнаццаць, — даў Жэнька бясплатны ўрок пачаткоўцу дробнага бізнесу, — тады б не швэндаўся па вагонах днямі з адным вядзерцам. У інстытут табе трэба паступаць. Там розныя разумныя законы вывучаюць, напрыклад, аб пераходзе колькасці ў якасць».

Прыкінуўшы спажыўную вартасць вышэйпамянёных прадуктаў, мы зразумелі, што да раніцы на такім мізэры не пратрымаемся, і вырашылі наведаць мясцовы люкс-рэстаран. Там, глядзіш, і дзяўчаткі — лепш позна, чым ніколі — надарацца.

Дзеля іх мы і апранулі ўсё самае лепшае з узятага з сабою на «прагулку па Дунаі» (Жэнькава прыдумка). А ўзялі мы з сабой, паслухаўшы парады аднаго тутэйшага жыхара, які выступіў у ролі кансультанта, шмат чаго. І гэтаму шмат чаму многія пазайздросцілі б нават і сёння. Больш правільна будзе сказаць — асабліва сёння.

На Жэньку былі чорныя скураныя, ці, як ён з гонарам удакладняў, лайкавыя штаны ад «Karden», бліскучая італьянская цёмна-вішнёвая байка, зам-



шавы шэры жакет і іспанскія чаравікі колеру дзіцячай нечаканасці (тым годам надзвычай моднага).

Я апрануўся сціплей: шакаладны касцюм англійскай фірмы «BHS», светлая кашуля ў буйную клетку, чаравікі мала каму вядомай тады (во цёмныя былі!) «Salamander».

Тандэмчык выйшаў някепскі: бландзін з брунетам у апратках на любы густ. Скажам так: хлопцы да бою гатовы! Але ў свядомасці чамусьці круцілася не надта вясёлая рыфмачка: надзелі што мелі, і ўсё ж праляцелі. Такі вось вершык прыклеіўся. Думаеце, падказка *зверху*? На жаль, нічагуткі мы не ведалі.

Спусціліся ў рэстаран красунчыкі (вось і не вазьму ў двукоссе!) недзе а палове на восьмую, але незаняты столік быў толькі адзін, ды й той у куточку («Адсюль цяжкавата будзе дзяўчатак выглядаць», — адзначыў я адразу) і з шыльдачкай «Заказаны». Запыніўшыся ў цэнтры залы, мы яшчэ раз агледзеліся, хітнулі па-крутому галовамі: ніводнага прасвету. Няма дык няма, і Жэня прапанаваў:

— Што ж, атаварымся на кухні і — у нумар. Перакусім — і баю-бай. Ляжам раней. На досвітку ўставаць: разведка боем. Магазінаў тут, здаецца, няшмат, але таварчык, мяркую, будзе ў тэму. Сам ведаеш, як яно вядзецца: таго, што ў іх на складах гніе, у нас днём з агнём не знойдзеш. А тутэйшых дзяўчатак яшчэ паспееш шампанскім пачаставаць. Дый ці п’юць тутэйшыя «Абраў-дзюрсо»? На тваё панскія звычкі тут, як мне думаецца, пажадана забыцца. Сітуацыя ў гэтым Кітаі нейкая… Не ведаю нават, як сказаць… нервовая, ці што. Чуе маё сэрца, што яшчэ не вечар.

І ўгадаў. Па дарозе на кухню нас запыніў якісьці бойкі хлопец і, усміхаючыся (ну зусім не Ніжні Тагіл, а — ура стаматолагам! — Галівуд), спытаў:

— Панове, а што ж вы за свой столік не сядаеце?

— За свой столік? — адначасова вырвалася ў нас абодвух.

— А-а, так-так, — працягваў ужо адзін Жэнька. — Дзяжурная па паверсе вам пазваніла, напэўна?

— Само сабою, Вольга Васільеўна нам усё перадала. Так і сказала: «Новенькім хлопцам забраніруйце столік і, каб ніхто не замінаў, дзе-небудзь у куточку». («Выходзь на новенькага», — пранеслася ў мяне ў галаве — недарэмна, напэўна.)

— Цікавая ініцыятыва з боку дзяжурнай па паверсе, вопытная, аднак, дзяжурная, — шапнуў Жэнька мне ў вуха, — прадбачлівая.

Бойкі хлопец прыбраў са століка шыльдачку, і мы селі на забраніраваныя месцы.

Афіцыянтцы нас даручылі маладой, сімпатычнай, і Жэнька, убачыўшы яе, адрэагаваў з ходу:

— Як запасны варыянт — нішто сабе, сыдзе.

«Запасны варыянт» аказаўся дзяўчынай шустрай і кемлівай — яна відочна прэтэндавала на тое, каб перайсці ў асноўны. Падаўшы чарговую страву, Люда-Людачка затрымлівалася ля нашага століка, выслухоўвала Жэнькавы досціпы наконт мясцовых жартаўнікоў-таксістаў («Тыя яшчэ ворлікі», — пагаджалася яна), абшарпаных люкс-нумароў («Так, не Парыж», — уздыхала) і іншых тутэйшых адметнасцяў. Неўзабаве Жэнька з «самай прыгожай на Урале» (во пайшоў кампліменты шпурляць, а казаў жа — галоўнае — вітаміны) быў ужо на «ты» і, як пасля высветлілася, пастараўся не дарэмна.



За гадзіну мы расквіталіся са «сталічнай» салатай натуральнай у такіх установах якасці, з падобным на халадзец з ног пярэстаркі-свінні (у дзяцінстве я аднойчы такім аб'еўся) курыным заліўным і разбавілі ўсё гэта «Белым буслам», які, надзіва, прынеслі неадкаркаваным.

У хуткім часе наведвальнікі (і мы, на жаль, разам з імі) пачалі п'янець, але, акрамя ўсё больш частага мату, нас асабліва нішто не занепакоіла. І дарма.

«Бусел» затуманіў вочы, і мы забыліся «прабіць» публіку. А між тым набліжаўся момант, які я не забуду ніколі, хоць бы таму, што ён адразу паставіў пад сумненне эпітэт «ціхі» ў дачыненні да нашага месцазнаходжання.

Група музыкаў (таксама эстэтаў: усё «не гони лошадей» ды «не гони-и») пайшла перадыхнуць, і амаль адразу ж сярод запанавалай цішыні пачуўся дзікі лямант:

— Сёння я вам зладжу, блядзі, вечар! Сёння вы ў мяне пакуляецеся! Я — Міна-ай! Забыліся? Устаць, сукі!

Жэнька папярхнуўся фрагментам таго, што ў меню значылася як гуляш, і, кхэкаючы, схапіў шклянку з ліманадам — запіць.

Крык узвіўся ў мяне за спінаю і нагадаў, што там, ззаду, знаходзіцца сцэна: магчыма, пачаўся нейкі авангардысцкі спектакль. Але інтуіцыя падказала: не, дружа, гэта не спектакль, гэта — жыццё. Жыццё, якое пачынаецца ў «ціхім» ніжнім горадзе разам з надыходам ночы. Цёмнае такое жыццё, змрочнае. Тайга, адным словам.

— Ай-я-яй! Ахранеў народ! Міная забылі?! А Мінай сёння рэзаць будзе ахранелых! Ох, будзе! —

І маларослы, моцна збіты неандэрталец гадоў трыццаці, са шмат разоў парэзаным тварам, што спалучаў ленінскі лоб і мангольскія вочкі («Відавочны шызафрэнік, — мільганула ў мяне ў галаве, — прытым закончаны»), усхапіўся з крэсла і ўскочыў на стол. Прыжмурыў і без таго амаль нябачныя вочкі, і яны нібы зніклі. Сабачая морда ператварылася ў пацучыную і, не адкрыўшы, а скрывіўшы рот, адпрацаваным фальцэтам завішчэла:

— Сука буду — не забуду!

Схапіўшы бутэльку шампанскага, недарэзаны з размаху агрэў суседа па галаве.

— Я — Мінай! — неслася ўслед стрыжанаму пад нуль хлопцу, які потырч кульнуўся з крэсла. — Ты ўсёк, вырадак, на каго зекры лупіш? Усіх прырэжу! — не мог ніяк супакоіцца недарэзаны, накручваючы сябе ўсё больш і больш. Спружыністы быў, трэба сказаць, жвавы.

Па шчацэ хлопца, які зваліўся з крэсла, цякла кроў, і, паторгаўшыся крыху на падлозе, ён заціх. «Страціў прытомнасць, — адзначыў я. — Калі зараз жа не дапамагчы, можа й загнуцца».

Аднак выгляд крыві толькі ўзбадзёрыў Міная.

— А ты, падла, чаго вылупіўся? — гыркнуў ён на мужчыну-бугая за суседнім столікам. — З’еш і ты, вырадак! — і ўсадзіў мужыку ў грудзі нож, які невядома адкуль з’явіўся ў ягонай руцэ. — На! Атрымай! Атрымай! — вішчэў Мінай, раз-пораз вырываючы нож і наносячы новыя ўдары. — Хто яшчэ пяра захацеў? — павярнуўся да залы.

Зараз, прыгадваючы той момант, разумею, што Мінай быў сапраўдным бандытам, даперабудовачным, не раўня цяперашнім: за проста так мог зарэзаць.

 

Кроў з нажа пырснула на дзяўчатак за суседнім столікам, і, адолеўшы гіпноз, яны нарэшце закрычалі (праўда, як нам падалося, не на поўную сілу).

Мінай быў хлопец спрытны, але ўхіліцца ад бутэлькі, што ляцела ў яго ззаду, не змог: ён яе не бачыў. Бутэлька была запушчана кімсьці дасведчаным у кіданні. Пацэліла дакладна ў патыліцу і не як-небудзь наўскос, а самым донцам. Мінай паваліўся на суседні, злева ад нашага, стол, за якім вішчэлі дзяўчаткі, і, перакаціўшыся, распластаўся ля нашых ног.

«Выдаткі вытворчасці», — падсумаваў я сам сабе.

Але Мінай не быў бы Мінаем, калі б вось гэтак проста ўзяў ды сканаў. Нож, што застаўся ў ягонай руцэ, заварушыўся, і, ачуняўшы, неандэрталец ускочыў і кінуўся міма нас у тую частку рэстарана, адкуль прыляцела бутэлька. Відаць, ведаў, хто мог на гэта рашыцца. І праўда, хто?

Замітусілася-забегала і астатняя высокая публіка. Услед за Мінаем рынуліся два-тры яго хаўруснікі, гэткія ж манголападобныя галавасцікі (не такі ўжо й рэдкі гібрыд, аказваецца). З другога канца залы за імі спяшаліся чалавек пяць асоб «каўказскай» нацыянальнасці. У руках у іх былі ланцугі.

— Пазнаю, пазнаю-ю наш рэстаранчык, — спакойна выстаўляла на стол сімпатычная Люда заказаную Жэнем рыбу. — Класны спектакль убачыце. Зрэшты, — дадала яна, — ён ідзе тут штодня.

Рэстаран быў вялікі, а столікаў не так і шмат — месца для гладыятарскіх забавак хапала. І не мінула і хвіліны, як па зале з крыкамі насіліся ўсе, акрамя нас і гасцей за суседнім — справа ад нашага — столікам чатырох дзяўчатак і зграбнага хлопца ў «адзідасе», пад якім ля пояса ўгадвалася нешта

больш сур’ёзнае, чым усе гэтыя нажы, ланцугі ды кастэты. Па-за пабоішчам заставаўся толькі наш астравок, і гэта падказвала, што лепш не выпрабоўваць лёс, сядзець ціха і не варушыцца. Жэня ад сюрпрызаў такіх знямеў і скамянеў, як правадыр пралетарыяту на адной з плошчаў калісьці велізарнай, а цяпер зніклай краіны.

— Слухай, мы што, у непрабівальным полі сядзім? І насамрэч забраніраваныя? — ачуўшыся ад наслання, спытаў я ў сябра. — І што б усё гэта, як ты думаеш, значыла?

Нічога ён не думаў. Ды й ці можна пра штонебудзь думаць у сітуацыі, калі стукат сэрца ў галаве адбіваецца?

— Вас на дэсерт пакінулі, — пачуў я з-за спіны ціхі голас Людачкі, і да мяне дайшло: «Нас аберагаюць, як тых выбраных на забой бараноў, адкормліваюць…»

«Між сабой разбірайцеся, а лохаў маіх не чапайце», — мяркую, нешта такое сказаў той, у «адзідасе», тутэйшым адмарозкам. Здаецца, і «пушка» тут была толькі ў яго, астатнія так, шушамець, хіба што парэзаць могуць. Праўда, рэжуць тут дык рэжуць. Кроў фантанам пырскае. Але субардынацыя, скажу вам, узорная. І гэта добра. Значыць, галоўнае — пад аховаю «адзідасніка» сысці ад адмарозкаў, а пасля і ад самога абаронцы, таксама, напэўна, аматара і калекцыянера розных купюраў. «Асабліва чужых», — давязваў я ланцужок, страляючы вачыма па зале.

А на авансцэне-арэне валтузілася чалавек шэсцьдзесят. Дзяўчаткі, быццам па камандзе, выстраіліся ўздоўж сцен і вокнаў. Некаторыя паспелі закурыць. Шустрыя! З дзесятак гладыятараў ужо ляжалі на



падлозе, калі «адзідаснік», высунуўшыся ў акно, даў адмашку мянтам, якія стаялі на вуліцы, і тыя нарэшце непарадак заўважылі.

У залу забегла брыгада (тузіны тры братоўблізнюкоў) і рукамі, нагамі, дубінкамі амаль імгненна паклала на бетонную падлогу ўсіх, каторыя заставаліся на нагах, наведвальнікаў. Угледзеўшы, як двое мянтоў валакуць за ногі ўжо без адзнакаў жыцця Міная, я зразумеў, што неўзабаве ў гэтай зале застануцца толькі ганаровыя госці — мы і каманда «адзідасніка». Нам, магчыма, улічваючы маральныя выдаткі, дазволяць не разлічвацца за вячэру, але заплаціць за ўратаваныя жыцці давядзецца. Больш дакладна, аддаць усё: не той выпадак, каб капейкі лічыць. Жэня, убачыўшы, што сталы, нажы і людзі па зале больш не лятаюць, крыху супакоіўся (ён сядзеў да «адзідасніка» спіною) і падсунуў да сябе талерку з рыбай.

— Фільм жахаў, — сказаў не сваім голасам. — Карпентэр з Хічкокам адпачываюць. Га-а?

Для мяне жыццё было даражэй, чым смажаны карп, і я, махнуўшы Людачцы, хуценька пашыбаваў да яе ў бок кухні. Трэба было нешта рабіць, неяк дзейнічаць.

«Адзідаснік», відаць, заўважыў мае торганні, прыўзняўся. Але прасачыўшы, куды я пайшоў, наўздагон не кінуўся, зноў апусціўся на крэсла. Мусіць, успомніў, што Жэня застаўся ў заложніках. Так я і ведаў: пры мянтах засвечвацца, паказваць свой інтарэс да нас ён не стане. У дадатак у яго былі іншыя турботы. Мяркую, фразу «вы бачылі забітага апошнім», звернутую да сябе, ён не хацеў бы пачуць нават ад сяброў. Пасадзіць не пасадзяць, але грошай за паслугі папросяць.

— Людачка, толькі адно пытанне, — стаяў я каля ўвахода ў буфет. — Як нам адсюль выбрацца, у сэнсе жывымі выйсці?

— Ніяк, — спакойна адказала Люда (у гэтую хвіліну яна мне падалася не вельмі сімпатычнай і нават не такой ужо й маладой). — Ад Зуба яшчэ ніхто не ўцякаў. Прынамсі тут, у нашым рэстаране. Да таго ж ён аб'явіў вас сваёй уласнасцю. «Каб на новенькіх ніхто вачанятак не вылупліваў і зяпу не разяўляў», — сказаў усім гадзіны дзве назад. (Ага, вось як яно было!) Таму ад вас, як ад агню, усе і шарахаюцца. Лепш піку атрымаць, чым з Зубам звязацца. І я, чаго добрага, магу дагаварыцца.

Трэ было нешта рабіць. Увесь трыццацігадовы жыццёвы вопыт падказваў, што бязвыходных сітуацый не бывае. І, ужо нічым не рызыкуючы, я прапанаваў, як сказала б Людачка, на дэсерт:

— Ты бачыла калі-небудзь долары? Шмат долараў. Скажам, сто.

Добры быў час: за сотку адкупляліся!

Слова «долары», такое ж рэдкае ў тутэйшым ужытку, як і самі абазначаныя ім грашовыя знакі, напалохала яе, але яно ж і памагло адолець страх, надало Людзе рашучасці:

— Выйсці можна толькі праз кухню, але там жалезныя дзверы і яны замкнёныя. Ключ у дырэктара, а яго вечарам (цяпер ведаеце чаму!) ніколі не бывае.

— Добра, а ў кабінеце дырэктара дзверы браніраваныя?

— Не, — адказала Люда, скеміўшы, што я маю на ўвазе, — дзверы як дзверы.

— Тады — дзейнічаем!

Мой план заключаўся ў тым, каб пранікнуць спачатку ў кабінет дырэктара, пашнырыць там



накотт «залатога ключыка» і пасля ўжо далей выпрабоўваць лёс.

Першая частка аперацыі прайшла на выдатна. Трэба сказаць, што і надалей Люда актыўна трымала наш бок: ажыццяўляла сувязь між мною і Жэнькам, адцягвала Зубаву ўвагу, а пад канец заявіла, што пра сябе паклапоціцца сама (і, як пазней мы даведаліся, паклапацілася), чым зняла з нас маральныя вярыгі.

Карацей кажучы, мы здабылі волю.

Вырваўшыся на вуліцу, пранесліся міма «Дома быту», «Хімчысткі», магазіна «Хлебны» (як я паспяваў назвы чытаць?). Ламанулі за стэнды, з якіх нас віталі ўдарнікі камуністычнай працы, і апынуліся на пустэчы, а папраўдзе — на закладзенай з уральскім размахам будаўнічай пляцоўцы. Штохвіліны рызыкуючы грымнуцца ў яму ці напароцца на ражон з іржавай арматуры, мы не прыпынялі чэмпіёнскага забегу. І Бог злітаваўся над «спартсменамі»: дыстанцыю адолелі без асаблівых страт для здароўя ды ў дадатак яшчэ натрапілі на «КамАЗ», гружаны дошкамі.

Лёгкія разрываліся ад даўно забытай нагрузкі, у вачах праплывалі белыя шары, і, не змаўляючыся, мы спыніліся. Трэ было перадыхнуць і заадно прыкінуць, як там справы з пагоняй, і ці не нас чакае «КамАЗ» з дошкамі, з каторых, як вядома, труны збіваюцца.

— Добра беглі, — спрабаваў жартаваць Жэня, ды я толькі зубамі скрыгатнуў: мы маглі гэтак жа добра ляжаць.

Не марнуючы часу, падняў з зямлі абрэзак арматуры і, асмялеўшы, зазірнуў у кабіну — нікога.

Агледзеў з падножкі грузавіка мясцовыя адметнасці, прыслухаўся: быццам ціха… І ў гэты момант адбылося з’яўленне Антыхрыста народу: перада мною ўзнік з цемры не зусім цвярозы гаспадар аўто і па сумяшчальніцтве — раскрадальнік будаўнічых матэрыялаў.

— Гэй, мужык, — крыкнуў я работніку ў нейкім сэнсе інтэлектуальнай працы. — Калі мы зараз паедзем і паедзем вельмі хутка, ты атрымаеш вось гэта, — тыцнуў яму пад нос правую руку, адзін з пальцаў якой упрыгожваў залаты пярсцёнак работы аднаго маленькага габрэя, вялікага знаўцы даўганогіх «гёрлз» вясёлых паводзінаў, — і табе нейкі час не трэба будзе красці гэтыя няшчасныя дошчачкі.

— А ад каго шыецеся? — з неймаверным, проста-такі наркатычным спакоем спытаў мужычок. Біты, відаць, быў хлапчына, не працячок, няйначай з крымінальным мінулым.

— Ды магазінчык з такімі вось бразготкамі грукнулі.

— А-а, ну тады святая справа, — вывеў былы гоп-стопнік.

Мы ўскочылі ў кабіну.

Я апошні раз азірнуўся на будоўлю веку, што ўратавала нас, і не без трывогі адзначыў, як яе крэсляць уздоўж і ўпоперак агеньчыкі-ліхтарыкі: «Не супакоіліся хлопцы, шукаюць. І правільна, цяпер для рызыковых малайцоў гэта справа гонару. А то, глядзіш, адны ўцякуць — іншым захочацца. Гэтак і на бабах застанешся».

Для нас жа расклад быў іншы: мы атрымалі з паўгадзіны форы. І вадзіла наш аказаўся малайцом: «Едзем да мяне», — кінуў на маё маўклівае пытанне.



«Шукайце, шукайце», — наказваў я «ліхтарыкам» ужо больш спакойна, калі «КамАЗ» па-дакарску рвануў з месца…

Камазнік жыў у прыватным доме на ўскраіне горада. Дом, паводле азначэння яго гаспадара, быў прыблатнёны — у сэнсе, з тэлефонам, і мы не стрымалі, пазванілі да часу забытаму мясцоваму кампаньёну. У прынцыпе, якому там кампаньёну — проста апынуліся неяк разам у схільным да легкадумства горадзе Сочы, дзе ён і панаплёў нам пра скарбы, асабліва мэблевыя, што ледзь не задарма бяры ў тутэйшых супершопах з падвешанымі да столі ліпучкамі для знішчэння мух і іншага паскудства. Меркавалі абысціся без яго, але зараз розніцу давядзецца дзяліць на траіх (халява, на жаль, не прайшла). Зрэшты, усіх грошай не забярэш, а з жыццём, рызыкуючы, як сёння, развітацца можна ўмомант. Карацей, пазванілі.

Заспаны кампаньён доўга не мог даўмецца, «каму там не спіцца», але як толькі сцяміў, што да чаго, прачнуўся імгненна. («Дысцыплінаваны і лёгкі на пад'ём, — падумалі мы. — Гэта добра». Дарэчы, правільна падумалі.)

Прадыктаваўшы трэцяму-не-лішняму адрас гопстопніка на пенсіі і распавёўшы ў двух словах пра нашы незвычайныя прыгоды, мы пачулі голас надзеі: «Буду хвілін праз трыццаць-сорак. На белай “сямёрцы”. Пастарайцеся нікуды не выходзіць».

«А кампаньён у курсе мясцовых звычаяў, — ласкава прайшліся мы па новым дружбаку. — І чаго ж ён, гад, у Сочах пра іх сціпла прамаўчаў?»

Камазнік, пачуўшы сапраўдную версію нашых уцёкаў, пярсцёнка не ўзяў («Хай у мяне пакуль дзесяць пальцаў на руках застанецца»), а толькі па-

прасіў на пляшку і паставіў умову, каб чакалі мы «свайго хаўрусніка» на вуліцы, прычым на тым — тыцнуў ён брудным пальцам у акно, — супрацьлеглым ад яго дома баку. «Вы сёння тут, заўтра там, а мне яшчэ пажыць хочацца. Так што вось вам Бог, а вось парог».

Мы палічылі ягоныя довады пераканаўчымі і, узаемна задаволеныя, развіталіся.

Хвіліны здаваліся гадзінамі, але калі мінула іх дваццаць восем (па секундах лічылі), убачылі белую «сямёрку», пра якую гаварыў наш кампаньён. Пытання «сядаць — не сядаць» у нашай сітуацыі не ўзнікала, і мы ўскочылі ў машыну.

Ехалі наструнена. Жэнька сядзеў скасабочыўшыся, грудзямі ўперад, тварам да задняга шкла: ці то пагоню адсочваў, ці то маршрут на ўсялякі выпадак запамінаў.

Але хваляваліся мы дарэмна.

Кватэра новага сябра «Клуба ахвотных і знаходлівых» была напакавана, як кажуць, пад завязку. Нас з Жэнькам гэта дужа ўзрадавала: хто б там што ні казаў, але чым багацейшы чалавек, тым болей шанцаў, што ён вас не абрабуе.

Выдзеліўшы асобны пакой, нас запрасілі (пасля ванны, вядома) «павячэраць чым Бог паслаў». «Ты глядзі, нават у гэтым ціхім горадзе Ільфа і Пятрова ведаюць», — шапнуў мне Жэнька, калі з бурчэннем у жыватах (яго рыба і мая катлета па-кіеўску засталіся Людачцы замест прэзента, як, зрэшты, і родная сотачка) мы ішлі на кухню.

Расказаны Мікалаю (няўрымслівы жартаўнік Жэнька троху пазней спрасціў «царскае» імя ньюкампаньёна да нянаскай карацелькі — Мік) ужо ў поўным аб'ёме баявік «Прыгоды двух сціплых чаў-



накоў у не вельмі сціплым Ніжнім Тагіле» ў гаспадара дома, на наша абуранае здзіўленне, асаблівых пачуццяў і суперажыванняў не выклікаў. Добрасумленна выслухаўшы ўсе жахі да канца, ён толькі сонна спытаў:

— І што, зусім-зусім не стралялі? Та-ак, старэюць хлопцы, старэюць… От у наш час…

Толькі пад раніцу, стомленыя бурнымі падзеямі і напалеонаўскімі планамі, мы паваліліся на аграмаднае румынскае крэсла-ложак, якое нам выдзеліў гаспадар. Жэнькаў мозг, нават засынаючы, спрабаваў аналізаваць ход і вынікі перамоў:

— Прафесіянал — сам узяў меру, а нас напаіў добра. Цікава, ці шмат лішняга нагаварылі? Але, нямала на грудзі прынялі. Ды як не напіцца пасля такога працоўнага дня? Га-а? Нанава ж, можна сказаць, нарадзіліся.

«І ў кашулі, забыўся ён, ці што», — дадала мая затуманеная свядомасць.

— Праўду, бацька, кажаш, — было апошнім, што выціснуў я з сябе — і адключыўся.

Прачнуліся пад абед (калі меркаваць па пахах, што плылі з кухні), памыліся, пагаліліся і, адчуўшы сябе больш упэўнена, рушылі на пяшчотныя для вушэй гукі, якія выдае мяса, калі смажыццаскварчыць на патэльні.

— Вы ўжо даруйце гасцям нязваным, што гэтак доўга ўчора мучылі вас гаворкамі, — узяў Жэня на сябе ініцыятыву ў наладжванні кантакту з жонкай таварыша па бізнесе. — Хоць Саша, — валіў ён усё на мяне, — любіць пабалакаць. І пазабаўляцца трохі. Напрыклад, нядаўна ў незнаёмым горадзе

пайшоў у рэстаран шыкоўны і нават жывы адтуль вярнуўся. І ўсё б добра, ды толькі дагэтуль не зразумеў, што вярнуўся зусім выпадкова… Не слухае старэйшых. А пад стол жа пешкі хадзіў, калі некаторыя…

— Ды хопіць табе, — абарваў я дэмагога. — Ты лепш успомні разумніка з графскімі замашкамі, аматара люкс-гатэляў.

— Усё нармальна, — падвяла вынікі размінкі гаспадыня, — ідзіце есці. Мікола хутка пад’едзе.

І сапраўды, праз колькі хвілін у кватэры празвінеў званок, і наш новы кампаньён, усміхаючыся з парога, выпаліў:

— Сёння ваша чарга наліваць! Усё значна лепей, чым я меркаваў! Ну ды пра гэта пазней, спачатку перакусім, — скончыў ён, распранаючыся.

— Не, не, не! — захваляваліся мы з Жэнем, займаючы месцы па адзін бок барыкады. — Нам без інфармацыі ежа ў горла не палезе. Ты ўжо не муч, не будзь катам.

— Капрызныя гэтыя камерсанты, усё ім не так. Але тут я згодны, правільна. Спачатку — справа, гэта значыць крэслы ці самалёты, а ўсё астатняе (тут, не змоўчу, ішоў намёк на маіх бедных дзяўчатак) — потым. Добра, будзем лічыць, пераканалі. Дык вось, дазвольце зачытаць увесь спіс. — І Мік пачаў пералічваць: — На каменны кар’ер — два чалавекі… Не разумеюць прыезджыя панове гайдаеўскіх жартаў, — паглядзеўшы на нас, канстатаваў ірад. — Хоць, вы ж учора ГПА на залаты значок здавалі. — Але, злавіўшы строгі позірк жонкі (вясёленькі партнёр трапіўся, зрэшты, як і ўсе ў ціхім горадзе днём), прыступіў да справы: — Першае — дванаццаць крэслаў з…



— Мікола, перастань! Людзі за трыдзевяць зямель не жарцікі твае слухаць прыехалі! — прыкрыкнула на нашага мучыцеля жонка.

— Ды я не жартую. Дванаццаць крэслаў са таловым гарнітурам. Вытворчасць — Югаславія. От ужо й сапраўды, чалавеку слова сказаць нельга…

— Дык і кажы гэтае слова, — зноў падтрымала нас новая хаўрусніца, — а не балбачы абы-што.

— Ну добра, добра, не наязджай, — спрабаваў адбіцца Мік.

— Чытай, чытай, — хорам перайшлі мы ў атаку.

— Другое — дваццаць дзіцячых пакояў. *Made in USA*… Спальні, вытворчасць — Румынія…

Спіс быў настолькі доўгі (меў усё ж гад права дражніць дзікіх гусей), што, разявіўшы раты і слухаючы чарговае «мэйд ін…», мы неўзабаве перасталі лічыць, за колькі ходак зможам вывезці скарбы Тутанхамона, у сэнсе — заляжалы ў тутэйшых магазінах дэфіцыт.

— Клондайк, а не Ніжні Тагіл, — падвёў Жэня вынік агучвання ўсяго спіса.

— Далей, — не супакойваўся наш новы партнёр. — У чыгуначны кантэйнер («фуру» — забыць: на дарогах аблавы з нашых хлопцаў дзяжураць) улазіць…

Усё гэта, трошкі звыкшыся з дзівосамі, мы слухалі больш спакойна.

Урэшце, пасля зацятай спрэчкі паміж мною і Жэнем, першую ходку вырашана было зрабіць праверачнай, па многіх пазіцыях адразу не біць. Узяць для пачатку толькі «дзіцячыя пакойчыкі», а там відаць будзе.

— Тады — да справы, — праявіў Мік задаткі кіраўніка, і мы пачалі збірацца ў дарогу.

Гадзіны праз паўтары белая «сямёрка» пад’ехала да склада часоў Пятра Вялікага. Калі я ўбачыў аграмадную аблезлую гаспадарчую будыніну і побач з ёю — старадаўні двухпавярховы асабняк з забітымі вокнамі, чамусьці адразу ж падумаў: «Акурат тут нас і пахаваюць. Разрэжуць на кавалкі і раскідаюць па розных кутках “Вішнёвага саду” (нягледзячы на рэстаўрацыйна-шкодніцкія работы, склад нагадваў памешчыцкую сядзібу, канфіскаваную і прыстасаваную да інтарэсаў працоўнага народа ў навальнічныя гады).

Але дарэмна так думаў. З’явілася тоўстая загадчыца склада і замест расчлянення прапанавала нам гарбату, пернікі і іншыя ўральскія ласункі. Спрабавала паднагрэць лохаў, спекульнуць на іх яшчэ і самацветамі. Але дападны Жэнька адказаў строга: «Самі з вусамі і выхад на каменьчыкі прамы ведаем» (ох і маніў!). Гаспадыня за «пралёт», на наша здзіўленне і радасць, не пакрыўдзілася і, не марнуючы часу, узялася за справу:

— Хлопчыкі й праўда ўсе «дзіцячыя№ забяруць? — перапытала з недаверам у Міка. — Та-ак, за дзень двухмесячны план выканаю. І куды толькі можна сапхнуць два дзесяткі дзіцячых па вар’яцкай цане? Бываюць жа ненармальныя!

«Цікава, — прыкінуў я, — амерыканскія дзіцячыя пакоі за… так, колькі ж гэта ў нармальных грашах? Ага, за сто трыццаць сімвалічных, сказаў бы, долараў нікому ў Ніжнім Тагіле не патрэбныя. Паўстае пытанне: і куды бандыты глядзяць? Золата пад нагамі валяецца, а яны па старой звычцы спрабуюць залезці ў чужыя кішэні».

Пагрузка заняла досыць шмат часу: Мік сачыў, каб рабочыя насілі ўпакоўкі асцярожна (а значыць

 

— паціху) і складвалі іх роўненька — адну да адной (золата, а не кампаньён!). Гадзіны праз чатыры пагрузка драўніны, як гаварылі нецярплівыя грузчыкі, была закончана, і, не чакаючы канца змены і не звяртаючы ўвагі на вокрыкі мажной загадчыцы, хлопцы пайшлі ўзяць пару-тройку «пузыроў». Тут, само сабою, Мік быў вінаваты, торкнуў, чорт, хлопцам чацвяртнога. Тыя ажно працверазелі. «Па дзве белай на рыла?!» — перапытвалі ўтарапела. «Так, можа здарыцца, што сёння “напрасно старушка ждет сына домой”, — гледзячы на грузчыкаў, падумаў я. — Літр без закусі — гэта сур’ёзна... Хоць на Урале свае паняцці аб рэкордах...»

Але ўзніклі праблемы і ў нас.

Калі пагрузілі дзіцячыя гарнітуры, выявілася, што ў кантэйнеры засталося вольнае месца. Прыкінуўшы па сітуацыі, Мік агучыў дзіўную для сферы бізнесу прапанову:

— На тыя грошы, што належаць мне, возьмем яшчэ адну дэфіцытную па ўсім Саюзе пазіцыю — індыйскія ручнікі — і заткнём дзіркі. Нельга скрынку няпоўнай адпраўляць. Гарнітурчыкі сюды-туды пакоўзаюцца, і пад канец падарожжа замест іх атрымаем высакаякасныя дровы... Наконт грошай — думаю так: адным заездам вы сытыя не будзеце, прыедзеце яшчэ, тады і разбяромся.

Такая высакароднасць у той вясёлы час была рэдкасцю (цяпер ні пра што такое наогул гаварыць не даводзіцца), і адмаўляцца ад прапановы было б нечуваным глупствам.

Пакінуўшы Жэню ахоўваць тавар, мы з Мікам пракаціліся да бліжэйшага прызаводскага магазінчыка. Зайшоўшы праз кабінет загадчыцы адразу на склад, забралі ўвесь наяўны лазне-пральны асарты-

мент і ў дадатак, на ўсякі пажарны, прыхапілі яшчэ тузін кітайскіх падушак.

Вярнуўшыся да галоўнай пагрузачнай пляцоўкі, мы заспелі Жэню ў стане лёгкага афекту. Аказваецца, замест запланаваный паловы гадзіны нас не было цэлых дзве. Як жа, аднак, у працы час ляціць! Бедны Жэнька ледзь не памёр ад розных благіх думак. Ды й напарніца, здаецца, спрабавала свой шанец не ўпусціць. Цікава, адбіў зямляк атаку ці ўсё-такі спазнаў асалоду мімалётнага флірту?

У той далёкі час кантэйнеры, што каталіся па краіне, бандытамі не адсочваліся, і да грузавой чыгуначнай станцыі мы даехалі без прыгод.

Нейкі час быў затрачаны на афармленне розных паперак і ўручэнне лёгкіх прэзентаў прадстаўнікам ніжэйшага бюракратычнага звяна. Неўзабаве, я сказаў бы, нарэшце-такі, мы вызваліліся ад грузу, што вісеў на нашых карках ужо больш за дванаццаць гадзін.

Рукі былі развязаны, але чамусьці тут жа захацелася адчуць іх звязанымі, і я ўспомніў пра дзяўчатак. Наўздзіў, і рыбак Жэнька падтрымаў маю ініцыятыву. Аднак беспрэцэдэнтная па нахабнасці прапанова новага кампаньёна: «Я ведаю адзін класны рэстаранчык…» — нас адразу астудзіла. Гэта як напалены метал у ваду акунуць (пра што, дарэчы, яшчэ будзе).

— Не-не, час дадому збірацца. Стаміліся вандраваць, — амаль хорам адгукнуліся мы.

«От малайчына, — падумаў я пра Міка, — ведаў, як уратаваць хлопцаў ад рэпартажу з пятлёй на шыі».



Да адпраўлення рэйса «Свярдлоўск — Масква» заставалася пяць хвілін. Жэнька глядзеў у ілюмінатар (як больш пацярпеламу — ён так лічыў — гэтае месца дасталося менавіта яму) і паважна (ужо трошкі )расслабіўся, змей) гаварыў:

— Цікавае ўсё-такі ў нас жыццё, Санёк. Многія жывуць сабе — хлеб жуюць ды й добра. А мы не проста жывём, а радуемся, што жывём, правільней — што жывымі засталіся. Э-э, а што гэта ты аціх, быццам нябожчык? — злёгку штурхануў мяне. — Сэрцам чую — чарговую авантуру плануеш. Ты, гэта, канчай жыццём маім адзіным распараджацца. Мысліцель-камікадзэ…

Але я думаў пра іншае: «Ці даляціць да месца прызначэння наш стары, сто разоў заслужаны паветраны лайнер? І наогул, каму гэта прыйшло ў галаву даваць самалётам назву не самых якасных цыгарэт?»

II

— Лена? — крыкнуў я, як толькі на другім канцы паднялі трубку.

— Я слухаю.

— «На Заходнім фронце без перамен», — пачаў з пароля. — Гэта Саша. Ведаю, што зараз Мік наўрад ці дома, але ўсё роўна званю. Добрымі навінамі заўсёды прыемна падзяліцца. Наш груз дайшоў цэлы і непашкоджаны. І ўжо рэалізаваны. Уяўляеш, мэблю грузілі аптавіку адразу ў машыну. У яго аж вочы разбегліся ад халявы несусветнай. Гэтак ён сказаў, калі ягоная фура была запоўнена. Наогул, усё о'кэй. Мікаву пайку, як дамовіліся, адклалі, так што хай не хвалюецца. Лен, ты мяне слухаеш?

— Так...

— А чаму голас у гаспадыні журботны? Можа, галубка чаго недачула? Усё добра, кажу! — ужо крычаў я ў трубку.

— Не, — адказалі на тым канцы дроту, — не ўсё добра.

— Што значыць — не ўсё?

— Міколы няма, — аглушыла мяне Лена.

Я не адразу ўсвядоміў сэнс гэтых слоў, але адчуў: здарылася нешта кепскае, жахлівае, непапраўнае.

— Лена, ты супакойся, калі ласка, а то я не зразумеў. Мікалай кудысьці з’ехаў?

— Але, з’ехаў. Туды, адкуль не вяртаюцца. Забілі Міколу. У пад’ездзе чакалі... Без Зуба не абышлося...

І на тым канцы дроту паклалі трубку.

Нейкі час я сядзеў як ачумелы. Перазвоньваць Лене не рашыўся і, ратуючыся ад жаху, што апанаваў мяне, аўтаматычна набраў Жэньку.

— Прыходзь, ёсць пытанні, — абарваў ягонае «а-а» і ўдакладніў: — Сур’ёзныя.

Жэнька, напэўна, здорава гнаў сваю «Ніву», бо прымчаў хвілін праз пятнаццаць.

— Чаго торгаешся? — замест «дабрыдзень» пачаў ён з парога. — Мянты выклікалі? Не? Званілі? Правільна! Не крадзі!

— Супакойся, канчай блазнаваць. Я тэлефанаваў Лене. Павіншаваць хацеў, а там... Бяда. Мікалая забілі. Яна кажа — Зуб, «адзідаснік» арганізаваў.

Усмешка сышла з Жэнькавых вуснаў.

— Та-а-ак, — сказаў ён, сядаючы на тумбачку трумо ў вітальні. — Ты, гэта, Саша, не пажартаваў? — спрабаваў адсунуць ад сябе страшную навіну. — Та-а-ак... — паўтарыў і замоўк.



— Тут, пакуль ты баранку па горадзе круціў, я сёе-тое прыдумаў. Далучышся — добра. Не — сам спраўлюся. А выращыў і зразумеў я вось што: мне цяпер не заснуць спакойна, пакуль спакойна спіць Зуб. Папраўдзе, я толькі тады і засну, калі ён на вечны спачын адыдзе. Карацей кажучы, грошы ёсць, здароўе — таксама, так што нечаканы доўг, мяркую, мы аддаць здолеем. Я правільна кажу — «мы»?

Жэнька паглядзеў на мяне і, нервуючыся, кінуў:

— Ты лічыш, што я хачу на ўсё жыццё даўжніком застацца? Забілі як праз цябе, так і праз мяне! Не ўжо, выбачай, жыць з каменем на шыі…

— Добра, добра, я ведаў, дружа, што ты не падвядзеш. Шчыра кажучы, шанец аднаму грукнуць Зуба, мяркую, у мяне быў, а вось шанцаў застацца пры гэтым жывым, адчуваю, не было.

— Ну, артыст, без сябра хацеў змыцца, — пачаў прыходзіць да памяці Жэнька. — Ляцім хоць калі? Ці ў цябе, як заўсёды, свае адметныя задумкі ёсць?

— Ніякіх палётаў! Прозвішчы свяціць не будзем. Паедзем сціпла — цягніком, і маім любімым плацкартам. Выйдзем, так бы мовіць, у сэнсе — увойдзем, у народ. Калі праваднiца мае ў вагоне дзесяць пасажыраў — гэта адно, а калі да паўсотні і пяцёра зайцоў — іншае. Паспрабуй запомніць кожнага.

Праз некалькі гадзін мы выйшлі з дому і пазванілі Лене з галоўпаштамта: лішні раз кватэрны тэлефон засвечваць не варта было.

У далёкім Ніжнім Тагіле трубку не падымалі. Не паднялі яе і за пятнаццаць хвілін да адпраўлення цягніка, калі я званіў з вакзальнага перагаворнага пункта.

Двое шукальнікаў прыгод, а больш правільна — праблем на сваю галаву, як і калісьці, таксама днём сышлі на станцыі цікавага, як яны цяпер гаварылі, горада. У цягніку іх моцна прымарыла, і зараз абодвум каштавала немалых намаганняў заставацца пільнымі, адсочваць сітуацыю.

Крочачы разам з масамі да аўтобуса (таксі тут, як ужо ведаем, толькі асабліва шустрых дэбютантаў-самагубцаў возіць), яны ўбачылі непадалёк знаёмага жартаўніка. Той актыўна размахваў рукамі і штосьці гаварыў-тлумачыў чарговаму кліенту-смяротніку наконт люкса і гэтак далей.

Відаць, ён пераканаў новага госця горада, бо той махнуў рукой і сеў у машыну, што павінна была павезці яго ў апошні шлях, гэта значыць у госці да Зуба.

Кемны (гэтак Жэнька цяпер называў таксіста-залатазубіка) завёў катафалк, міргнуў фарамі, і двое новых знаёмых паехалі — у адной машыне, але ў супрацьлеглых жыццёвых кірунках.

— Ты пабач, — прыпыніўшыся, павярнуўся да мяне Жэнька, — а жартаўнік — па сумяшчальніцтве яшчэ і сігнальшчык. Святлом знакі падае. Мінулым разам праваронілі.

— Наводчык, — пагадзіўся я. — А ты думаў, у госці да «адзідасніка» мы проста так трапілі? Не, дружа, выпадковасці і недарэчнасці могуць быць толькі ў сумленных людзей, а ў Зуба ўсё паводле плана. Адпрацавана. Далёка, адчуваю, спартсмен пойдзе. Мянты — ягоныя. Сарокі-таксісты — ягоныя. Рэстаран-маліна — ягоны. Зброя ёсць. Поўны камплект для хроснага бацькі-пачаткоўца. Але тут я на месцы Зуба памятаў бы і іншае: хросных час ад часу адстрэльваюць…



На плошчы перад аўтавакзалам стаялі пяць «Ікарусаў», здавалася, апошні раз мытых гадоў дзесяць назад — якраз перад адпраўкай з Венгрыі ў Саюз непарушны рэспублік свабодных. Мы падыходзілі да аўтобусаў, і час было прыкінуць, у які сядаць. Жэня вырашыў лёс не выпрабоўваць і спытаў у касіркі, «як даехаць да Алтайскай». Пенсійнага ўзросту, але яшчэ напарфумленая жанчына ўбачыла, напэўна, у Жэньку штосьці ад свайго крэўнага сына і дарогу «да сястры» растлумачыла вельмі даходліва. Ехаць па мясцовых мерках было зусім нядоўга — хвілін дваццаць.

Неўзабаве мы знайшлі свой аўтобус, але дружна прамінулі яго і запыніліся ля суседняга. Пачынаў дзейнічаць сціплы план пад «шпіёнскай» назваю — антыперахват. «Увага і яшчэ раз увага», — казалі мы перад ад’ездам. Асцярожнасць плюс розум і мінімалізацыя рызыкі — зарука поспеху. Зрэшты, хто не рызыкуе, той есць гуляш у заводскай сталоўцы за трыццаць сем капеек і мае шанец атруціцца не меншы, чым мы — патрапіць у лапы да Зубавых памагатых.

Калі ў перапоўнены аўтобус сеў кіроўца, мы зразумелі: пара — і ўскочылі ў пярэднія дзверы, калі яны ўжо зачыняліся. Азірнуўшыся, я пабачыў, што ніхто не спрабаваў зрабіць тое самае. «Нічога, — сказаў сабе, — перастрахавацца ніколі не шкодзіць, асабліва зараз. Ці тыя, хто павінны былі сустрэць нас, ужо селі?» — пачаў вышукваць воўчыя позіркі. Агледзеўся: не, здаецца, такіх няма.

Ехаць давялося стоячы. Нядоўгія дваццаць хвілін расцягнуліся на добрыя пяцьдзесят. Але скончыліся і яны. Трохметровым скачком нам удалося пакінуць агульнадаступны сродак перамяшчэння і не

трапіць у лужыну, сярод якой ён спыніўся. Зрэшты, у хуткім часе мы пераканаліся, што лужына разлілася на ўсю Алтайскую вуліцу.

— Нічога, — падбадзёрваў мяне напарнік, — затое сабакі след не возьмуць.

Прызямліўшыся ўвогуле ўдала (у гразь амаль не запэцкаліся), мы агледзелі навакольныя дамы: ледзь не ўсе «панелькі» былі новыя і аднолькавыя (як у першы прыезд гэтага не заўважылі — забіць мала) і, само сабою — «с легким паром», так сказаць, — блізняты як на падбор, прытым інкогніта — без нумароў.

— І добра, што дамы не распісаны, — культурны, значыць, народ жыве, — бадзёра зазначыў Жэнька. І абгрунтаваў: — Правільна, кажу, што лічбачак не відаць, язык на тое і дадзены, каб да Кіева давесці.

Але вось тут разумнік занадта разгаварыўся. Абарыгены, якія разам з намі вываліліся з аўтобуса, умомант раствaрыліся, а новыя вылазіць чамусьці не спяшаліся. Ну ды неяк разбяромся…

Разбірацца давялося гадзіны дзве. Нарэшце мы пазванілі ў дзверы кватэры, гаспадыня якой ужо тры дні не адказвала на званкі з розных пунктаў адной шостай часткі нашай планеты. Не адказала яна і цяпер. Што ж, працуем далей згодна з планам. Едзем да самай шустрай і, можа быць, пакуль адзінай у горадзе ўладальніцы вельмі дэфіцытнай купюры з партрэтам дзядзькі Франкліна. Балазе, адрасок у нас быў.

Пра свой візіт мы, само сабою, Людачку не папярэдзілі: раптам красуня захоча пашукаць шчасця на другім беразе. І таму, адчыніўшы дзверы, наша выратавальніца вачам сваім не паверыла. «Гэта ж



трэба, бегункі, аказваецца, зусім ашалелі, — думала, напэўна, яе светлая галовачка, — без запрашэння на пагібель вярнуліся. Адчайныя хлопчыкі...»

— Прывітанне самаму дарагому і любімаму ў дзівосным горадзе мар чалавеку! — грымнуў Жэнька. Малайцом, аднак жа, паказаў сябе.

— А-а, хлопчыкі! Жывыя! Я так і знала, што вы тады ўцяклі ад пацаноў, надта ж ужо Зуб шалеў, калі вярнуўся. Як заведзены гойсаў па зале. Перажываў страшэнна. Глядзець было жаласна. Давялося яго пашкадаваць, адвесці ад думак горкіх і небяспечных. А што было рабіць? Ён жа мог разборкі ўчыніць. Пачаць высвятляць, як вы з рэстаранчыка зніклі. Вось і адцягнула Зубаву ўвагу, улагодзіла родненькага. Так што за вамі цяпер даўжок.

— Даўгі мы заўсёды вярнуць рады, ды высвятляць іх памеры на лесвічнай пляцоўцы не хацелася б, — перапыніў прыгажуню-афіцыянтачку нахабны Жэнька.

— Ой, і праўда, праходзьце, распранайцеся, — ачомалася нарэшце Люда. — Зараз гарбату пастаўлю. Ці ў вас каве аддаюць перавагу? І гэты негрыцянскі напой у калекцыі ёсць.

— Паслухай, — зноў наструніў гаспадыню смяльчак Жэнька, — чай-каву пасля будзем піць. І не толькі чай. Цяпер жа хацелася б іншым заняцца — сёе-тое табе распавесці. Расказаць пра нашыя планы. І галоўнае, каб ты ўсё запомніла, не памылілася пасля, бо мы з гэтай хвіліны пераходзім у стан мінёраў на аб'екце.

Пра планы Людзе расказалі падрабязна і дакладна. Каб усё правільна зразумела і не паднесла сюрпрызу. План смелай дзяўчыне спадабаўся, асабліва апошняя яго частка — разліковая: Людачка

магла стаць уладальніцай дзесяці «франклінаў», а гэта ўжо штосьці нават для чалавека са свабоднага свету, а ў тутэйшым жа балоце на такія грошы можна было і кватэрку прыкупіць…

Гадзіны праз паўтары з кабінета дырэктара люкс-рэстарана мы спакойненька назіралі, як мянты-чарнасоценцы, не набліжаючыся да параднага ўваходу, прыкурвалі адну цыгарэту ад другой. Заўважылі, што рукі ў хлопцаў свярбяць, і свярбяць даўно. Яны ўсё часцей пазіралі на вокны рэстарана і на свайго галоўнага. А той — на Зуба.

Пачуліся стрэлы. Галоўны мент імгненна павярнуўся да «адзідасніка», але Зуб паказваць зубы не спяшаўся. Малайчына, хлопча, так трымаць! Адмыслова мянтоў выдрэсіраваў. Талент! Дураў, а не Зуб!

Але тут быў пададзены божы — для мянтоў — знак, і «брыгада хуткай дапамогі» рынулася ратаваць тых, што патаналі ў крыві. Як і мінулым разам, усё было скончана хвілін за дзесяць-пятнаццаць. Удзельнікаў халяўнага банкету пагрузілі ў знаёмы закратаваны аўтобус-турму. Падумалася: «У іх, напэўна, і свае рэкардсмены ёсць. Цікава, які рэкорд наведвання-катання ў каталажцы з кратамі?»

Люда, як і дамовіліся, пастукала тры-два-тры разы, потым зноў. Жэнька да дзвярэй пайшоў, але адчыняць не стаў, аўтаматам спытаў:

— Хто?

— Я гэта, Люда, не бойцеся.

Кампаньён прыняў выгляд самца на распеве і, адчыніўшы фанерку-заслонку, ганарыста прамовіў:

— Прашу!

«Фраер!» — канстатаваў я ў думках.



«Дело было к вечеру», але працяг вершыка складваўся іншы — прынамсі, гэтак мы зразумелі словы завербаванай намі, чужой сярод сваіх Людачкі. Уляцеўшы ў кабінет, яна спехам выклала:

— Дзень на дзень не выпадае, але сёння, здаецца, ён наш. Зуб падчапіў тут аднаго з заезджых. Ванька-таксіст, Зубаў пабрацімчык, яго прывёз. Спекуля ўжо апрацавалі і вось-вось павязуць да Зуба на фазэнду. Распытаюць пры свечках: што ды як, дзе і колькі. Я аднойчы прысутнічала пры такой гаворцы. Больш не хачу. А цяпер на развітанне скажу галоўнае: Зуб, калі вязе каго-небудзь да сябе, бярэ толькі двух гарылаў, так што, гэта хоць і невялікі, але шанец, другога ў бліжэйшы час не прадбачыцца. Карацей, думайце самі, — ужо не гаварыла, а спявала афіцыянтачка-хаўрусніца, — рашайце самі… (Якое сапрана прападае!)

— Што рашаць? Лёс усё за нас размеркаваў, карацей — па конях! — Жэнька відавочна браў ініцыятыву на сябе.

Яшчэ італьянская, «ад сваёй мамы», Людмілінага бацькі «капейка» па-паляўнічаму ўчэпіста ўзяла след новай «васьмёркі» «адзідасніка». Гонка на адлегласці доўжылася не больш за паўгадзіны, прайшла наўздзіў спакойна і скончылася паблізу непрыкметнага дамка з мансардамі. Плячыстыя хлопцы праводзілі госця ў дом, ні разу не азірнуўшыся. Дый навошта? Яны былі вельмі далёкія ад рэальнасці: прыкідвалі, колькі каму перападзе пасля боса.

Карцела зазірнуць на агеньчык і нам, але пасля невялікай перапалкі калегіяльна-мужна вырашылі заставацца на месцы. Для нас яшчэ не надышоў той самы вечар.

А ў падвальчыку-спартзальчыку дамка з мансардамі ішла чарговая серыя фільма жахаў — «месца сустрэчы вызначылася акурат апоўдні» (сцэнарый яго ўявіць няцяжка).

Зуб глядзеў на прывязанага да батарэі няўдачлівага аматара падарожжаў і ціха, але ўцямна, натхнёна (не дарэмна — як пасля высветлілася — тры курсы Шчукінскага адолеў) гаварыў:

— Ох і малайчына ж ты, спякульчык наш ненаглядны, любімы, залаты, цудоўненькі! Разумненькі ты наш і багаценькі Бураціна! І што ж цябе, чубка такога кучаравага, занесла ў нашы мясціны таежныя? Няўжо гэтак капустачкі захацелася? І навошта галоўка разумная падштурхнула на дарожку слізкую? Ну што ж, паможам пакутнічку, пазбавім цябе ад хваробы грашовай, астудзім галоўку гарачую. Сідар, акуні, зрабі ласку, нашага друга ў вадзічку. Акуратненька мачні, без гвалту. Як ты ўмееш…

Сідор-памідор (гэта я па фэйсе ягоным праязджаюся) адчапіў бедачыну ад батарэі, за чупрыну павалок асвяжыцца да бочкі з вадой, што стаяла непадалёку. Пасля трэцяга нырца госць датумкаў, што ў гэтым падвальчыку, зусім не вінным, квіткоў на жыццё не выдаюць і абарыгены могуць дажартавацца з ім да самага што ні ёсць скону. Хлопец вырашыў: час ратаваць цела, а не грошы, але сівая брудная карга ўжо прыкмеціла яго на тым, не гэтым беразе.

Праз гадзіну Зуб высветліў не толькі код ячэйкі ў камеры захоўвання, дзе ляжала сумачка з пасагам, але й той факт, што пульс у гастралёра больш не прамацваецца. «Шкада», — хацеў быў сказаць па дабраце сваёй душэўнай, але, сутыкнуўшыся з по-



зіркам звар’яцелых ад перадсмяротнага ціку вачэй, прамаўчаў.

Нервы ў Жэнькі на паверку аказаліся слабейшыя за мае, і неўтаймоўнай Людачцы ўсё часцей даводзілася забаўляць сябра-праведніка апошнімі мясцовымі ньюсамі.

Я ўжо і сам быў досыць узвінчаны, калі нарэшце запаветная рулетачка-брамка расчынілася і бравая група амаральнага ўздзеяння, гучна выказваючыся на чынгісханскай, пайшла да машыны.

Завялася «васьмёрачка», бы той гадзіннічак, што зараз цікаў пад яе бензабакам. Люда тонка заўважыла і нашу ўвагу звярнула на тое, што ў тутэйшых краях, па зімовай звычцы, новыя машыны і ўлетку трохі праграюць. Шамацела на месцы ўжо хвіліну і гэтая. На такі якраз час Жэнька, дэбютант-падрыўнік, і навёў у пякельнай машыне будзільнічак.

Выбух атрымаўся такой моцы (прыгадаліся словы ўмельца-піратэхніка: «За гэтую штучку спрачацца аб цане не варта. Яна канкрэтна праблемы вырашае») і аглушыў і асляпіў нас так, што ў першае імгненне здалося, быццам падарвалася акурат наша бедная «капеечка». І толькі пабачыўшы, як цела «адзідасніка» разам з прыліплымі да яго заднімі дзверцамі ляціць-вяртаецца да брамкі (Во лёс! А толькі што героем быў!), у нас адкрылася другое дыханне.

Паволі, ледзь шоргаючы шынамі, шэрая «капеечка» пачыкільгала ў бок чыгуначнага вакзала. Да адпраўлення цягніка «Ніжні Тагіл — Масква» заставалася больш як дзве гадзіны, і спяшацца не было куды.

— Саша? — пачуў я жаночы голас у трубцы і, пазнаўшы яго, падскочыў ад радасці:

— Лена, гэта ты, прапаўшая грамата?

— Я, хто ж яшчэ. Але ты не хвалюйся і не сварыся. Зараз усё растлумачу. Толькі не крычы, дай слова сказаць. Пасля таго, як ты зноў патэлефанаваў, я зусім змучылася. Увесь час прыгадвала тую ноч. Вы сядзелі, спрачаліся, жартавалі. Як Мікола быў рады, што вы аб'явіліся! Якія планы грандыёзныя складаў! Тая ноч бясконца пракручвалася перад вачыма. І я паціху вар'яцела. Баялася, што дзеці адны застануцца. Калі зрабілася зусім няўсцерп, сабрала Тамарку, Уладзіка і паехала да мамы. Там мы прабылі два тыдні. Мама ёсць мама. Хадзіла за мною, супакойвала, настаўляла. І адчай паступова прайшоў. А сёння раніцаю мы вярнуліся дадому. Заходзім, і амаль адразу ж — званок. Падбягаю, бяру трубку. Уся калачуся, Міколу ўспомніла. Ледзь выціснула з сябе «алё». Чую голас: «Гэта следчы Дангулаў. Мы вырашылі, што неабходна яшчэ раз сустрэцца з вамі. Тры дні назад невядомыя падарвалі машыну вельмі паважанага ў горадзе чалавека. Магчыма, тыя ж бандыты, якія забілі вашага мужа». Ты ўяўляеш, Саша? Паважанага чалавека! Га-а? Як табе? Цікава толькі, хто ж гэтую гніду кончыў? Помнік такім бандытам ставіць трэба! Саша, ты хоць чуеш мяне?

— Так-так, — супакоіў я Лену, — чую: помнік бандытам.

А сам сабе падумаў: «Вось прыбярэш з дарогі такую погань, і адразу ўвекавечыць цябе гатовы. Давядзецца, відаць, усё ж мяняць прафесію».

## Касіў Ясь

1994 год. Глыбокая восень. Пражэктары слізгаюць па бетонных скалах недабудаванага аэрапорта «Мінск-2». Злева ад забытай людзьмі і Богам пабудовы стаілася аграмадная «жоўтая чарапаха» — ангар-склад, пераабсталяваны пад залу чакання, сектары прылёту і адлёту, міліцыю, мытню, білетныя касы, багажню, бар, туалеты і іншае. За чарапахаю — лётнае поле. На ім танцуем мы, «эміратчыкі». Чакаем, дрыжым, сінеем. Пранізлівы холад, шалёны вецер, слепяць камякі снегу. Не Мінск, а поўнач Аляскі (а што, і там бывалі!). Чакаем.

Нарэшце з завірухі-туману выплывае бела-серабрысты — абледзянелы, — бы здань, «Ікарус». Ускокваем, спатыкаемся, падаем, смяемся. Пад'язджаем да роднага «ТУ-134». Узбягаем-рассаджваемся з хуткасцю гуку. Радуемся першай супакойлівай ластаўцы: «Пасажыры, прышпіліце рамяні, калі ласка». Цяплее.

Разганяемся. Узлятаем. Мы — у небе! Цяпер *ім* нас не дастаць! Ура! Свабода! Нал-лівай!

— Э, дзелавыя, у каго мая «капуста»? — успырхваюць з некалькіх месцаў неспакойныя галасы.

— Тэпайце сюды, хлопчыкі, — самавіта азываецца Юрык Сачкін па прозвішчы Банкір з хваста самалёта. — І кілішачак дзядзьку не забудзьце наліць, — распачынае, пасміхаючыся, пачак цыгарэт «Davidoff».

*

— Касіў Ясь канюшыну! Касіў Ясь канюшыну! — не спяваў — гарлапаніў я праз гадзіну пасля ўзлёту.

— Ка-асіў Ясь канюшыну, паглядаў на дзяўчыну! — перабіваў мой віскат, падскокваючы каля ілюмінатара, Сяргей Ласавец. Быццам сапраўдны дырыжор, махаў-памагаў сабе рукамі. У немалой ступені ён ім і быў. План, куды і па што крутануцца, пры гэтым не застацца дурнем і не быць падвешаным за ногі ў выніку нерэнтабельнага выкарыстання чужых фінансаў, спеў і выспеў у яго светлай галаве.

Мытня! Атас! Мы прайшлі мытню! Прарваліся! Прадзерліся! Прабіліся! Налівай!

— А дзяўчына жыта жала... — узняў Сяргей аэрафлотаўскую шкляначку з «Абсалютам». — А дзяўчына жыта жала! А-а дзяўчына жыта жала... — чокнуўся са мною, — ды на Яся паглядала!

Сяргей рызыкаваў меней, але пры абломе застаўся б без галавы і ён. Мяне ж у выпадку залёту жыўцом падсмажылі б. Ён вёз пяцьдзесят шэсць, а я — дзевяноста дзве тысячы тых самых, зялёных (як-ніяк за траіх трымаў адказ).

Мытня! Мытня! Мытня!

Грошыкі! Грошыкі! Грошыкі!

Дзе? Дзе? Дзе?

Няма-а-а!!!

*

— Здымі абутак, — ці то загадаў, ці то параіў мне шчанюк з парай зорачак на пагонах. — Цяпер — шкарпэткі. Не бянтэжся, ты ж не дзеўка-цнатліўка. А можа, паразумнееш і сам раскажаш, куды бабкі схаваў? Тады хоць і не паляціш разам з усімі, затое пры сваіх застанешся.



«“Пры сваіх” — гэта не да нас, — сам сабе пасміхнуўся я. — “Пры сваіх” мы ўжо праходзілі, даволі ў жабрацтве сліны наглыталіся».

Шчанюку адказаў:

— Вы нібыта панібрацкія янкі: усё «ты» і «ты». У чым прызнавацца, калі няма ў чым?

Гаварыў даверліва і спакойна. А ў душы ўсё спявала: на пакет з прадуктамі, што стаяў перад «тэлевізарам», хлопец не звярнуў ніякай — нуль! — увагі. Не ўсёк, тупіца! А ў ім і была ўся соль. Праверылі, да прыкладу, твае сумкі-чамаданчыкі, махнулі: «Праходзь!». Ты і пайшоў. Толькі пакецік з хатняю каўбаскаю падхапіў і пайшоў. А рэчы — хэ-э! — няхай глядзяць-шнырараць. Работа такая — у чужых рэчах корпацца. Трасі чаўнака-зажору. Вось і гэты ўбачыў з паўгадзіны назад, што ў маёй пары сумак чыста, і датумкаў: «Пры сабе, відаць, разумнік трымае баксікі». Замітусіўся: «Пройдзем». І — дарэмна бурбалкі пусціў. Яму б, стратэгу зоркаму, пачакаць, пакуль я запаветны пакецік у рукі вазьму і ўжо з ім патэпаю. А так, даруйце-выбачайце — пралёт. Пакет у зону дагляду не трапіў: яго Сяргей, які стаяў на падстрахоўцы, нагою да сябе падсунуў. Адрэпетыравана!

— Дарэмна, дальбог, час марнуеце, — адагнаў я набеглае было хваляванне (а калі Сяргей не падсунуў?). — Раптам у гэты самы момант сапраўдныя кантрабандысты праз вашы парадзелыя кардоны прабіраюцца?

— Ты чуў? — павярнуўся малады мытнік да такога ж, як сам, сабрата-навабранца. — Парады дае, жыць вучыць, здзекуецца. Абарзеў! Відаць, да практолагаў нераўнадушны, хоча, каб да яго ў адно месца залезлі.

«Хоць і незвычайна нахабныя, але зяленіва поўнае, — спакайней затахкала маё сэрца. — Ці ж у гэтае месца можна амаль сотню саўзэндз[1] запіхнуць? Парвецца месца, па швах разыдзецца, ні ў адной бальніцы не выратуюць».

— Да дактароў, і праўда, неабыякавы, век бы іх не бачыць, — цягнуў час. — А стараецеся вы, паўтараю, дарэмна! Як на споведзі кажу: пры сабе толькі пяцьсот дазволеных для правозу без дэкларацыі даляраў, нават менш — сёе-тое ўжо ў бары пакінуў.

— Спявай песеньку, чаўнок, спявай, усё роўна не пабачыш рай, — не суніма́ліся ўчэпістыя хлопцы. — Не хочаш прызнавацца — воля твая. Выклічам хлопца ў белым халаце. Сам на медагляд напрасіўся.

«Так і ёсць, звыш усякай меры борздыя, — засмуціўся за іх, не за сябе. — Падобных наездчыкаў яшчэ не сустракаў. Што ж, хлопцы, з вамі далей будзе? Гэтак можна і да старасці не дажыць. Высмыкнеце, ачысціце якога нервовага, каму губляць няма чаго, ён вас і прышые — грошы ж не абыякія круцяцца. Сустрэне калі-небудзь вас ля пад’езда… Зрэшты, гэта не мая гісторыя… А што ж у нас? Напалохалі мытнікі хлопца — добра, такая ўжо ў іх работа, але ж час і адпускаць. Дурню зразумела: пасажыр не торгаецца, спакойны, а таму наўрад ці бабкі пры сабе заціснуў».

— Так, хлопчыкі, зніклі! — уваліўся нарэшце ў «катоўню» Ігар. («Фу-у!» — здрадліва вырвалася ў мяне.) — З гэтым хітруганам я сам разбяруся.

— Мы тут, Ігар Мікалаевіч, яго амаль раскруцілі. Можа…

[1] Ад англ. *thousands* — тысячы.



— Не можа. І круціць будзеце дзяўчатам галовы або сабе вусы, як вырастуць, а кантрабандыстаў выяўляюць. І давайце-давайце, ідзіце да стоек. Шэфу толькі што зверху тэлефанавалі: рэйс ані ў якім выпадку не затрымліваць. Гэтым самалётам сын старшыні саўміна ў вясельнае падарожжа ляціць. Папярэдзілі: каб ніякіх эксцэсаў! А тут я сам разбяруся.

Учэпістыя хлопчыкі панура сышлі, і Ігар падышоў да мяне. Самы раз было выпусціць пару:

— Малайчына! Дзе цябе носіць? Я ледзь на смаркачах не пагарэў! А каб салагі накінуліся на пакет з ежаю?

— Не крычы, тут як-ніяк я начальнік. З пакетам усё нармальна: Сяргей яго падхапіў — не разгубіўся. Сам бачыў. А спазніўся з-за мымры сваёй. У яе сёння дзень нараджэння, вось дуня і вырашыла ўразіць гасцей небывалаю — пад нейкую галівудскую зорку — прычоскаю. Раніцай пабегла ў цырульню. Сказала — на гадзінку-паўтары, а з'явілася праз тры. Забіць мала. Пасля імчаў сто шэсцьдзесят, ледзь машыну і сябе не ўгрохаў — ты ж папярэдзіў, колькі гэтай ходкаю грошай бярэш. Жах! Я і Вадзіму званіў, каб падстрахаваў цябе, калі не паспею даехаць. Дык ён узяў і захварэў. Ну, думаю, хана! Але ўсё, дзякуй Богу, абышлося. Хоць — не зусім. На двух у шэрых плашчах, быццам прыкутых да стоек, звярнуў увагу? Нашы хлопцы, гэбэшныя. З рэвалюцыі той ніяк не супакояцца. Шныпараць, вышукваюць, хто ад лапаў дзяржавы пару капейчын спрабуе ўтаіць. І няма ім, няўрымслівым, спакою. Між іншым, работа ў іх такая — сабачая… Пяройдзем да нашых, чалавечых пытанняў. Ты зараз для канспірацыі паспрабуй хоць фэйс крыху скрывіць.

Уяві, да прыкладу, нібыта табе па галаве дубінкаю мянтоўскай урэзалі. Тады, калі гэтыя ў твой бок кінуць вокам, падумаюць, што мы цябе ўжо вычысцілі, і наноў душыць не палезуць. Пакажы твар. Тое, што трэба! Проста артыст! Але — не мітусіся без прычыны, усё будзе нармальна. Ідзі з Богам!

Двое на мяне нават не зірнулі: былі занятыя іншымі кліентамі, больш дакладна — кліенткай. Адна наша (з новенькіх) нафарбавалася пад ляльку Барбі, прыбралася, як валютная прастытутка ў начны рэстаран, і ганарліва падплыла да стойкі. Яўна разлічвала сваёй абаяльнасцю непрабіўных «двухзорачнікаў» улажыць. А ўлажылі — яе. Дурніца схавала ў касметычцы пяцёрку тысяч «лішніх грошай» і ў спешцы забылася — пакінула яе ў сумцы з адзеннем. А тую, вядома ж, прасвятлілі і засеклі вузельчык патаемны.

Зіркаты мытнік, атрымаўшы адступнога, хутчэй за ўсё адпусціў бы ляльку, ды вось няўдача: хлопцы ў плашчах умяшаліся (сына знатнага таварыша падстрахоўвалі, а тут трапіўся шанец вызначыцца). Цяпер усё пойдзе па поўнай праграме: спачатку будзе зададзена «вясёлае» пытанне: «Дык, значыць, дэкларацыйку запоўнілі, упісалі ўсё, што належыць». Потым пойдзе паўторны, ужо татальны шмон, за ім — складанне пратакола, канфіскацыя, а далей — як карта ляжа. Можа так легчы, што і да закратаванага неба дойдзе. Артыкул жа сур’ёзны: незаконны вываз замежнай валюты ў асабліва буйных памерах. Для нас — на жаль! — іншых артыкулаў няма. Мы ж ворагі дзяржавы! Адначасова і найлепшыя сябры масаў. Паспрабуй купі танней! Але ж цана гэтаму «танней» часам бывае непамерна высокай…



Шкада, да болю ў сэрцы шкада было Барбі, але пры мытным даглядзе ёсць няпісаны закон, правіла, умова: кожны — сам за сябе. Жыццё так завязала-абавязала. Былі выпадкі, сёй-той расслабляўся, спрабаваў падаць руку тапельцу, вырваць сябра з ваўчынай пашчы. У выніку цярпеў поўнае фіяска: «залятаў» сам і нярэдка яшчэ каго-небудзь пад разборку ўцягваў. А вы ведаеце, што такое трапіць пад разборку? Гэта — быццам у цябе адрэзалі частку цела, скажам — нагу. Нават, бадай, горш. Бо жывуць і без ног, а вось пасля разборак хто-кольвек гэты свет пакідае.

Памятаю, як білася галавою аб падлогу, галасіла і стагнала такая ж самая, як і гэтая злоўленая Барбі, размаляваная прыгожая дзеўчынёха. (Як трагічна падобны некаторыя лёсы!) З эканоміі не «купіла» дэкларацыю на права вывазу валюты і, у дадатак, у спешцы лішнія купюркі схавала так, што нават салагі знайшлі іх за некалькі хвілін. А грошай амерыканскіх аказалася нямала: хацела зарабіць не толькі на хлеб з маслам, але і гардэробчык абнавіць. Вось і абнавіла. Апошняе страціла. Абчысцілі галубачку да ніткі…

А Барбі «плашчы» падхапілі і, нібы тэрарыстку, павалаклі «за кулісы».

Як яна залівалася слязьмі, вырывалася, маліла, прасіла! Знаёмая тут сцэна, нярэдкая. Але мытня, як і Масква, слязам не верыць. Я ведаў, што дома ў Барбі засталіся маці-пенсіянерка і двое хлопчыкаў, ведаў, што ў кожны прыезд дзецям уручаліся падарункі, і разумеў: гэтым разам не дачакацца ім стракатых пакетаў з цацкамі. Можа быць, не прыедзе і мамка, доўга не прыедзе. Але што я мог зрабіць? «Заляцелай» красуні ўжо нічым не паможаш. Ша-

калы ўчапіліся ў яе моцна. Дзеля чарговай зорачкі яны і роднага брата на часткі разарвуць. А мяне дома таксама чакаюць двое малых…

Задушыўшы ў сабе «небяспечны на вынікі» ў дадзенай сітуацыі жаль, я накіраваўся ў залу чакання, у якой толькі й было, што некалькі радоў былых кінатэатраўскіх крэслаў. Мой ды Сяргея пакеты з ежаю аб’ядналіся ў адзін, ён ляжаў цяпер між намі. Выклічуць на пераправерку Сяргея — ён возьме толькі сваю сумку. А пакет чый? Пакет — не яго. Паклічуць паўторна мяне, прыхаплю толькі свой баульчык: пакет — не мой. Нават прайшоўшы мытню, расслабляцца не спяшайцеся: вас могуць высмыкнуць з залы чакання. (Нярэдка гэта робяць прадстаўнікі іншай службы, пры ўпамінанні пра якую і самаму смеламу мытніку хочацца кульнуць чарку.) Яны ўсё могуць, але не ўсё ведаюць, а тыя, што ведаюць, — маўчаць. За тое, каб знаўцы «не ведалі», даводзіцца ўключаць іх апетыты-веды ў сабекошт тавару.

«Інфармацыя — гэта грошы», — думаюць некаторыя.

«Інфармацыя — гэта болей чым грошы», — сцвярджаюць знаўцы.

«Інфармацыя — гэта ўсё!» — кажуць багатыя.

«Інфармацыя — гэта жыццё!» — кажу я.

«Інфармацыя — гэта добрае жыццё!» — ведаюць абраныя.

*

— Ці ты Ясь, ці ты не… — матляў галавою ап’янелы Сяргей.

— Ці ты Ясь, ці ты не-е, — абагнала і пераспявала яго Ліля, — спадабаўся ты мне!



На час «гастроляў» Ліля рабілася Сяргеевай жонкаю. Збліжаліся яны адразу пасля ўзлёту; развіталіся — за хвіліну да пасадкі на роднай зямлі.

А дома ў Лілі быў муж — заводскі інжынер-рабацяга, які цягнуў на худых пракураных плячах усё КБ, але не выцягваў і траціны рэальнага сямейнага пражытачнага мінімуму. Ён жыў звычайным шэрым даперабудовачным савецкім жыццём і чыстасардэчна верыў: менавіта яго стараннямі ў сям'і ўсе апранутыя, абутыя, не галодныя, а ў выхадныя ўмінаюць апельсіны і бананы. Ліля з ім не спрачалася, ніколі нічога не тлумачыла і нават па-свойму кахала. Але ў паездках адрывалася ад нудных будняў, дазваляла сабе развеяцца. Не супраць быў адпачыць ад жонкі-выхавацелькі («Ох, і заляціш ты калі-небудзь з поўнай канфіскацыяй!») і Сяргей. Вось такая «сямейная пара», даволі тыповая для «эміратчыкаў».

Дзіўна, як абое яны мяняліся, калі вярталіся ў Мінск і сыходзілі з трапа самалёта. Уражанне было такое, што гэтыя двое не толькі не ведаюць адно аднаго, але і псіхалагічна несумяшчальныя. Сяргей — вечна расхлістаны, шумлівы; Ліля — сама сабранасць, акуратнасць, строгасць, спакой. Фліpт фліртам, а сем'ямі «эміратчыкі» даражылі.

*

Пабудзіла нас сцюардэса, як заўсёды, загадзя. Беспрабудных, наклюканых — шмат, а яны з сяброўкаю — удзвюх; пакуль усіх раскатурхаюць…

Усё ж голас у яе быў нязвыкла рэзкі, але спрасонку я не надаў гэтаму значэння. Пазней, у гатэлі, пачуў: селі мы толькі з трэцяга заходу. Я не здзі-

віўся. «ТУ», адматаўшы два тэрміны, вядома ж, стаміўся цягаць нас па белым свеце і, здаецца, вырашыў паставіць крыж на сваіх катаржных пакутах. Двойчы, заходзячы на пасадку, ён не выпускаў шасі. Але за трэцім разам стары злітаваўся, пашкадаваў бедалагаў-чаўнакоў. І нават досыць мякка, нібы просячы прабачэння, прызямліўся.

«Сабрацца!» — загадаў я сабе, як, відаць, і ўсе, спускаючыся па трапе. Нас чакала новая небяспека — арабы. Гэтыя хлопцы амаль непрадказальныя. Хоць мытня ў Дубаі нулявая (максімум, што забяруць, дык гэта лішнюю гарэлку), затое ў іншых адносінах… Прагледзеўшы пашпарт, возьмуць і заедуць ні з пушчы ні з поля проста пад дых: «No!». No — і ўсё! Накаўт! Тлумач, даводзь, крычы, скардзіся, млей — «No!» І кожны з нас, аддаючы дакументы, высільваўся на ўсмешку, на ўпэўненасць: «Усё о’кэй, ніякіх “No!”».

Аднак «No!» прагучала і гэтым разам. На адрас Лёвы.

О Божа, ці ёсць Ты на свеце?! Я вытрымаў бы такі ўдар, Сяргей — таксама, Ліля не здалася б, ды і іншыя, відаць. Толькі не Лёва. Ён быў сумленным хлопцам, чаўнаком-аратаем, але — бесталковым, нікуды не вартым рахункаводам і ўжо даўно заблытаўся ў сваёй бухгалтэрыі: што выгадна вазіць, а з чым «пападалава», дзе плюсы, а дзе мінусы. Ён лётаў, закупляўся, працаваў, а хмары згушчаліся. І чым болей Лёва лётаў, чым болей накупляў, тым болей дадавалася блытаніны з грашыма і таварам, тым часцей ён мусіў рызыкаваць, «біць па-банку», набываць новы, не правераны на прадавальнасць тавар (пры гэтым абавязкова трэба ўпісацца ў адпускную цану, меншую за магазінную ў паўтара-два



разы), тым глыбей залазіў у пазыковую яму. І цяпер яму сказалі: «No!». Ціха, забойча, непахісна. Як дубінкаю па нырках.

Гэтым разам, праўда, удалося яго ўратаваць. Я забраў у Лёвы грошы і спіс з заказамі. Мы абняліся, развіталіся, і ён пацёгся ў бар глушыць горкую і чакаць зваротнага рэйса. (Сяргей уручыў яму пакет з белай, замаскаванай пад мінералку: у Арабскіх Эміратах «сухі закон».)

Лёве не пашанцавала толькі з уездам. Некаторым жа…

Быў у мяне сябар — Віктар. Куды пазней за падзеі, якія тут апісваюцца, калі ўжо практычна не было сэнсу купляць тавар у Эміратах і большасць пераключылася на іншыя краіны-кантыненты, ён працягваў лятаць у Дубаі па сімвалічныя дзвесце «зялёных» ды яшчэ і транзітам праз Маскву. Чаўночны бізнес у Эміратах для большасці быў не першым, чым яны заняліся ў перабудовачныя часы. Віктар жа спахапіўся позна і зволіўся з інстытута толькі ў пачатку дзевяностых. А тут яшчэ і ажаніўся. Неўзабаве нарадзілася дачка, і пайшло-паехала: ложачак, каляска, памперсы, зусім не таннае фінскае дзіцячае харчаванне, садавіна, сокі. Патрэба ў грашах расла з гнятлівай хуткасцю. І Віктар працягваў цягаць мяхі туды-сюды амаль задарма. Калісьці захапляўся культурызмам, і цягаць груз было не так ужо цяжка. Нават форму быццам падтрымліваў. Але сэрца…

З чарговай паездкі Віктар вяртаўся, цягнучы на сабе пяць аграмадных баулаў.

Да свайго дома Віктар падыходзіў ноччу. Стаялі лютаўскія маразы, а яго праймаў пот. Раптам адчуў боль у грудзях. «Нічога, — супакоіў сябе, — дайсці

да ліфта, а ад яго — два крокі». Але ліфт не працаваў, і два крокі абярнуліся ў сто пяцьдзесят чатыры. На сто пяцьдзесят пятым, перад самымі дзвярыма, Віктар упаў. Разляцеліся ў розныя бакі баулы. У адным разышлася маланка, і з выпнутай упакоўкі памперсаў усміхнулася вясёлая маленькая бландзіначка. Зусім як Віктарава дачушка.

Калі б ён змог дацягнуцца да званка! Калі б Люда, выглядаючы яго з акна, не адлучылася перапавіць (скончыліся няшчасныя памперсы) дачушку... Ды рвецца заўсёды там, дзе тонка. Так і абарвалося Віктарава жыццё.

Ён быў не першы з «эміратчыкаў», хто ахвяраваў сабою, каб у сям'і быў хоць нейкі дастатак. Не дачакаюцца хлопчыкі з бабуляю і прыгаданай вышэй Барбі — мамы і дачкі. За два месяцы да вызвалення з лагера яна загіне на будаўніцтве нікому не патрэбнага электразавода. Прыдушыць прыгажуню трохметровая пліта перакрыцця.

Усё гэта адбудзецца значна пазней, а цяпер...

Цяпер мы праходзілі дубайскую мытню. Як звычайна, пацярпелі аматары сэканоміць на «гаручым» (у Эміратах, нагадаю, яно прадаецца толькі ў спецмагазінах для белых і коштам ад дзесяці ўмоўных адзінак) і ўзяць у «паход» сваё. А ўвогуле ўсё прайшло спакойна.

Выходзілі з аэрапорта, нібыта з вайны вярнуліся. Нарэшце ззаду праверкі, вобыскі, гулкі грукат сэрцаў у грудзях. Наперадзе — свабода. Свет рабоў, іхніх гаспадароў і наш свет — тых, хто між імі.

Ішоў пераломны 1996-ы. Канец лістапада.

Мы выйшлі на плошчу перад аэрапортам «Дубаі» ў 12.34 па мясцовым часе (дарэчы, ён супадае з

 

нашым). Зіхоткі ў праменях сонца паралелепіпед вакзала, тлустае шакаладнае шкло вокнаў, шустрая накачаная абслуга з нястомным кваканнем: «What? What? What?»[1] — усё гэта крыху падымала настрой.

Горача не было: плюс дваццаць дзевяць.

Ад часу сустрэчы ў «жоўтай чарапасе» з двума салдатамі нябачнага фронту і сябрам з «групы падтрымкі» прайшло каля дванаццаці гадзін. Больш дакладна, два гады і дванаццаць гадзін жыцця-палёту над безданню. Нашага жыцця.

— Касіў Ясь канюшыну! — ажывала ў таксі за маёй спінаю Ліля. — Ка-асіў Ясь канюшыну…

— Паглядаў на дзяўчыну! — стараўся дагнаць яе Сяргей. Заадно ён крывіў твар, спрабуючы быць падобным да эмірацкага мытніка, які знайшоў у яго замест дзвюх бутэлек гарэлкі — восем.

— А дзяўчына жыта жала… — перайшлі раней часу на новы куплет, абганяючы «маладых» і мелодыю, мы з Банкірам. — А-а дзяўчына жыта жала ды на Яся паглядала!

Мы абганялі мелодыю, ды абагналі жыццё, правільней — праляцелі яго.

У бакавым акне таўстазадай «Хонды», якая везла нас у гатэль, я ўбачыў у разгоне родны «ТУ-134». Вось ён узляцеў і знік у небе.

— *See you soon!* — успамінаў я свабодную мову. — *Don't be nervous any more*[2].

---

[1] Што? Што? Што? (*англ.*)

[2] Да сустрэчы! Ты толькі болей не нервуйся (*англ.*).

## Інтуіцыя

Як растлумачыць прадчуванне бяды? Мажліва, ёсць толькі адно тлумачэнне: інтуіцыя — маладаследаваная і таму ці не звышнатуральная сіла, якая выяўляецца ў здольнасці чалавека прымаць рашэнні, часам лепшыя за лагічныя і ўсебакова абгрунтаваныя, і значыць — прадказваць будучыню.

Чалавек генетычна створаны на аптымізацыю сітуацыі. І калі мозг не атрымаў дастатковай інфармацыі і не можа разабрацца, што да чаго (здавалася, няма прычыны, а сэрца ные), і зрабіць нейкія высновы з узніклай сітуацыі, як апошняя інстанцыя абароны чалавека ў бой уступае яе вялікасць Інтуіцыя.

От і зараз. Мы толькі пад’язджалі да мяжы, а Юрык ужо трывожна застагнаў:

— Пячонкай адчуваю: на гэтай мытні не праскочым. Давай адразу на наступную. Мо там…

— Позна, Юрык, піць баржомі, — перапыніў я стогны напарніка. — Да шлагбаўма пад’язджаем. Калі зараз пад носам у пагранцоў развернемся, хлопцы, чаго добрага, і наўздагон кінуцца. Цяпер толькі наперад — за аднаго бітага двух нябітых даюць! Ды не газуй ты так, на мытні шуму не любяць…

Бедны Юрык! Першы раз з-за мяжы вяртаецца, і адразу не пустым.

«А як жа ў мяне ўсё пачыналася?» — паспрабаваў я напружыць памяць…



— Пашпарты, панове! — перабіў мае думкі польскі пагранічнік. Як заўсёды, ухмылка на ягоных вуснах спалучалася з нянавісцю ў вачах.

«І што ім яшчэ трэба? Памагаеш пшэкам жыць, памагаеш (гэтаму дай, таму заплаці, з тым разлічыся, хоць нічога не вінен), а ў адказ — адна няўдзячнасць».

Юрык забыў ад хвалявання, што пашпарты мы засунулі пад ягоны казырок ад сонца, кінуўся лапаць сябе па грудзях і бакавых кішэнях. Бачачы, што сітуацыя выходзіць з-пад кантролю, правай рукою я дастаў дакументы, а леваю даволі моцна штурхнуў Юрыка ў бок. Ён пакутліва скрывіўся, але калаціцца перастаў.

Падаўшы пашпарты пагранцу, я зразумеў, што той заўважыў Юрыкавы дрыжыкі, і паспрабаваў супакоіць паляка:

— Кіроўцы, на жаль, чамусьці мне не лепшыя заўсёды трапляюцца. Мінулым разам адзін разумнік ледзь машыну не разбіў, а гэты, — кіўнуў на Юрыка, — увогуле нейкі безгаловы аказаўся.

Паляк зразумеў, што ў машыне едзе бос з вадзіцелем, і страціў да нас цікавасць. Шафёра, асабліва навічка, ён яшчэ мог бы «апусціць» даляраў на дзесяць-дваццаць, а з босам такі нумар не пройдзе. У таго (гэта значыць у мяне) усё распісана: што, дзе, куды, каму, калі і, тым болей, — чаму, навошта і колькі.

Юрык нарэшце злавіў першую перадачу, і мы пакацілі да месца агляду.

Тут жа падскочыў пан нумар два і з ходу ўрэзаў Юрыку, які не паспеў яшчэ ачомацца, перастаць «прадаваць дрыжыкі»:

— О, дружа, самаход твой, здаецца, новы. На дагляд, дружа, на дагляд!

— Што яму трэба? — павярнуўся Юрык чамусьці да мяне. Бедалага ўжо не разумеў ні рускай, ні беларускай мовы.

— Замры! — стаміўся я ад торганняў свайго нявопытнага вадзіцеля. — Ні гуку! — Павярнуўся да пана паляка і дадаў: — Няма праблем. Адну хвілінку. — Адчыніўшы дзверцы, выйшаў з машыны. — Усё ў парадку, — падбадзёрваў заадно і сябе. — Вось тэхпашпарт, а вось і мае паперы.

Узяўшы дакументы, пагранічнік памахаў імі, нібы пагразіў мне пальцам:

— Ад вашых дакументаў залежыць, колькі гадзін, а мо і сутак вы тут пратырчыце (па-беларуску, як, мабыць, вы ўжо заўважылі, палякі яшчэ сяк-так гавораць).

«Не пратырчым», — спакойна вырашыў я, маючы на ўвазе, што нездарма ж клаў у пашпарт новенькую дзесятку.

Як і трэ было чакаць, хвілін праз пятнаццаць актыўны і прынцыповы адшуквальнік крадзеных машын аддаў дакументы, і мы рушылі на мытню.

Я ўсё ніяк не мог супакоіць спалоханага Юрыка і вырашыў уздзейнічаць на яго больш жорстка:

— Калі зараз жа не перастанеш калаціцца і пагранцы пачнуць капаць машыну, я цябе прыб'ю! Твае дурныя дрыжыкі зробяць нас жабракамі. Да цябе дайшло? Не? Нашы дзеці будуць галадаць. Твой Сярожка будзе га-ла-даць! Зразумеў? І таго вялізнага «Лега», што ты яму купіў, нават не пабачыць. Забяруць Сярожкаў канструктар. За даўгі забяруць.

Датумкаўшы ўрэшце, што сын не дачакаецца таго, пра што марыў увесь першы цяжкі школьны год — як сказала па тэлефоне жонка: «Не спіць і



ноччу — чакае гэтага чортавага “Лега”», — Юрык нарэшце ўзяў сябе ў рукі і ўжо амаль спакойна сказаў:

— Санёк, даруй. Нервы. Разумею: падстаўляю, але зрабіць з сабою нічога не магу. Страх паралізаваў...

— Добра, добра, галоўнае — супакойся, не таргайся. Тут і без цябе клопатаў хопіць.

Польскі мытнік нюхам пачуў здабычу і пакіраваў да нас. Ішоў паволі — вытрымліваў паўзу.

«Прашыты, — тут жа зразумеў я. — Такі крыві пап’е, о-го-го колькі пап’е. Пачне: “Дзе пан рахункі (чэкі, значыць) схаваў?”, а скончыць: “Ну, гэтага вывозіць няможна”».

Дзеля перастрахоўкі я дадаў да пакладзенай у пашпарт дзесяткі яшчэ адну і выйшаў насустрач паляку.

— Естэм бізнесмен, — ляпнуў далонню сябе па грудзях, — усё ведаю. Няма праблем. («Так ужо і няма», — мільганула ў свядомасці, але я хуценька прагнаў гэтую шкодную іронію.) Вось, калі ласка, дакумент.

— Давай, давай, паглядзім, ці добрыя ў цябе паперы.

Мытнік (як Юрык пасля палічыў: пан нумар тры) узяў пашпарт і, крыху адступіўшы ад мяне, звяртаючыся да свайго калегі, дадаў:

— Смелы, сам сустракае. Бачыш?

Пан нумар тры разгарнуў на секунду пашпарт, усміхнуўся, закрыў яго і благаславіў:

— Так, добрыя дакументы, едзь да сваіх.

Ужо сядаючы ў машыну, я пачуў ад Юрыка:

— Глядзі ты, без баксаў адпусціў. Не разумею…

— Дурань, ты проста са страху нічога не бачыш, — даваў я ўжо досыць спакойна Юрыку бясплатныя

ўрокі. — Баксы яны хаваюць хутчэй, чым карцёжнік карты…

Нашы сустракалі нас па-нашаму:

— Ну, што там у цябе, расказвай, не саромейся, тут усе свае.

— Ды так, — пачаў я няпэўна, — дробязь розная.

— Дробязі я люблю, — сказаў наш. — Дробязь да дробязі — ужо, глядзіш, нешта ёсць. Як кажуць, курачка па зярнятку.

«Гэты выцягне больш за паляка, — тут жа прыкінуў я. — Педант. Такі хоча не толькі грошай, але і нервы паказытаць. Садзюга, адным словам».

Я падняў заднія дзверцы мікрааўтобуса, і мытнік з ходу ўгледзеў маю падставу (яшчэ я сказаў бы — падказку):

— А, кветачка, — паказаў ён маімі дакументамі (чаму і тыя і гэтыя любяць махаць маім пашпартам?) на метровую пальму. — Гэта, братка, правозіць няможна. Пойдзеш у дванаццаты кабінет. Будзеш з нашымі дзяўчатамі разбірацца. А з імі, скажу табе, ох як цяжка знайсці агульную мову.

— Зямляк, не губі. «Кветачку» цешча-змяюка заказала, заб’е ж.

Відаць, мае словы трапілі на спрыяльную глебу, бо наш нарэшце «ўбачыў» мяне і сказаў:

— Не ведаю, не ведаю…

— Браток! — зразумеў я, што пара браць быка за рогі. — За такую кветку нічога не шкада. — І, панізіўшы голас, дадаў: — Хоць дваццаткі.

— О, ты ведаеш, — таксама ціха падхапіў наш, — у школу я пайшоў адразу ў другі клас і таму з лічбамі меней за трыццаць, на жаль, не знаёмы.

«Няўжо так і праскочу на халяву?!» — не верыў я, развітаўшыся з чарговымі дзесяткамі і сядаючы ў машыну.



Ды не. Вядома ж, не! Вось ён, шылахвост, бяжыць, родненькі.

— Паслухай, зямляк, дык я ж бакавых дзверцаў не адчыняў. Забыўся, спяшаючыся. А ты вельмі рады і не напомніў. Непарадак, зямляк, непарадак.

«Так, педант. Педант і садыст. Мог жа адразу ўсё праверыць».

— Ну, што тут у нас? — ужо з напускной строгасцю спытаў мытнік. — А-а, — убачыў маю другую падставу, — піўко. Баварскае, іхняе, добрае, значыць. Цэлая скрынка? Ці не многа на дваіх?

— Няма праблем, — згадзіўся я адразу. — З земляком можна і падзяліцца…

— Правільна, — падхапіў педант. — Хлеба акрайчык і той папалам.

— Не губі, — зноў уключыў я дурня, — дарагі ж напойчык.

Сам сабе падумаў: «Боўдзіла ты прагавітае! Уся гэтая скрынка табе і прызначана. Я піва яшчэ з першых рэйсаў у рот не бяру. Па мне што баварскае, што жыгулёўскае — адна вада. Маю нервовую галаву півам не падманеш».

Хвілін праз пяць да машыны падышоў салдацік і хуценька паклаў у прынесены з сабою чорны пакет шэсць бутэлек «іхняга».

— Вазьмі і сабе, — паглядзеў я на відавочна недаядаўшага першагодка і аддаў яму кавалак «Маскоўскай сыравэнджанай».

Другі раз прайшоўшы мытню, я сеў у машыну і зноў пачуў стогны беднага Юрыка:

— Не, больш я з табою не яздок. Ну яго ў балота! Лепей зноў на родны завод. Я толькі збоку глядзеў — і то ледзь не памёр.

— Не бойся! Пакуль праблем няма. Змена, вядома, паршывая, аднак… — я прыкусіў язык, заўва-

жыўшы, што Юрыкавы вочы робяцца круглымі. За спінай пачуў:

— Зямляк, дык я ж забыўся спытаць, што ты ўсё-такі вязеш з той далёкай Галандыі?

«Во, нарэшце, а то ўжо сапраўды рот разявіў, паддаўся спадзяванням, што на некалькіх дзесятках праскочу. Адразу яму дзвесце бухнуць ці са ста пачаць?» — хутка прыкідваў. Уголас сказаў:

— Друг, як зямляк земляку (гаварыў смела: крыху ж падмазаў, падаслаў, так бы мовіць, саломкі), скажу сумленна: машына адным смеццем забіта. Ёсць толькі дзве новыя штучкі, дзве такія невялічкія скрыначкі, — падняў я (так, каб бачыў толькі ён) рог падабранай на адной з вуліц Кёльна амаль новай пуховай коўдры.

— О, дык гэта ж тэлікі. І вялікія нейкія...

— Ага, вялікія, але не фірмовыя, не «Sony» там або «Panasonic». Так, «плазматроны». Кітай, адным словам...

— А-а, — прамармытаў мытнік.

— Сто, — паспрабаваў я спыніць яго аканне.

— Ну-у, — перайшоў ён на другую танальнасць.

— За кожны, — давялося мне ўдакладніць.

— Як усё-такі шанцуе некаторым, — адразу ж загарэўся зямляк. — Уяві, што было б, каб табе трапіўся не я, зямляк твой родны, а які-небудзь юда.

«Ты ён і ёсць», — падумаў сам сабе, а ўголас схамелеоніў:

— Сустрэць свайго заўсёды прыемна.

Прайшоўшы трэці раз мытню і чарговы (не памятаю, які) раз сеўшы ў машыну, я зноў пачуў стогны:

— Магіла! Усё! З дому болей ні кроку. Прыеду — і адразу ж на завод! Адразу ж!



— Заткніся, абрыдзеў! Паміраць будзеш пасля! Паехалі! Бачыш, пагранец махае. Нябось, таксама піва хоча.

Неўзабаве разам з півам давялося расстацца і з апошняй дзесяткаю.

Наогул *гэта* каштавала пяцёрку, але купюркі такой не знайшлося і стаўку давялося павысіць. З таго часу, між іншым, стаўка такой і засталася, і мала хто ведае, кім неспадзеўкі яна была падвоена. І дзякуй Богу, бо калі б сябры-таварышы даведаліся пра гэткае нахабства, дык далі б чосу свайму калегу, што так бязмежна шыкуе.

Машына нарэшце вырвалася з «зоны распранання», і Юрык, крыху ачомаўшыся ад «кашмараў», паціхеньку пачаў паказваць сваё майстэрства вадзіцеля-аса (дзеля чаго, уласна, я і ўзяў яго: пасля мытні маглі аб'явіцца яшчэ адны «правяральшчыкі» — з вялікай дарогі). На блізкім святле ён трымаў належную сотку і нешта насвістваў. Адыходзіў нарэшце ад дрыжыкаў.

— Паслухай, Юрык, — настала чарга ўжо мне захваляваца, — здаецца, ты не хочаш давезці мяне цэлым да змяюкі-цешчы.

Юрык упершыню за ўсю паездку ўсміхнуўся:

— Якая ж твая Вольга Уладзіміраўна змяюка? Дабрэйшага чалавека на ўсім белым свеце няма!

Юрык смяяўся. Ён не ведаў, што кашмар яшчэ не скончыўся, што мытня яшчэ не дала поўнае дабро. Наперадзе была прымытневая ДАІ, але я не хацеў яго нерваваць.

Ён дасмяяўся амаль да слёз, але ўсё ж угледзеў паласатае жазло даішніка, які вынырнуў немаведама адкуль (так Юрыку падалося).

— Што вязём? — пачулася нармальнае для гэтых мясцін пытанне.

— Піва, — адказаў я, выходзячы з машыны. Чым бліжэй робіцца кантакт-гутарка, тым большая імавернасць, што ён добра скончыцца.

— Піва — гэта добра, — праканстатаваў даішнік, гледзячы на задні нумар машыны. — О, землякі! Што ж, піва дык піва.

Ужо глыбокай ноччу прымытневы даішнік адкаркоўваў апошнюю бутэльку «іхняга». «У начной змене ёсць свае перавагі, — разважаў, пахмяляючыся, — днём так не расслабішся».

У гэты ж самы час на адным з прамежкаў трасы Брэст — Масква катамаранам, быццам склееныя, імчалі дзве машыны. Нягледзячы на каварную серабрыстасць дарогі ад першага, які толькі выпаў, снегу, мікрааўтобус трымаў свае максімальныя сто шэсцьдзесят, але сіняя «дзевятка» нібы прыліпла да яго злева і саступаць не хацела. Здавалася, што вар’яты, якія сышліся ў гэтай смяротнай гонцы, няйначай паспрачаліся, хто хутчэй трапіць на неба. У імгненне яны прамільгнулі паўз бензакалонку, і яе гаспадыня, якая выйшла падыхаць свежым паветрам, спачатку замерла, пасля войкнула і перажагналася:

— Госпадзі, ад недасыпання ўжо лятаючыя аўтобусы мрояцца.

А за многія кіламетры ад памянёнай бензакалонкі, у двухпакаёвай хрушчоўцы, у маленькім, яшчэ з дзіцячага садка ложку не спаў другакласнік Сярожка. Хлопчыку чамусьці здавалася, што пакуль ён не спіць, змагаецца са сном, казачны *«Lego»* набліжаецца да яго. І Сярога трымаўся як мог. «Не спаць, не спаць, не спаць», — зноў і зноў падказвала і гэтым дапамагала адольваць сон яго недзіця-



чая інтуіцыя. І ён усё цёр і цёр пальчыкамі амаль зліплыя вочы. Маці сэрцам адчувала, што дзіця не спіць, але падысці, супакоіць яго не рашалася: яна баялася, што і ўпоцемку Сярожка ўбачыць яе заплаканы твар.

Пакарабачаныя левыя дзверцы мікрааўтобуса падказалі дзяжурнаму па КПП, які стаяў у бронекамізэльцы на ўездзе ў сталіцу, што з гэтай машынай не ўсё ў парадку. Махнуўшы люмінесцэнтным жазлом, ён адначасна ўзяўся за аўтамат. Вадзіцель мікрааўтобуса прытармазіў, і калі даішнік рушыў да іх, паглядзеў на пасажыра побач.

— Усё нармальна, Юрык. Адпачні. Што мог, ты зрабіў, цяпер — мая чарга, — супакоіў вадзіцеля ягоны таварыш.

Лейтэнант накіраваўся да машыны, але раптам прыпыніўся: па рацыі перадавалі паведамленне, і ён вырашыў, што гэтым, з мікрааўтобуса, яго чуць неабавязкова: «Сінія “жыгулі” ВАЗ-2109 дзяржнумар … не даязджаючы … кіламетраў да пасёлка … на мосце … з хуткасцю, якая значна перавышала … вылецелі на паласу сустрэчнага руху, урэзаліся ў металічную агароджу, прабілі яе і ўпалі ў рэчку…»

Лейтэнант зразумеў, пра якую сінюю «дзевятку» ідзе гаворка, і, выключыўшы рацыю, падышоў да машыны:

— Куды едзем, мужыкі?

— Дадому, камандзір, толькі дадому, — адказаў яму той, што сядзеў побач з вадзіцелем. — Пападарожнічалі, і хопіць. Як кажуць, добрага пакрысе.

— Вы не зусім правільна мяне зразумелі, — удакладніў даішнік. — Я хацеў спытаць, у які раён едзеце? Машына, бачу, мінская.

— На Чыгуначную, — сказаў вадзіцель чыстую праўду.

— А-а, ясна, — кіўнуў лейтэнант. — Толькі вось выгляд у вас нейкі, ведаеце…

— Ведаем, таварыш лейтэнант, ведаем, — мякка перапыніў даішніка пасажыр, — як-ніяк трэція суткі ў дарозе.

— Ды бачу, вы быццам п'яныя — хоць «трубачку» даставай. Добра, едзьце. Ды глядзіце, ля дому не разбіцеся, удвая крыўдна будзе, — і лейтэнант махнуў люмінесцэнтнаю палкаю.

Пачакаўшы, пакуль мікрааўтобус ад'едзе, ён зноў уключыў рацыю:

— Чатырыста дваццаты?

—На прыёме.

—Сто шосты. А ты зараз дзе?

— Там, дзе і быў, а што?

Сто шосты крыху памарудзіў з адказам, але, успомніўшы пра вымову і рапарт на звальненне, які быў напісаны з-за гэтага, сказаў:

— Хвілін праз пяць паўз цябе праедзе мікрааўтобус «Міцубісі», дык ты яго не чапай, няхай хлопцы едуць сабе спакойна.

— А што за хлопцы такія, што чапаць няможна?

— Добрыя, чатырыста дваццаты, добрыя. Дарэчы, адчуваю, ты ад машыны адыходзіўся.

— Тармазнуў тут аднаго. А што?

— Цікавую навіну празяваў.

— Гэта якую?

— Ды так… Здаецца, пра банду Баксёра ты больш не пачуеш.

— Баксёра, з-за якога цябе... Чаму ты так рашыў?

— Інтуіцыя, дружа, інтуіцыя.

# ФАРЦ

Фарцоўшчык. Скарочана — фарц. Слова калісьці вядомае. Але няўдачлівае: мільганула ў гісторыі і знікла. Нядаўна мільганула і даўно знікла. Як і тыя, каго так называлі.

Фарцоўшчык Саша паміраў ад нуды і няўцешнасці. Паміраў ад жадання памерці. І тапіў тое жаданне ў алкаголі. Гэтыя пятнаццаць гадоў свабоды сталіся для яго фатальнымі. Ён не змог прыстасавацца да хуткіх гульняў новых рускіх. Ён любіў класіку. Казаў: курачка па зернетку. Злётаў у «дрэнную» капіталістычную Швецыю (трапіць туды — ужо было подзвігам), абмяняў сумку з гарэлкай, шампанскім і ікрою на два-тры відзікі, дзесятак вокменаў і стэрэафанічны «Сан'ё», вярнуўся, прадаў усё ў паўтара разу танней, чым у камісіёнцы, — і зноў купляй «запрашэнне» і ляці ў чарговую капіталістычную.

Цяпер — іншы час. «Новыя» імкнуцца прадаць удвая даражэй, чым купілі. Прадаць і зрабіць усё, каб не паставіць тавар, не разлічыцца, знікнуць, змыцца, забыць пра доўг. Ёсць і нармальныя «новыя». Але і яны, калі ты раптам на дзень-два, няхай і не па сваёй віне, спазніўся з дастаўкай тавару, разбяруцца з табою па поўнай праграме. Наладзяць такую трэніроўку нервовай сістэме, пасля якой аднавіць яе будзе вельмі-вельмі складана.

Забег сябра, калісьці ўладальнік адной з самых багатых у СССР калекцый — некалькі тысяч —

фірменных вінілавых пласцінак, кожная з якіх каштавала тады палавіну зарплаты пралетарыя. У той добры стары час яму ўдавалася слухаць пінкфлойдаўскую «Сцяну», калі гэты пазней суперславуты двайнік яшчэ не паступіў у продаж у той краіне, дзе друкаваўся. Калісьці гандляры слухалі музыку і трымалі ў руках альбомы «Цэпелінаў», «Паплаў», «Сабатаў», «Фанкаў», «Слэйдаў», «Назарэтаў» і іншых «Хіпаў» ці «Світаў» раней за саміх англічан.

Саша паглядзеў на сябра, як у люстэрцы ўбачыў у ім сябе — і адвёў вочы ўбок. Не хацелася жыць. Хацелася выць. Выць на неба, на несправядлівы нейтралітэт Усявышняга. Цяпер і ўявіць немагчыма, што некалі ля пад’езда, у якім была кватэра гэтай асобы, суткамі дзяжурылі таксісты. У рэстаране, куды ён заходзіў паесці, афіцыянт ведаў: калі раптам — ну раптам! — ён застанецца без работы, дык пасля таго, як Асоба паабедае, у бліжэйшыя месяцдва з голаду не памрэ. І хадзіла Асоба з вялізнымі сумамі. Грошай не хавала і нікога не баялася.

Цяпер Асобы не было. Ператварылася ў анучу. Цяпер сябра баяўся ўсяго. Дрыжаў. Прасіў. Маліў. Але найбольш баяўся яго, Сашы. Баяўся, што ён адмовіць, не дасць гэтых няшчасных дваццаці даляраў, якіх, калі эканомна, яму хопіць, каб забыцца дні на тры. Ён не ведаў і не бачыў (або не хацеў ведаць і бачыць), што ягоны сябра даўно такі ж самы, як і ён, і для яго гэтая сума таксама ой якая немалая.

Праўда, Саша стараўся не падаць духам. Штодня бегаў, прымаў душ, чытаў вясёлую перабудовачную перыёдыку, сачыў за навінкамі. Новы альбом Макартні нядаўна запісаў. Радаваўся, што Вейкман пасля доўгага маўчання аб’явіўся. Што Дылан па-



ранейшаму не здаецца. Што не спяць Бенсан са Сцюардам, і Плант с Блэкмарам. Боўі ў кіно вярнуўся... «Змагаецца старая гвардыя, — уздыхнуў Саша, гледзячы на сябе ў люстэрка, — не ў прыклад нам, зацыкленым, зацюканым саветыкусам». Акуратна насіў купленыя калісьці эксклюзіўныя рэчы. «На іх цяпер не заробіш, нават калі памрэш ад перанапругі, — інфармаваў жонку, калі прасіў уключаць пральную машыну ў эканомным рэжыме. — Добра, што тады купляў усё фірмовае. Фірмѣ і праз гады адпавядае».

«Дзе ж знайсці для Стаса гэтыя праклятыя дваццаць даляраў? — спрабаваў Саша нешта прыдумаць. — Што іх у мяне няма, ён, безумоўна, не паверыць, і адразу я ператваруся для яго з сябра ў самага заклятага ворага».

Думай, адстаўны фарц, думай!

Сёння панядзелак, на рынку выхадны, і сусед дома. Адпачывае. Былы слесар, які дрыжаў калісьці ад хвалявання, калі для яго запісваліся ў гэтай кватэры «Боні М», «Ататан» або «Чылі», што даводзілі да сексуальнага ўзбуджэння, Дона Саммер, якая ажно стагнала ад перапоўненасці пачуцця, «Супермакс», што нізамі ўзрываў акустыку і лёгкія, або антымаскоўскі бандытыністы «Чынгісхан», даўно меў гэтых максаў і ханаў. Стасавых ханаў. Закладаючы кожны раз за бесцань «да заўтра» «Бітлзаў», што сталі класікамі ў студэнцкім узросце, або джагераўскі «языкасты», але строга вывераны «Стоўнз», атручаную наркотай першую рокавую гітару свету Хендрыкса або тую ж Джоплін, што разарвалася ў напружанні звязак і жыцця, Стас паступова спусціў сваю славутую калекцыю. Пасля за бесцань паляцела унікальная нават па цяперашнім часе аўдыёапа-

ратура: эквалайзер з аналізатарам спектра і карэктарам акустыкі пакою тады яшчэ моцнай японскай фірмы «Сан Суй», двухблочны, коштам у некалькі іншамарак узмацняльнік славутага амерыканца «Марка Левінсона», прафесійная акустыка ад англійскіх джэнтльменаў Баўэра і Вілкінсона, дэка «без пытанняў» ад легендарнай «Накамічы», аналагавы прайгравальнік вышэйшай групы складанасці ўчэпістых немцаў з «Дзюала». Пасля тэхнікі прыйшла чарга апошніх запасаў: відэакасет з лазернымі копіямі і відэадыскаў. Пазней з малатка пайшла жончына калекцыя французскіх духоў, сукенкі ад Како Шанэль і іншых непатапляльных.

Цяпер у Стаса для слесара, а дакладней для гаспадара сеткі камерцыйных кіёскаў, што стаялі каля ўвахода на цэнтральны рынак сталіцы, нічога не было, і ён прыйшоў да Сашы. Грошы Саша павінен сябру знайсці, інакш стане ворагам. Сусед ці знаёмы, што не пазычыў, гэта проста той, хто не даў: сволач, скупянда. А сябра, які не дапамог, — гэта здраднік, кроўны вораг, юда.

Саша не хацеў быць Стасавым кроўным ворагам, не хацеў быць юдам.

Успомніў. Жывы яшчэ апошні з магіканаў, любімы радыёпрыёмнік, адзін з першых лічбавых «Sony». Некалі найвышэйшая мадэль у каталогу. З яе каталог пачынаўся. Нават цяпер, праз паўтара дзесятка гадоў, яе ніхто не перавысіў. З’явіліся меншыя габарытамі і вагою, але не лепшыя па якасці.

Усе гэтыя гады прыёмнік прастаяў у спальні і стаў паўнапраўным членам сям’і. Спачатку — сведкам шчаслівых імгненняў зачацця, пасля — страсных сцэн рэўнасці, цяпер — бяссонных начэй таго, хто паставіў на карту ўсё і прайграў, дакладней, не

 

стаў гуляць. Любімы прыёмнік бераглі, накрывалі махровай сурвэткаю, шкадавалі. Уключалі толькі перад сном: што там, на «Свабодзе», пра самую свабодную гавораць? Таму і захаваўся ён у ідэальным стане.

Цікава, ці возьме Віцёк, неўтаймоўны бізнесмен і пястун лёсу, апарат, які каштаваў семсот даляраў, за «Стасавы» дзесяць?

Сябру сказаў:

— Добра, пачакай. Сам разумееш, зараз грошы дома трымаць — што бандытаў на гарбату запрашаць.

Увайшоўшы ў спальню, Саша ўбачыў родны «Sony». За гэтыя гады ён стаў яму другім бацькам, першым настаўнікам, малодшым братам. І зараз ён павінен свайго брата прадаць. Саша паглядзеў на прыёмнік, падумаў, супакоіў сябе: ён выкупіць, ён абавязкова яго верне. Любой цаной!

Пяшчотна працёр «соньку», блок сілкавання ад яе, дастаў з ніжняй паліцы шафы тоўстыя, з добрую кніжку, правілы эксплуатацыі, прыкладзены да іх даведнік частот вядучых радыёстанцый свету, паклаў усё гэта ў дыпламат і выправіўся да суседа. Ішоў, як на плаху. У трыццаціградусную сонную ліпеньскую спякоту цела працінаў холад, ад якога калісьці ён ледзь не акалеў у Сібіры.

Дзверы адчыніла Святлана, бізнесменава жонка, былая прыбіральшчыца ЖЭСа, а цяпер заядлая наведвальніца буцікаў, масажных кабінетаў і іншых панадных мясцін для здаровых і заможных.

— Светка, твой дома? — паспрабаваў Саша спытаць суседку па-свойску, але збянтэжыўся. Нахлынуў французскі туман, і ў былога караля відэаапаратуры язык прысох да паднябення. Прагучала не

пытанне, а просьба. Апошні флакон духоў скончыўся ў жонкі год назад. «А Францыя застаецца Францыяй, — падумаў Саша, — гіпноз, а не пах. Не здаецца старая гвардыя. Не здаецца».

— Як усе абрыдлі, — незадаволеным голасам загадчыцы каўбаснага аддзела часу брывастага калекцыянера цацак Леаніда Ільіча сустрэла яго суседка. — У выхадныя адпачыць не даюць. Віктор (зрабіла націск на другім складзе) заняты! — суседка сабралася зачыніць дзверы.

— Свет, хто там? — пачуў ён голас слесарабізнесмена. — Сашка? Пусці пацана. Хай цягне, што прывалок.

— Праходзь ужо, — кінула Света, нехаця адчыняючы дзверы. — Мёртвага ўгаворыш. Тапкі здымі. Віктор у спальні.

«Бедны мой “Сонечка”, — падумаў Саша, уваходзячы ў беласнежную спачывальню. — Не спытаўшыся, вырваў цябе з наседжанага месцейка. Тут цябе, здаецца, ні разу і не ўключаць, не пагамоняць з браточкам».

У спальні Саша ўбачыў, як па голым целе Віцькі-бізнесмена праходжвалася масажыстка, высокая, у празрыстым халаце без ніжняй бялізны, з сакавітым целам бландзінка. Віцька, пакрактаўшы ад кайфу, кінуў адрывіста:

— Выклад-вай свае забаўкі. Можа, што й спатрэбіцца.

Сашка падышоў да суседа і падаў яму «Sony».

— Гадзіннік ці што? — хмыкнуў, гадаючы, Віцёк.

— Не, прыёмнік, — адказаў Саша, пачынаючы злаваць на гэтую цёмную, задаволеную жыццём істоту. — От напісана: «All band Receiver», — усехвалёвы, значыць. Але гадзіннік і таймер у ім таксама ёсць.



— Колькі? — адрэагаваў хваткі ўладальнік шапікаў.

Імгненне падумаўшы, Саша назваў цану, крыху большую за суперхаляўную, па якой сусед пераважна ўсё і купляў:

— Семдзесят…

— Ну ты даеш! — не даслухаўшы, абарваў Віцька. — Дурня шукай у іншым месцы. Трыццаць — і амбец!

— «Sony», арыгінальны, японскі, не які-небудзь малайзійскі філіял, — тлумачыў Саша. — Такіх цяпер раз-два і…

— Правільна, — зноў перапыніў яго Віцёк. — Цяпер — не тады! Пяцьдзесят. Апошняе слова. Паўсотні! І рублямі. Усё! Гандаль скончаны, — спаліў сусед апошні масток, які лучыў Сашу з тым іншым, актыўна-застойным жыццём. — Светка, нясі капусту! Санёк мяне зноў абуў.

Атрымаўшы грошы і аддаўшы суседу прыёмнік коштам семсот даляраў за пяцьдзесят рублёў, Саша пажадаў яму далейшага працвітання і пайшоў.

Ужо падыходзячы да сваёй кватэры, падумаў: «Толькі б Стас не зрабіў глупства і не ўкраў, пакуль мяне не было, чаго-небудзь з дарагога посуду, да продажу якога я пакуль не дакаціўся. Іра знікнення яе талісмана, апошняй адзнакі таго, амаль забытага жыцця не вытрывае».

Але хваляванні яго былі дарэмныя. Нават у цяперашнім бядотным стане Стас чужы посуд красці ніколі б не стаў. Прапіць сваё — так. Але чужое… Ён жа быў фарц, а не злодзей! Так, Стас не крадзе — і гіне.

Аддаўшы сябру ўпакоўку рублёў (два чырвонцы «іхнімі»), Саша правёў яго і, вярнуўшыся, прысеў

на месцамі ўжо пацёртую, але ўсё яшчэ шыкоўную скураную канапу, што раскінулася на палову залы. Уздыхнуў.

— Старая, — звярнуўся да канапы, — што будзем рабіць? Можа, хопіць бяздзейнічаць, каціцца ў прорву галечы, апатыі? Здаецца, прыйшоў час падумаць, наколькі далёка я зайшоў у нежаданні прыняць новыя правілы гульні.

Саша разважаў. Прыкідваў. Куды скіраваць намаганні, веды, вопыт? Ды й з чаго пачаць? Кінуцца ў бойку самому ці пайсці ў найміты? Не, лёкаем ён ніколі не быў! Але і ад боек стаміўся. Можа, таму цяпер і не ў абойме. Так, ён стаміўся. Пятнаццаць гадоў барацьбы за годнае жыццё… Стаміўся…

Саша расслабіўся, адключыўся, заснуў.

Сніўся сон.

Індыя. Яны ўзляцелі. Выбар тавару, яго закупка, загрузка і апошні прыпынак перад фінальным скачком у нашпігаваным кандыцыянерамі Бамбейскім аэрапорце — усё мінулася. Яму болей за сорак, а вымушаны завіхацца з маладымі хлопцамі. Але хлопцы працавітыя, дружныя, вясёлыя, чымсьці родныя. Ён сышоўся з імі, ажыў, пачаў усміхацца. Упершыню за апошнія гады адчуў сябе чалавекам, дзейным чалавекам, які працуе, змагаецца, жыве.

Нарэшце!

Іх дванаццаць. Дванаццаць чаўнакоў, гатовых верай і праўдай або й без іх прарвацца, прабіцца, праскочыць, даставіць, зарабіць, карміць сям'ю, жыць і зноў прарывацца.

Ён стаў адным з іх. Людзей па-за дзяржаваю і законам, па-за абаронаю і гісторыяй. Нямытых, трохжыльных, рызыкоўных, вымушаных бадзяг-падарожнікаў, камікадзэ, шукальнікаў удачы.



Гэтым разам удача іх абмінула, абышла, пакінула, здрадзіла ім.

Адразу пасля ўзлёту заклініла рухавік, услед — другі. Ён успомніў словы аднаго з пілотаў, сказаныя камусьці з экіпажа перад узлётам: «Хлопцы, давайце адкладзем свой тавар на наступны рэйс. Мы ж не чаўнакі, нас час не падганяе. Шэсць тон перагрузкі».

Так, перагрузка.

Ён узяў болей за норму, болей, чым мог панесці. Ён хацеў дагнаць гады. Гады прастою, бяздейнасці, адчаю. Ён не адужаў. Не змог. Не вытрымаў. Зламаўся.

Самалёт зламаўся. Падаў. Гінуў.

Сашка выдыхнуў, расслабіўся, заплюшчыў вочы.

«Усё. Фініш. Стаміўся. Стаміўся змагацца з жыццём. Стаміўся назаўсёды».

Грымнуў выбух.

Гарэў самалёт, гарэў дом, на які самалёт упаў, гарэў яго лёс.

Ён не ведаў, што сон акажацца прарочым. Абудзіўшыся, паабяцаў жонцы: «А "Соню" я абавязкова выкуплю, вось пабачыш».

Але яна не ўбачыла. Яна спала. Учора было яго пахаванне, і яна вельмі стамілася.

## А далей — дробязі...

100 марак. Сто. Роўна столькі пры канцы васьмідзесятых — на пачатку дзевяностых трэба было адшкадаваць за «гасцявое запрашэнне» ў Германію (тады з гонарам дадавалася: Заходнюю), спакойна браць білет на цягнік-мару «Масква — Берлін» і махаць краіне ручкаю: «Да няхуткай сустрэчы, дарагая!»

— Мы пойдзем іншым шляхам! — па-ленінску настаўляў мяне старэйшы таварыш, які паспеў раней пабамжавацца ў капіталюг ненасытных. — Удва разы таннейшым! Галоўнае — дабрацца да Згаржэлец (гэта трошкі на поўнач ад трохкутніка — стыку межаў Польшчы, Чэхіі і Германіі), а далей — дробязі…

Дробязі аказаліся зусім не дробязямі, і было іх столькі, што нават і цяпер, праз шмат гадоў, калі ўспамінаю пра той Згаржэлецкі трохкутнік, сэрца з рытму збіваецца.

Знаёмага паляка, «спецыяліста па бязвізавым перасячэнні межаў», таварыш не заспеў — паехаў пан у мясціны, як у нас кажуць, не вельмі аддаленыя, а ягоны нядурань-сусед і сябрук па эмігранцкім бізнесе таксу падвоіў:

— Цяжкія прыйшлі часы, небяспечныя, хапаць паліцаі кінуліся нашага брата. Дзвесце «дойчаў», не меней, каштуе цяпер патрапіць на той, Богам не забыты бок, — заспакоіў нягоднік нас — як зарэзаў.



Ужо вечарэла, а там, глядзі, і ноч насунецца. Паўздыхалі мы, паўздыхалі, дый падрадзіліся на гэтую ідыёцкую авантуру. (Заплацілі столькі ж, колькі каштуе віза, а ідзем без яе, радзімай.)

Мяжа — рака. Брудная, але што зробіш. Перасек, пераплыў яе — і ты там, за Кардонам. Але-але, з вялікай літары. З малой — гэта калі б гаворка ішла пра Палядыю. Самі разумееце: «курица — не птица, Польша — не заграница».

Плыўма, як Чапаеў, мы ў рэчку не кінуліся — палічылі за лепшае караскацца, нібыта малпы, па іржавай арматуры ці то недабудаванага, ці то паўразбуранага чыгуначнага моста.

Як ні дзіўна, атрымалася.

Ціха, амаль не дыхаючы, пратупалі і палову Гёрліца (той жа Згаржэлец, але з нямецкага боку). Не ўбачылі нас паліцаі і на мясцовым — увесь у свастыках — вакзальчыку, размаляваным маладымі спадкаемцамі Адольфавай справы. І рушылі ліхія хлопцы ў цэнтр Еўропы без штампікаў-візаў у пашпартах, хоць за іх быццам бы і заплацілі.

Зэканомілі.

І яшчэ наперадзе мяне чакала сітуацыя, калі на ўсходзе Галандыі, у ціхім буржуйскім Арнхеме (самы закаранелы бомж-гультай тут фруктозай напічканы шчыльней, чым наш хвалёны вельмі адукаваны, бязмежна эрудзіраваны суперінжынер), я застануся адзін з двума купленымі напярэдадні аўтамабілямі (таварыш заляціць у турму за вулічны гандаль цыгарэтамі) з грашыма, якіх ледзь хапала на запраўку аднаго.

І яшчэ наперадзе мяне чакала сітуацыя, калі брэсцкі мытнік вылезе з будкі падзівіцца на клоў-

на, які адзін спрабуе прасунуць цераз мяжу дзве тачкі. І злітуецца. За сімвалічную плату (блок «Мальбара» — апошняе, што засталося з рэчаў таварыша, свае два дазволеныя для правозу я памяняў у старшыні абмежаванага саўкантынгенту на салярачку) ён скажа запаветную фразу:

— Едзь, артыст, але не цяпер, дачакайся раніцы: начамі пацаны на дарогах дзяжураць, крыўдна будзе заляцець на фінішы.

Але не стаў я чакаць ранку. Пагнаў ноччу «Форд», а на світанні вярнуўся па «Опеля».

І таварыш, які прыехаў з Германіі праз два месяцы, пасвяжэлы, нібыта з санаторыя, але з пустымі кішэнямі і неўязным штампам у пашпарце, забіраючы ў мяне ключы ад «Опеля», скажа:

— Шкада, не прысутнічаў. Я за паўблока граніцу праскочыў бы. Ну ды тае бяды, наступным разам будзем разумнейшыя. Дарэчы, пакуль у каталажцы сядзеў, надзейныя людзі каштоўнай інфармацыяй падзяліліся: цяпер выгадней машыны купляць на Блізкім Усходзе, у Арабскіх Эміратах. Тут галоўнае — каб пры перагонцы на тэрыторыі Ірана не падстрэлілі, а далей — дробязі…

## Дзевяць сутак
## і дзевяць гадоў

Ад’ехаліся ад Омска кіламетраў дваццаць, асфальт пайшоў уперамешку са снегам і лёдам, і Азік — так клікалі прысібіранага азербайджанца, што сядзеў за рулём, — раптам прарэзліва, быццам яму ў шыю ўпілася змяя, заенчыў: «Ва-ай!» — і рэзка затармазіў. Машыну панесла юзам, але пярэдні прывод не падвёў, утрымаў яе на дарозе. Спынілася «васьмёрка» за нейкі крок ад абрыву. Заікаючыся, хлопец прызнаўся:

— Вад-дзіцель я, с-сам б-бачыш, ніякі, нават н-не ведаю, як у тваім «зубіле» задняя перадача ўключаецца. Падрадзіўся на непасільную для мяне работу з-за жонкі. Тыдзень назад зноў узняла гвалт і заявіла, што болей трываць у кватэры дармаеда не будзе. Чалавек я просты, але сітуацыю разумею, згодны і гатовы на ўсё. Можаш змясіць мяне хоць да паўсмерці, калі табе ад гэтага стане лепш, толькі адпусці: адсюль я дадому яшчэ на сваіх двух дабяруся.

Такі от вясёлы сюрпрыз паднеслі мне на пачатку дарогі ў дзве з паловай тысячы кіламетраў. І што было рабіць? Выкінуць ашуканца з салона і застацца аднаму? А калі машына, біткам набітая апаратурай, сапсуецца? Хто застанецца яе сцерагчы і хто пойдзе шукаць падмогу? Сапраўды, што рабіць? Ды нічога! Пакінуць гада ў машыне, хоць вартаўніком, хоць...

— Глушы матор, пагамонім, — загадаў я небараку-кіроўцу. — У мяне таксама ёсць жонка і дзеці.

Але з табою мой кампаньён Жэнька Бяндзераў наперад разлічыўся, і твае ў бліжэйшы час ад голаду не зачэзнуць. А мае — зачэзнуць! Учора ў іх скончыліся і прыпасы, і грошы, і цяпер я ўжо не ўяўляю, у каго жонка будзе пазычаць. У суседзяў брала, бацькі самі маюць патрэбу ў дапамозе. Адным словам, пра «адпусці» — забудзь. І наматай на вус: не рыпайся і не падумай адысці ад машыны нават на крок. Будзеш грузчыкам, штурманам, не ведаю кім, але — паможаш дабрацца. Цяпер — вылазь, памяняемся месцамі. І перастань калаціцца! Вазьмі з бардачка атлас дарог, прыкінь далейшы маршрут. Не такі ўжо ты тупы, калі чаўнака абуў у лапці. І не глядзі гэтак на мяне — я не дзеўка.

Азік узяў атлас асцярожна, нібы нейкую атруту. Я жахнуўся: «Можа, ён яшчэ і непісьменны? Во ўлез дык улез! Па поўнай праграме. Што ж, не першы раз. Будзем біцца да канца».

І я пачаў біцца, дакладней — біць. Я хвастаў яго па рабым няголеным твары, тыцкаў носам у карту, крычаў:

— Ты ў мяне ўраз грамацеем станеш, мігам прачнешся і пачнеш памагаць!

Толькі кроў, што хлынула ў яго з носа, крыху астудзіла мяне. Я даў яму губку для працірання шкла. Ён прыклаў яе да твару. Не прасіўся, маўчаў — відаць, вырашыў, што лепей не выпрабоўваць лёс. Дапяў, што я не жартую і ў зрыве магу забіць.

Так пачынаўся першы дзень майго «падарожжа» з Омска ў Мінск. Наперадзе іх было дзевяць. Дзевяць сутак татальнага галалёду пры мінус трыццаць восем за бортам з бандытамі або часам (калі адпачывалі бандыты, але не я) мянтамі на хвасце.

Дзевяць сутак, што забралі дзевяць гадоў жыцця.

Нармальная для чаўнака статыстыка.

## Уладзівасток — самы Далёкі Усход, або Другая спроба

Ці ведае паважанае спадарства горад, у якім, калі звярнуцца да тутэйшай мадамс і з усмешкай-намёкам, гулліва ўскінуўшы ўгору бровы, пацікавіцца: «І колькі?», вам не зададуць сустрэчнага пытання: «Чаво?», не кінуцца ўдакладняць, ці доўга вы мяркуеце карыстацца гэткай незвычайнай паслугаю, і ўжо пагатоў не плюнуць у твар і не ўрэжуць па нахабнай мордзе? Вам бясконца млява пасміхнуцца і па-змоўніцку ледзь чутна агучаць лічбу. Нават дзве: за гадзіну і за ноч. Лічбы будуць сціплыя, не напалохаюць: скажам, трыццаць і пяцьдзесят тых самых умоўных адзінак. Але галоўным і найдзіўным стане тое, што абслужаць вас па найвышэйшым разрадзе. Найвышэйшым! Вы не пачуеце: «Так — не хачу!» або «О-о, хітрун, за *гэта* — асобная плата!». З вамі будуць з задавальненнем, выцісняць з вас усе сокі — нават тыя, пра наяўнасць якіх вы і не здагадваліся.

Пасля такога якаснага абслугоўвання вам застанецца толькі вохкаць і войкаць: дзе гэта раней, на якой такой забытай Усявышнім планеце мучыліся, у якім каменным веку знаходзіліся? Як жа далёка да гэтай планеты вашым жонцы і палюбоўніцы! Вы нарэшце зразумееце, што менавіта так прыгнятала. вас Але галоўнае — вы даведаецеся, што такое Уладзівасток. Самы бандыцкі горад былога Савецкага

Саюза. Дзяржава ў дзяржаве. Бандыцкая дзяржава. Бо, як па найвышэйшым разрадзе вас абслужаць мясцовыя гейшы (а гэта ў той ці іншай ступені, лічы, усё тутэйшыя *women*), гэтаксама па найвышэйшым разрадзе вас вычысцяць мясцовыя грывастыя хлопцы.

З аэрапорта пасля марнай спробы паляцець мы вырваліся толькі цудам. Да чыгуначнага вакзала дабраліся на грузавічку «Хлеб». З закупленай у мясцовым ГУМе дэфіцытнай японскай электронікай пад'ехалі з тылу і дзяжурнымі бандытамі, аховай, як яны сябе называлі, былі заўважаныя не адразу і тое-сёе паспелі.

— Удвух супраць васьмі. Не самыя горшыя суадносіны, — прашаптаў мне Жэнька Бяндзераў, калі пералічыў каўказцаў, што перакрылі нам падыход да чыгуначнай платформы.

Я быў з хлопцам згодны: «Першая спроба прарвацца не ўдалася. Але купім не купім, а патаргавацца можна, — паўторым. Каб вырвацца з лапаў гаспадароў Уладзівастока, пупок прыйдзецца напружыць».

— Прабівацца да вагонаў прапаную перабежкамі, як нядаўна ў Ніжнім Тагіле, — успомніў Жэнька нашы апошнія гастролі.

«Ага, перабежкамі», — кіўнуў я, не перастаючы сачыць за перамяшчэннямі маленькіх вузкалобых чарнявых спрытнякоў. І не карлікі, і не нармальныя піпл. Сімбіёз пацука і сабакі. Носяцца па платформе, як ашалелыя, шукаюць. Нас, вядома. Тут, на жаль, мы ў адной повязі, дакладней — у адным жыццёвым дзеянні. У адным, але ў розных ролях. Яны — паляўнічыя, мы — здабыча. Мы ўсё жыццё



для кагосьці здабыча: справа — міліцыянты, злева — гэбэшнікі, наперадзе — мытнікі і падаткавая паліцыя, ззаду — бандыты. Хоць не: зараз і бандыты спераду!

Як я стаміўся! Узяць бы дый перастраляць зграю ненажэрную. Пісталет жа купілі. Аднак перастраляць — значыць пайсці па-банку, значыць — здалі нервы, значыць — напляваць на сям'ю, значыць — не вярнуцца дахаты, ніколі не ўбачыць сына, Наташу…

— Ну што — другая спроба? — акунуў мяне ў рэальнасць Жэнька Бяндзераў. — Скачам?

І мы саскочылі на чыгуначныя рэйкі, пабеглі, панесліся, паляцелі.

Чорная зграя сарвалася за намі. Але цяжка ім будзе нас дастаць. Яны ж хочуць толькі грошай, а мы цяпер марым пра большае — выжыць! Апаратурка ж японская ў паштовым вагоне пакаціла…

# МОСТ

Мост злучаў рассечаны аўтабанам напалам гандлёвы цэнтр горада. Амаль цэлыя суткі абедзве паловы кішэлі пакупнікамі, прадаўцамі, грузчыкамі, разявакамі-турыстамі. На мосце ж вока фіксавала хіба што адзінокія фігуркі. Мост заставаўся незапатрабаваным. Загадка.

«Зачараваны, — прамільгнула. — І як азіяты трымаюць сувязь між сабою, гэтак упарта ігнаруючы дугападобнага стальнога прыгажуна?»

На мост ступіў з трывогаю. Даўжэзны, ён вісеў не толькі над шасціпалоснай шашой, але і сягаў кончыкамі ўглыб велічэзнага базару.

Трывога ўзмацнілася, калі адлічыў першую сотню крокаў і спінаю адчуў: я — не адзін. І за што Бог узнагародзіў мяне гэтым незразумелым прыцягненнем? Варта падысці ў магазіне да прылаўка, як ля яго тут жа выстройваецца чарга, а хтосьці ўжо імкнецца і адпіхнуць, наперад праціснуцца. Пра тэатральныя касы ўвогуле няма слоў: здаецца, здолеў бы стварыць ажыятаж і распрадаць білеты на відавочную шэрасць.

Мой нечаканы спадарожнік не спрабаваў абганяць, але я ўсё ж прыспешыў крок: чуццё падказвала — лепш адарвацца. Адарваўся. Аднак недзе на сярэдзіне моста незнаёмец зноў задыхаў у спіну.

— Ну і спякота! — нібы прытрымаў словам. — Шкодны ў нас, аднак, занятачак. Як мяркуеце?



Трэба сказаць, інтуіцыя рэдка падманвала мяне. Зараз жа яна проста выбухнула: «Уцякай! Хутчэй! І не ўздумай тузацца. Сілы няроўныя. Ён, вядома ж, не адзін, увесь мост у іх пад кантролем. Але бяжы не адразу, а як сыдзеш з моста. Ляці без аглядкі. Апынешся ля дарогі — адразу хапай таксі».

«Я ўсё разумею, не хвалюйся, — запэўніў інтуіцыю. — Так і зраблю». Супакоіў і прыліпалу:

— Праклятыя Эміраты! Ад спёкі мазгі размяклі — бабкі ў нумары забыўся. Трэба вяртацца. За дурной галавой і нагам неспакой.

Надзеў маску чаўнака-дэбютанта: разяўлены рот, здзіўлена вырачаныя вочы (маўляў, лох лохам — усё о’кей, не мітусіся, я твой, ужо цёпленькі).

Ён быў кідала хоць і малады, але, па ўсім відаць, спрактыкаваны, біты воўк, і на маё адцягванне ўвагі, само сабою, не клюнуў, не адчапіўся. Наадварот, усё з большай любоўю аблашчваў позіркам сумку-партманет, якая вісела ў мяне на поясе. Усміхнуўся:

— Я, дарэчы, таксама ў «Карлтане» жыву. («Значыць, з самага пачатку вялі: не прачытаў жа ён праз кашулю на бірцы ад ключоў назву гатэля».) Ого! Здаецца, кашалёк! Бачыш?! От падфарціла! Паглядзім, што там? Паглядзім… — ён нагнуўся, падхапіў клапатліва згублены кімсьці з яго падручных светла-карычневы партманет. — Вось дык штука! — падкінуў яго. — Ну-ну… Цяжкі кашэль… — Раскрыў. — Слухай, а бабак колькі! Халява, брат! Толькі цур, дзелім па-чэснаму, напалам…

— Мне чужога не трэба, пакінь сабе, — асмялеў я, калі адчуў пад нагамі прыступкі, якія азначалі блізкасць адной з базарных вуліц. Але не пабег. Унізе нас, вядома, чакалі і з моста маглі проста не

выпусціць. — І яшчэ, — прадоўжыў, крыху сарамеючыся нервовага шматслоўя, даваць бандыцкаму маладняку бясплатныя ўрокі. — Што ты не чаўнок, адчуваецца адразу. Па-першае, мы ніколі ні да кога не прыстаем — няма часу: за тры дні ў дзесятцы пунктаў трэба атаварыцца. Па-другое — на работу сваю ніколі не скардзімся: навошта языком малоць дарэмна? Не хочаш — кідай: святое месца пустым не бывае і замена заўсёды знойдзецца. (Сам сабе адзначыў, што наконт замены крыху палку перагнуў, бо незаменныя ўсё ж ёсць, але гэта ўжо іншая гісторыя.) І апошняе — твой фокус з партманетам, у якім, зразумела, спачатку знойдзецца парачка «франклінаў», а пасля банда падляціць і ўмомант дакажа, што партманет іхні і грошай там мелася разы ў тры болей, — гэты фокус я ведаў, калі ты яшчэ пад стол пехатою хадзіў. А цяпер — бывай! — скончыў маналог, ступаючы з моста на зямлю. — І бегчы за мною, былым стаерам, не трэба: марна час патраціце…

Як толькі мінуў кампаньёнаў майго праваднiка (яны маячылі менавіта там, дзе трэба было чакаць), я кінуўся бегчы. Магчыма, тыя і паімчалі б наўздагон, але іх запыніў вокліч:

— Стойце, лох усё роўна пусты: капусту ў гатэлі забыў. Чакаем наступнага.

«Чаму гэта ён такі клапатлівы?» — з трывогай падумалася ў той момант, але толькі падумалася.

Прабегшы на ўсякі пажарны паўквартала, я спешна выкінуў угору руку. Не паспеў аддыхацца, як ужо сядзеў у светла-карычневай з вядомымі ва ўсім свеце чорна-белымі шашачкамі машыне. І ўсё б добра, калі б не голас ззаду:

— Смірненька сядзі, не таргайся: дзверы заблакаваны, а пушка проста на тваю левую нырку



глядзіць… Не чакаў? А як ты думаў. Пад асабліва шустрых — такіх, як ты, — мы машыну на выхадзе трымаем. Так, разумнік, праляцеў ты, моцна праляцеў. Не захацеў наш кашалёк браць — цяпер мы возьмем твой… Шэры! — гэта ўжо было адрасавана кіроўцу. — Паварочвай да моста па мальцоў — і на базу.

«Добры горад Шаржа, — думаў я, паралізаваны новым паваротам падзей, — але лепей атаварвацца ў Дубаях».

— Бывае, конь на чатырох і тое спатыкаецца, — паспрабаваў выйсці з трансу, а заадно і адцягнуць увагу бандыта, намацваючы ў кішэні балончык з на-адта ж эфектыўнай вадкасцю (на сабе праверыў, купляючы ў знаёмага гэбэшніка: той доўга не мог вярнуць мяне да жыцця — сам, відаць, не ведаў, што за таварчык прадае). — Яшчэ не вечар, панове, яшчэ не вечар, — рэзка прыўзняўся, з разваротам асвяжаючы адэкалончыкам хлопца з пушкаю.

Кіроўца рвануўся тармазіць, каб вызваліць рукі і памагчы дружбаку. Не атрымалася: таго па інерцыі кінула ўперад, і ён хапануў порцыю газу з запасам. Абмяк адразу… Машына ўжо спынілася, але Шэры, замест таго каб мужна палезці ў бойку, выскачыў і сігануў прэч. І ключы, дурань, у замку пакінуў. Але каштоўным падарункам я не пакарыстаўся: азіяты згоншчыкаў вылоўліваюць — не паспееш свіснуць, а караюць так, што пасля не будзе чым свістаць. Я таксама пабег — у супрацьлеглы ад моста бок. Гэтак і засталіся пры сваіх.

Цікавы, як вам думаецца, масток, га? І мне так здаецца.

# АБЛАВА

— Санёк, кажуць, аблавы на ўсіх мытнях. Хлопцы прапаноўваюць адсядзецца дзень-другі ў гатэлі, дый апаратура на дзяржскладзе лепш захаваецца. Цяпер прымаўка: «Хто не рызыкуе — не п’е шампанскага» — не праходзіць. Не тыя часы. — Серж зрабіў глыбокую зацяжку, выдыхнуў, троху супакоіўся і далей напружваць абстаноўку не стаў. Глядзеў на сябра, чакаў, што скажа той.

«А калі яны былі тыя? — нервова падумаў Санька. — Ды ніколі! Прабач, але сядзець і ціха вар’яцець ад бяссілля і невядомасці — не для мяне. Збаўце!»

— Серж, — спрабаваў Санька гаварыць усё ж спакойна і ўпэўнена, — трэба ехаць, рухацца, уцякаць. Аблава — толькі пачатак. Далей кола пачне сціскацца. Дабяруцца рана ці позна і да склада, хай і дзяржаўнага. Трэба забіраць апаратуру і рваць на які-небудзь далёкі пераход. Наперадзе паслаць легкавушку (каб яшчэ і на халяўшчыкаў з ДАІ не нарвацца), а за ёй — нашу фуру. Рацыі, зразумела, прыхопім. Трэба ўцякаць, Серж! Павер яшчэ раз маёй інтуіцыі, яна ж пакуль не падводзіла.

— Можа, і глупства раблю, але іншага варыянта не знаходжу. Тут хоць інтуіцыя.

Калі іхняя фура, набітая апаратурай так, што і палец не ўсунуць, уехала на аднакалейку Геранёнскага мытна-памежнага пераходу і заняла амаль усю



яго тэрыторыю, па ашаломлена-тупаватых позірках вясковых мытнікаў Санька зразумеў: гэтым разам на яго жыццёвым шляху лёс паставіў бар'ер асаблівай моцнасці. Гэтыя сонныя мухі ў шэрым максімальна растаможвалі хіба што свінню, дый тую разабраную. І гэтым страшныя. Яны не зведалі асалоды валодання зялёнымі купюрамі і, значыць, у сваім ціхім сялянскім жыцці разлічвалі выключна на прасоўванне па службе.

Начальнік пункта-вагончыка выбег і схапіўся за галаву:

— Гэта што? Гэта ад-куль? Гэта д-для чаго?

Бедачына заікаўся.

«Калі пабачыць, што ўсярэдзіне, можа і анямець. Урэшце, гэта не так ужо і кепска. Мы яго для пачатку дарагім вінцом адпоім, потым паперкі патрэбныя ў кішэньку засунем. Галоўнае, каб у *цэнтр* не кінуўся званіць — экспертаў па апаратуры выклікаць. Гэтыя вампіры да трусоў могуць распрануць, вокам не маргнуўшы, а то і скуру зняць не напружваючыся. Эх, куды мяне панесла. Так і сапраўды можна бяду наклікаць. Сабрацца! Забыў, чым рызыкуеш? Забыў, як сям'я пасля леташняга ўлёту на Брэсцкай мытні паўгода чорным хлебам ды капустай жывілася? Забыў, што яшчэ і цяпер, калі бачыш тыя салатавыя качанчыкі, вантробы выварочвае? А ну, нюхні чорнай корачкі, можа, памяць і асвяжыш!»

Санька ўсхапіўся, быццам яму ў нос нашатырам пырснулі. Саскочыў з кабіны і рушыў насустрач лёсу і начальніку Геранёнскага перахода.

І правільна зрабіў: вада камень точыць, а вось пад ляжачы не цячэ.

## І вось ён вярнуўся...

Бензін скончыўся ўначы ў хвілінах язды ад дому. Бензін не мог не скончыцца: лёс не хацеў адпускаць яго вось так проста, не выпрабаваўшы на астатак і ў родным горадзе.

Разбуджаны таксіст за буксіроўку заламаў столькі, што калі б у чаўнака быў пісталет, ён адразу ж застрэліў бы крыхабора. Але пісталета не было, і чаўнок, сціснуўшы зубы, згадзіўся. Гэта быў той выпадак, калі з першых крокаў (а масць у гэтую паездку не пайшла адразу) ён вырашыў прабівацца любым коштам. Любым!

«Цікава, — пасміхнуўся вяла, — я ў мінусе ці хоць нешта на жыццё засталося? Зрэшты, цяпер такі час, што не выпасці з абоймы — ужо дасягненне».

Таксіст дацягнуў яго «васьмёрку» да пад’езда. Прыкінуўшы, што спрасонку заламаў суму, разоў у дзесяць большую за тарыф, моўчкі дапамог занесці тавар, асабістыя рэчы. Падзякаваў і знік.

Чаўнок перахрысціўся: здаецца, усё ціха, жонку не пабудзіў. Хай адпачывае — і так, гаротная, перанервавалася: шэсць сутак чакала. Стаў пад душ. Уключыў гарачую ваду. Саграваўся. Адчуў, што ад цяпла засынае. Выйшаў. Уздыхнуў. Нешта сэрца пакольвае. Не ўпершыню... Прысеў. Так лепш. Паглядзеў у акно. Позірк слізгануў на сцяну, столь — чаўнок траціў прытомнасць...



Раніцай, калі жонка выклікала «хуткую», ён ужо не дыхаў.

«Што ж гэта робіцца, што ж?» — стагнала яна, абдымаючы мужа, спрабуючы цяплом свайго цела вярнуць яго да жыцця. Але чаўнок не чуў.

Ён быў ужо *там*. Дакладней, *тут*. З намі. У «ТУ-154», які разбіўся пяць гадоў назад. З усіх пасажыраў ён адзін тады выжыў.

І вось ён вярнуўся.

# ЗМЕСТ

## Сшытак забітага кантрабандыста

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**
Сшытак забітага кантрабандыста
*апавяданні*

Рэдактар *?*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Г. Рабянкова*

Падпісана да друку 19.05.2007 г.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк на рызографе.
Гарнітура Times. Ум. друк. 11,13 арк. Ул.-выд. 6,14 арк.
Наклад ? ас. Зак.

Рэквізіты выдавецтва і друкарні